ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

# БЮЛЕТЭНЬ

## № 2

1927—1928



ВЫДАНЬНЕ ІНСТ. БЕЛ. КУЛЬТУРЫ. МЕНСК 1928.

ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ



# БЮЛЕТЭНЬ

## № 2

1927—1928

МЕНСК — 1928

Інстытут Беларускае Культуры быў заснаваны 20 лютага 1922 году. За час ад 1922 да 1926 году дзейнасьць Інстытуту Беларускае Культуры ўвесь час пашыралася і паглыблялася, і ўжо ў пачатку 1926 году было высунута пытаньне аб рэорганізацыі Інстытуту Беларускае Культуры ў вышэйшую навукова-дасьледчую ўстанову акадэмічнага тыпу. Рэорганізацыя дыктавалася самым жыцьцём і конктрэтна вылілася ў адпаведных пастановах ЦВК і СНК БССР. Дырэктыўнай пастановай для рэорганізацыі зьяўляецца пастанова Саюзнага ЦВК ад 4 чэрвеня 1926 году і пастанова СНК БССР ад 2 чэрвеня 1927 году. Названымі пастановамі рэорганізацыя і пашырэньне ІБК зводзілася да перабудовы Інстытуту Беларускае Культуры па тыпу Акадэмій Навук. Новы акадэмічны статут Інстытуту Беларускае Культуры быў зацьверджаны СНК БССР 29 чэрвеня 1927 году. 3 лістапада 1927 г. Саветам Народных Камісараў зацьверджаны Прэзыдыум Інстытуту Беларускае Культуры і склад правадзейных членаў наступным актам.

Копія

Кіраўніцтва Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнае Нарады Беларускае С. С. Р. Сакратарыят СНК.

ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ.

Да ведама і выкананьня.

ВЫПІС

з пратаколу № 23 п. 292 пасяджэньня Савету Народных Камісараў Беларускае ССР з 3 лістапада 1927 г.

Разглядалі:

292. Аб зацьверджаньні Прэзыдыуму і правадзейных членаў Інстытуту Беларускае Культуры.

Падае Інстытут Беларускае Культуры.

Дакл. т. Ігнатоўскі.

Р. № 4009/63.

Пастанавілі:

292. 1. Зацьвердзіць Прэзыдыум Інстытуту Беларускае Культуры ў наступным складзе:

1. т. Ігнатоўскі, У. М., Прэзыдэнт ІБК.
2. т. Бялуга, М. І., Віцэ-Прэзыдэнт ІБК.
3. Ластоўскі, В. Ю., Неадменны Сакратар ІБК.
4. т. Некрашэвіч, С. М., Старшыня Аддзелу Гуманітарных Навук.
5. т. Смоліч, А. А., Старшыня Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі.
6. т. Гэльтман, С. Л., Заг. Польскага Сэктару.
7. т. Аршанскі, Б. М., Заг. Яўрэйскага Сэктару.

2. Зацьвердзіць правадзейнымі членамі Інстытуту Беларускае Культуры наступных асоб.

1. У. М. Ігнатоўскі—па Катэдры гісторыі Беларусі.
2. С. М. Некрашэвіч—па Катэдры жывой беларускай мовы.
3. Я. Ю. Лёсік—па Катэдры навуковай беларускай мовы.
4. А. А. Самоліч—па Катэдры географіі,
5. І. І. Замоцін—па Катэдры гісторыі беларускай літаратуры.
6. А. М. Ясінскі—па Катэдры сусьветнай гісторыі.
7. У. І. Пічэта—па Катэдры гісторыі права і гаспадаркі Беларусі.
8. М. Т. Блюдухо—па Катэдры геолёгіі.
9. Я. М. Афанасьеў—па Катэдры глебазнаўства.
10. В. Ю. Ластоўскі—па Катэдры этнографіі.
11. С. Ю. Матулайціс — па Катэдры гісторыі Літвы ў сувязі з гісторыяй Беларусі.
12. І. Д. Луцэвіч (Янка Купала) — па Клясе прыгожага пісьменства.
13. К. М. Міцкевіч (Якуб Колас) па Клясе прыгожага пісьменства.
14. З. Жылуновіч па Клясе прыгожага пісьменства.

3. Дазволіць Інстытуту Беларускае Культуры падаць на зацьверджаньне Савету Народных Камісараў яшчэ чатыры кандыдатуры ў правадзейныя члены Інстытуту Беларускае Культуры, выбраныя на аснове пастановы распарадчага пасяджэньня СНК за 26 верасьня 1927 году (прат. № 16, п. 220)— адну кандыдатуру для Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі, дзьве кандыдатуры для Яўрэйскага Сэктару і адну кандыдатуру для Польскага Сэктару.

4. Пастановы аб складзе Прэзыдыуму і правадзейных членаў Інстытуту Беларускае Культуры апублікаваць.

Сакратар СНК БССР (Н. Угараў).

№ 4009/63
16 лістапада 1927 г.
г. Менск.

Верна: (подпіс).

На аснове акадэмічнага статуту, Інстытут Беларускае Культуры прыступіў да працы ў 1927-28 акадэмічным годзе паводле наступнай організацыйнай структуры, якая прадбачыла падзел Інстытуту на два аддзелы, а) Аддзел Гуманітарных Навук і б) Аддзел Прыродазнаўчых і Гаспадарчых Навук. Для абслугоўваньня абодвых Аддзелаў рад устаноў знаходзіўся пры Прэзыдыуме. Для абслугоўваньня культурных патрэб нацыянальных меншасьцяй БССР былі ўстаноўлены нацсэктары.

---

## Організацыйная структура.

### Установы пры Прэзыдыуме.

1. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства (ЦБК).
2. Бібліографічная Камісія.
3. Камісія для вывучэньня Заходняе Беларусі.
4. Вайскова-тэрмінолёгічная Камісія.
5. Камісія для вывучэньня прыродных вытворчых сіл Беларусі.
6. Бібліотэка.
7. Друкарня.

### Аддзел Гуманітарных Навук.

| Катэдры і спэцыяльнасьці. | Дасьледчыя ўстановы. |
|---|---|
| **КЛЯСА ФІЛЁЛЁГІІ.** | |
| Катэдра гісторыі беларускай мовы. | Камісія для складаньня гістарычнага слоўніка беларускай мовы. |
| Катэдра жывой беларускай мовы. | 1. Камісія для складаньня слоўніка жывой беларускай мовы.<br>2. Дыялектолёгічная Камісія. |

| | |
|---|---|
| | 3. Камісія для вывучэньня беларускай літаратурнай мовы.<br>4. Інстытут Навуковае мовы. |
| Катэдра гісторыі беларускай літаратуры. | 1. Камісія для выданьня твораў беларускіх пісьменьнікаў.<br>2. Камісія для складаньня біографічнага слоўніка беларускіх пісьменьнікаў. |

## КЛЯСА ГІСТОРЫІ.

| | |
|---|---|
| Катэдра агульнай гісторыі. | |
| Катэдра гісторыі Берарусі XIX і XX ст. | |
| Катэдра гісторыі беларускага права і гаспадаркі. | Археографічная Камісія. |
| Катэдра гістарычнай географіі Беларусі. | Камісія для складаньня гістарычна-географічнага слоўніка Беларусі. |
| Археолёгія. | 1. Археолёгічная Камісія.<br>2. Археолёгічны габінэт. |
| Гісторыя гарадоў і краін Беларусі. | Камісія для вывучэньня гісторыі гарадоў і краін Беларусі. |
| Гісторыя асьветы на Беларусі. | Камісія для вывучэньня гісторыі асьветы на Беларусі. |
| Катэдра этнографіі Беларусі. | 1. Камісія для вывучэньня матар'яльнай культуры.<br>2. Фольклёрная Каміся. |
| Беларускае мастацтва. | Інстытут беларускага мастацтва, у склад якога ўваходзяць:<br>1. Камісія для вывучэньня гісторыі беларускага мастацтва.<br>2. Камісія для вывучэньня гісторыі беларускага тэатру.<br>3. Камісія для вывучэньня беларускай песьні і музыкі.<br>4. Музэй беларускага мастацтва. |

## Аддзел Прыродазнаўчых і Гаспадарчых Навук.

### А. КЛЯСА ПРЫРОДЫ.

| | |
|---|---|
| Катэдра геолёгіі і гідролёгіі. | 1. Геолёгічны Інстытут<br>а) Сэкцыя рэгіональнае геолёгіі<br>б) Сэкцыя прыкладное геолёгіі. |
| Катэдра глебазнаўства. | |
| Катэдра ботанікі. | 1. Ботанічны сад у В. Летцах.<br>2. Ботанічная Камісія. |
| Зоолёгія. | Зоолёгічны музэй ІБК. |
| Катэдра географіі. | Камісія географіі і картографіі. |
| Катэдра хэміі. | Цэнтральная хэмічная лябараторыя (сумесна з Нав.-Дасьл. Інстытутам сел. і лясн. гасп. імя У. І. Леніна). |
| Катэдра антраполёгіі. | 1. Антраполёгічны габінэт.<br>2. Лябараторыя вышэйшае нэрвовае дзейнасьці. |
| Катэдра біолёгіі. | Лябараторыя экспэрымэнтальнае біолёгіі. |

### Б. КЛЯСА ГАСПАДАРКІ.

| | |
|---|---|
| Экономіка прамысловасьці. | 1. Камісія для вывучэньня прамысловасьці. |
| Экономіка дробнае прамысловасьці. | 2. Камісія для вывучэньня хатніх рамёстваў. |
| Экономіка коопэрацыі. | 3. Камісія для вывучэньня коопэрацыі. |
| | 4. Навуковае Таварыства для вывучэньня Беларусі ў Горках.<br>а) сэкцыя прыродазнаўства<br>б) сэкцыя гаспадаркі. |

### Нацсэктары.

| | |
|---|---|
| Яўрэйскі сэктар. | 1. Лінгвістычная Камісія.<br>2. Тэрмінолёгічная Камісія дыялектолёгічнага атлясу.<br>3. Камісія для вывучэньня гісторыі яўрэйскай літаратуры. |

| | |
|---|---|
| | 4. Камісія для вывучэньня яўрэйскага фольклёру. |
| | 5. Камісія для вывучэньня экономікі яўрэйскага насельніцтва. |
| Польскі сэктар. | 1. Камісія для вывучэньня польскае літаратуры і мовы. |
| | 2. Польская этнографічная Камісія. |
| | 3. Гістарычная Камісія. |
| Катэдра гісторыі Літвы. | |
| Латыская культура. | Камісія для вывучэньня культуры латышоў. |

---

На чале Інстытуту Беларускае Культуры стаяла Акадэмічная Рада, якой прыналежала агульнае кіраўніцтва Інстытутам.

## Акадэмічная рада.

Згодна § 28 Статуту Інстытуту Беларускае Культуты Акадэмічная Рада складалася з: а) членаў Прэзыдыуму, б) правадзейных членаў, в) прадстаўнікоў нацсэктараў і г) дырэктароў і кіраўнікоў самастойных навуковых устаноў ІБК. У справаздачным акадэмчіным годзе на вышзгаданых асновах у склад Акадэмічнае Рады пэрсанальна ўваходзілі:

1. Ігнатоўскі У. М., прав. чл., Прэзыдэнт ІБК, загадчык Катэдры гісторыі Беларусі.

2. Бялуга М. І. намесьнік Прэзыдэнта ІБК, Старшыня ЦБКраязнаўства.

3. Ластоўскі В. Ю., прав. чл., Неадменны Сакратар ІБК, загадчык Катэдры этнографіі.

4. Некрашэвіч С. М., прав. чл., кіраўнік Аддзелу Гуманітарных Навук, загадчых Катэдры жывой беларускай мовы.

5. Смоліч А. А., прав. чл., кіраўнік Аддзелу Прыродазнаўчых і Гаспадарчых Навук, загадчык Катэдры Географіі Беларусі.

6. Афанасьеў Я. М., прав. чл., загадчык Катэдры Глебазнаўства.

7. Блюдухо М. Т., прав. чл., дырэктар Інстытуту Геолёгіі.

8. Дурнаво М. М., прав. чл., загадчык катэдры Гісторыі беларускай мовы.

9. Жылуновіч З. Х. (Цішка Гартны), прав. чл., народны поэта.

10. Замоцін І. І., прав. чл., загадчык Катэдры літаратуры.

11. Лёсік Я. Ю., прав. чл., дырэктар Інстытуту Навуковае Мовы.

12. Луцэвіч Я. Д. (Янка Купала), прав. чл., народны поэта.

13. Матулайціс С. Ю., прав. чл., загадчык Катэдры літоўскай культуры.

14. Міцкевіч К. М. (Якуб Колас), прав. чл., народны поэта.

15. Пічэта Ў. І., прав. чл., загадчык Катэдры Гісторыі права і гаспадаркі Беларусі.

16. Ясінскі А. М., прав. чл., кіраўнік клясы гісторыі.

17. Аршанскі Б. М., чл. Прэзыдыуму загадчык Яўрэйскага Сэктару.

18. Бузук П. старшыня Дыялектолёгічнай Камісіі.

19. Вэйнгер М. старшыня Лінгвістычнае Камісіі Яўсэктару.

20. Віткоўскі Я. старшыня Гістарычнае Камісіі Польсэктару.

21. Гэльтман С. М. чл. Прэзыдыуму, Загадчык Польсэктару.

22. Дружчыц В. Д. старшыня Камісіі гісторыі горадоў Беларусі.

23. Дыла Я. Л. дырэктар Інстытуту Мастацтва.

24. Казак А. З. нам. старшыні ЦБ Краязнаўства.

25. Кісьлякоў І. А. старшыня Навуковага Т-ва ў Горках.

26. Ленц А. К. загадчык Катэдры антраполёгіі.

27. Фядзюшын А. дырэктар Музэю Зоолёгіі.

28. Эпімах-Шыпіла Б. І. дырэктар Слоўнікавай Камісіі жывой беларускай мовы.

29. Сосіс І. Д. старшыня Гістарычнае Камісіі Яўсэктару.

30. Трамповіч П. В. намесьнік старшыні Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі.

Пры разглядзе пытаньняў Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі прымалі ўдзел у Акадэмічнай Радзе з правам рашучага голасу:

Стракоўскі, старшыня Камісіі прамысловасьці.

Вяршук В. Я., старшы хэмік.

Адамаў У. Ў., вучоны спэцыялісты Катэдры батанікі.

Наўлянскі, старшыня Камісіі коопэрацыі.

Трахімаў Я. Г., старшыня Камісіі хатняй прамысловасьці.

За год Акадэмічная Рада мела сем паседжаньняў, на якіх абмеркаваны і вырашаны наступныя пытаньні:

Зацьверджаньне рабочага складу Акадэмічнае Рады (22-XII 28). Зацьведжаньне прадстаўнікоў ад устаноў Аддзелу Прыродазнаўчых і Гаспадарчых Навук у склад Акадэмічнае Рады, пры вырашаньні пытаньняў Аддзелу (11-II 28).

Выбары М. Дурнаво ў правадзейныя члены ІБК (28.I.28).

Выбары К. Сержпутоўскага ў члены корэспондэнты ІБК (11. II. 28).

Зацьверджаньне ўставы аб падзеле навуковых працаўнікоў ІБК на катэгорыі, паводле кваліфікацыі (31. III. 28).

Зацьверджаньне пляну працы Аддзелу Гуманітарных Навук (3. III. 28).

Зацьверджаньне пляну працы Аддзелу Прыродазнаўчых і Гаспадарчых Навук (31. III. 28).

Зацьверджаньне статуту Горы-Горацкага Навуковага Таварыства (28. I. 28).

Зацьверджаньне статуту друкарні ІБК (28. I. 28).

Зацьверджаньне выдавецкага пляну ІБК на 1927-28 акад. год. (22. XII. 28).

Зацьверджаньне пляну працы Камісіі для рэформы беларускага правапісу і графікі (3. III. 28).

Зацьверджаньне гадавых урачыстых паседжаньняў Акадэмічнае Рады ІБК (9. VI. 28).

Пастанова аб пабудове будынку для ІБК і аб патрэбе разгортваньня музэяў пры ІБК (9. VI. 28).

Зацьверджаньне справаздачы аб выкананьні каштарысу за мінулы 1927-28 акад. год. і заслуханьне дакладу аб каштарысе на 1928-29 акад. год (29. IX. 28).

---

## Прэзыдыум Інстытуту Беларускае Культуры.

У Прэзыдыуме заслухоўваліся даклады і вырашаліся навукова-арганізацыйныя, адміністрацыйна-гаспадарчыя і бягучыя справы.

За 1927-28 год адбылося 43 паседжаньні Прэзыдыуму Інстытуту Беларускае Культуры, на якіх было прагледжана 328 пытаньняў:

| | |
|---|---|
| Навукова-арганізацыйных | 263 |
| Адміністрацыйна-гаспадарчых | 29 |
| Заслухана дакладаў | 15 |
| Бягучых пытаньняў | 21 |

На паседжаньнях разглядаліся наступныя важнейшыя пытаньні:

4-X-27 г. 1) Аб прызначэньні і звальненьні навуковых працаўнікоў, 2) Аб Камісіі па ахове помнікаў, 3) Аб кандыдатах у правадзейныя члены ІБК.

11-X-27 г. 1) Аб прызначэньні новых правадзейных членаў ІБК, 2) Аб організацыі Катэдры біолёгіі, 3) Аб організацыі Катэдры гісторыі беларускае мовы, 4) Аб складзе Прэзыдыуму ІБК, 5) Аб рэалізацыі выдавецкага пляну ІБК на 1927-28 г. 6) Аб Вялікалетчанскім Садзе і 7) Аб пленуму ЦБК.

14-X-27 г. Аб складзе Прэзыдыуму ІБК.

18-X-27 г. Аб разьмеркаваньні каштарысных сродкаў ІБК на 1927-28 опэр. год.

26-X-27 г. Аб прызначэньні навуковых супрацоўнікаў. Аб парадку прадстаўленьня пытаньняў на вырашэньне Прэзыдыуму ІБК.

11-XI-27 г. Аб выдавецкім пляне ІБК на 1927-28 опэр. год. Аб справаздачы інстытуцый ІБК за мінулы год.

15-XI-27 г. Організацыйныя пытаньні Горацкага Навуковага Таварыства. Палажэньне аб Вялікалетчанскім Ботанічным Садзе і аб абвяшчэньні конкурсу на замяшчэньне пасады Дырэктара Саду. Аб складзе Рады аддзелаў.

21-XI-27 г. Зьмены ў штатах і павялічэньне пэнсіі. Аб біолёгічнай ляборатормі. Аб проекце статуту ЦБК. Аб організацыі выдавецкага бюро. Аб пазаштатных супрацоўніках. Аб Літоўскай Мэтрыцы. Аб зорганізаваньні пазаштатнай Катэдры па вывучэньні беларускага права. Аб бібліотэчнай радзе.

24-XI-27 г. Проект палажэньня Геолёгічнага Інстытуту. Аб уніфікацыі назвы выданьняў. Аб складзе Акадэмічнае Рады ІБК.

6-XII-27 г. Проект палажэньня КПВСБ. Аб выданьні справаздачы і бюлетэняй ІБК. Палажэньне аб Бібліографічнай Камісіі. Аб сувязі ў працы Бібліографічнай Камісіі з Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкай.

20-XII-27 г. Аб вылучэньні прадстаўніка ў Раду Дзяржаўнага Музэю. Правілы падрыхтоўкі асьпірантаў у Інстытуце Беларускае Культуры. Аб узаемаадносінах паміж нацсэктарамі і аддзеламі Інстытуту Беларускае Культуры.

28-XII-27 г. Заключэньне на матар'ялы да Ўсесаюзнага Зьезду па вывучэньні прыродных вытворчых сіл. Палажэньне аб друкарні ІБК. Разгляд проекту ўмовы з друкарняй ІБК. Палажэньні аб асьпірантах. Аб колектыўным дагаворы з Саюзам.

7-I-28 г. Даклад аб дзяржаўным запаведніку. Аб кандыдатуры проф. Дурнаво ў правадзейныя члены ІБК. Аб асабовым складзе Рады Яўрэйскага Сэктару ІБК. Аб карыстаньні кнігамі навуковымі супрацоўнікамі ІБК з саюзных бібліотэк.

17-І-28 г. Проект палажэньня аб наглядальным савеце КПВСБ. Аб утварэньні Катэдры права. Аб сыстэме выданьняў ІБК.

24-І-28 г. Проект статуту Горацкага Навуковага Таварыства для вывучэньня Беларусі. Аб 20-гадовым юбілеі Цішкі Гартнага. Аб дакладах аб працы паасобных устаноў ІБК у Прэзыдыуме ІБК. Аб парадку ўнясеньня на зацьверджаньне Акадэмічнае Рады плянаў працы ўстаноў ІБК.

31-І-28 г. Устава аб скарынінскіх прэміях. Аб камандыраваньні прадстаўніка ІБК на адчыненьне Катэдры яўрэйскае культуры пры Украінскай Акадэміі Навук. Аб гадовых урачыстых днёх Інбелкульту. Арганізацыйныя пытаньні Польсэктару.

14-ІІ-28 г. Даклад Катэдры антрополёгіі. Плян працы Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі. Аб пэрспэктыўных пяцігадовых плянах. Проект палажэньня аб асабовым камітэце Акадэміі Навук СССР для досьледаў саюзных і аўтаномных рэспублік. Аб кніжнай выстаўцы ў Кельне. Аб пабудове новага будынку для ІБК.

21-ІІ-28 г. Аб арганізацыі фэнолёгічнай камісіі пры Аддзеле Прыроды і Гаспадаркі. Даклад Інстытуту Навуковае Мовы. Аб падзеле навуковых працаўнікоў па кваліфікацыі. Часовая інструкцыя аб норме нагрузкі працай навуковых працаўнікоў ІБК. Аб пяцігадовым пляне росту Інстытуту Беларускае Культуры.

23-ІІ-28 г. Аб устанаўленьні садружаства з школай 6-га палка Баларускай тэрыторыяльнай дывізіі.

28-ІІ-28 г. Даклад Хэмічнае Ляборatoрыі ІБК. Проект уставы аб асьпірантах, апрацаваны Галоўнавукай. Аб падзеле навуковых супрацоўнікоў ІБК па кваліфікацыі. Пастанову ЦВК БССР ад 2-ІІ-28 г. аб павялічэньні работы па беларусазнаўству сярод працоўнага насельніцтва. Аб новай назьве выданьня Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі. Аб дармовай дасылцы паштовых адпраўленьняў ІБК. Аб дасылцы выданьняў ІБК праз ВОКС. Аб прыняцьні ўдзелу ў кніжнай выстаўцы ў Кельне.

6-ІІІ-28 г. Проект уставы аб асьпірантах, апрацаваны Галоўнавукай. Даклад аб працы Слоўніковай Камісіі. Аб пляне працы Камісіі па вывучэньні Заходняй Беларусі. Аб вылучэньні ад ІБК прадстаўніка ў выставачны камітэт с.-г. прамысловасьці. Аб проекце пашырэньня ІБК у сувязі з укладаньнем 5-гадовага пэрспэктыўнага пляну.

13-ІІІ-28 г. Даклад аб працы Зоолёгічнага Музэю. Аб вылучэньні прадстаўнікоў ІБК у Навуковую Раду пры Галоўнавуцы.

20-III-28 г. Аб організацыі новых установ ІБК па 5-гадоваму пляну. Аб пляне працы Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі. Зацьверджаньне асабовага складу Горацкага Навуковага Таварыства для вывучэньня Беларусі.

27-III-28 г. Рэзолюцыю па дакладу проф. Фядзюшына аб працы Зоолёгічнага Музэю. Даклад Нам. Старшыні ЦБК аб працы Цэнтральнага Бюро Краязнаўства. Програму укладаньня арыентовачных плянаў ІБК на 1928-29 г.—1932-33 г. Аб камандыроўцы прадстаўніка ІБК у Акадэмію Навук СССР на параду для ўзгадненьня дасьледчых прац. Пастанову Нацкамісіі пры ЦВК аб тэрмінолёгічнай працы ІБК. Аб Камісіі для выданьня Літоўскай Мэтрыкі. Плян працы нацсэктароў.

3-IV-28 г. Даклад Археолёгічнай Камісіі. Аб перадачы Зоолёгічнаму Музэю палеонтолёгічных матар'ялаў. Плян працы бібліографічнай камісіі. Плян працы ІБК. Плян працы Яўрэйскага Сэктару. Аб камандыраваньні прадстаўнікоў Яўсэктару ІБК на зьезд Яўрэйскіх Культурных працаўнікоў. Аб юбілеі М. Горкага. Інформацыю т. Трамповіча аб склі-каньні Ўсесаюзнай Конфэрэнцыі „КЕКС'у".

10-IV-28 г. Проект статуту Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Даклад энтографічнай камісіі. Рэзалюцыю па дакладу археолёгічнае камісіі. Уставу Зоолёгічнага Музэю. Аб дадатковым асабовым складзе ботанічнае камісіі. Аб асабовым складзе географічнае камісіі.

22-IV-28 г. Аб камандыроўцы прадстаўнікоў ІБК на 2 ўсесаюзную конфэрэнцыю па вывучэньні прыродных вытворчых сіл. Вылучэньне прадстаўніка ІБК у камісію пэрспэктыўнага плянаваньня. Штаты ІБК на 1928-29 г. Даклад Старшыні Камісіі прамысловасьці аб працы камісіі.

8-V-28 г. Даклад Камісіі гісторыі асьветы на Беларусі. Статут Таварыства беларускага мастацтва. Аб камандыроўцы т. Ляўданскага ў Маскву на абласную нараду палеонтолёгаў. Аб водпуску навуковых супрацоўнікаў ІБК. Зацьверджаньне асабовага складу Горацкага Навуковага Таварыства.

15-V-28 г. Даклад Старшыні Камісіі хатніх рамёстваў аб працы камісіі. Устава Бібліотэкі Інстытуту Беларускае Культуры. Аб пленуме КПВСБ. Аб сувязі з навукова-дасьледчым Інстытутам імя Шэўчэнкі.

22-V-28 г. Даклад Вайсковай Камісіі. Зацьверджаньне асабовага складу Таварыства для вывучэньня мастацтва. Рэалізаваньне пастановы Колегіі РСІ ад 5-IV-28 г. Аб пабудове спэцыяльнага дому для ІБК. Пастанову Сакратарыяту ІБК ад 21-V аб экспэдыцыях. Рэзолюцыя па дакладу Камісіі хатніх рамёстваў.

29-V-28 г. Вылучэньне членаў Прэзыдыуму ІБК для перагавору з Акруговым Выканаўчым Камітэтам аб будынку ІБК. Даклад Камісіі па вывучэньні гарадоў і краін Беларусі. Падрыхтоўка асьпірантаў ІБК. Аб чарзе водпуску членаў Прэзыдыму. Аб роспуску старога складу Горацкага Навуковага Таварыства. Аб перадачы архіву Камісіі па ахове помнікаў і старажытнасьці Галоўнавуцы. Рэзолюцыю Саўнаркому па дакладу ІБК ад 16-V-28 г.

5-VI-28 г. Даклад дырэктара Геолёгічнага Інстытуту аб працы Інстытуту.

13-VI-28 г. Даклад Катэдры сучаснага беларускага права. Аб сумяшчэньні працы навуковых працаўнікоў ІБК у іншых установах. Аб пэрсональнай пэнсіі народным поэтам Янку Купалу і Якубу Коласу, як правадзейным членам ІБК. Проект палажэньня аб НКА. Проект арэнднай умовы памяшканьня друкарні ІБК. Проект рэзолюцыі па дакладу геолёгічнага Інстытуту.

19-VI-28 г. Аб выбарах Прэзыдыуму Горацкага Навуковага Таварыства. Аб глебазнаўчых досьледах гэтага году. Аб Белгеофіз'у. Пастановы плёнуму КПВСБ. Аб зьменах у 5-гадовым пэрспэктыўным пляне. Аб каштарысе ІБК на наступны год.

22-VI-28 г. Аб дазволе на сумяшчэньне працы навуковых працаўнікоў ІБК.

26-VI-28 г. Аб выданьні расійска-беларускага слоўніку Інбелкультам. Аб прызначэньні пэнсіі Грыневічу. Дакладную інжынера Галавінскага аб утварэньні Інстытуту вытворчых сіл. Аб падзеле навуковых працаўнікоў Аддзелу Гуманітарных Навук на катэгорыі. Аб нагрузцы працай навуковых працаўнікоў ІБК.

11-IX-28 г. Аб вакантных пасадах і парадку прызначэньня новых працаўнікоў. Інформацыя аб каштарысе ІБК на 1928-29 г. Аб вылучэньні прадстаўніка ў камісію па перадачы архіваў Польшчы. Аб справаздачах правадзейных членаў ІБК за 1927-28 г. Аб парадку справаздачы аддзелаў і нацсэктароў за 1927-28 г., Аб юбілеі Цішкі Гартнага. Аб 10-гадовым юбілеі абвяшчэньня Беларускай С. С. Рэспублікі. Аб нагляданьні за раскопкамі пры каналізацыі ў г. Менску.

18-IX-28 г. Зьмены ў штатах ІБК. Абмеркаваньне кандыдатур на штатныя пасады. Аб камандыраваньні асьпірантаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы РСФСР. Аб удзеле ў паседжаньнях камітэту па адзначэньні 60-годзьдзя М. Пакроўскага. Пытаньне аб польска-беларускім слоўніку. Аб нявыкарыстаных сродках на конфэрэнцыі і зьезды.

## Сакратарыят.

Для разгляду і вырашэньня спраў, зьвязаных з адміністрацыйна-гаспадарчым жыцьцём Інстытуту Беларускае Культуры і для падрыхтоўкі пытаньняў для разгляду ў Прэзыдыуме, працаваў Сакратарыят у наступным складзе:

М. Бялуга, віцэ-прэзыдэнт.

В. Ластоўскі, неадменны сакратар.

С. Некрашэвіч, старшыня Аддзелу Гуманітарных Навук.

А. Смоліч, старшыня Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі.

М. Вэйнгер, прадстаўнік Яўсэктару.

Я. Віткоўскі, прадстаўнік Польсэктару.

За 1927-28 г. акадэмічны год адбылося 27 паседжаньняў Сакратарыяту, на якіх было разгледжана 320 пытаньняў

---

## Бюджэт Інстытуту Беларускае Культуры.

На справаздачны 1927-28 бюджэтны год было асыгнавана 384.693 р. Гэтая сума, пастановаю СНКБ ад 15-II-1928 г. аб усеагульным скарачэньні бюджэту БССР, была скарочана на 26.011 р. Такім чынам фактычна ў карыстаньні ІБК было па дзяржбюджэту 358.682 р. і з спэцсродкаў 4.159 р. 83 к., якія склаліся ад падпіскі на „Наш Край“ і продажы выданьняў ІБК. У пачатку 1927-28 г. ўсе сродкі былі разьмеркаваны наступным чынам:

| Назва выдаткаў | Усяго асыгнав. крэд. на 27-28 год. | Знаходзіцца ў распарадку | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Прэзыд. з установ пры ім | Ц. Б. К. | Аддзел Гуман. Навук | Аддзел Прыроды і Гасп. | Яўр. сэктар. | Польскі сэктар. |
| Заробак і соцстрах . | 162890 | 162890 | па адд | зелах | не раз | ьмярк | оўвал. |
| Канц. і гасп. выдаткі . | 10000 | 10000 | — | — | — | — | — |
| Падарожныя . . . | 6200 | 760 | 1200 | 1660 | 1660 | 550 | 370 |
| Абсталяв. . . . | 36500 | 4500 | — | 550 | 31450 | — | — |
| Спэц. нав. выд. . . | 17000 | 1250 | 500 | 7750 | 4000 | 2700 | 800 |
| Зьезды і конфэрэнцыі . | 3151 | 451 | 300 | 800 | 1000 | 300 | 300 |
| Выдавецтва . . . | 67941 | 6841 | 6800 | 27000 | 18000 | 6500 | 2800 |
| Бібліютэка . . . | 5000 | 5000 | — | — | — | — | — |
| Навук. эксп. . . . | 50000 | — | 900 | 4900 | 43100 | 800 | 300 |
| Усяго . | 358682 | | | | | | |

Спэцсродкі разьмеркаваны так: для Яўрэйскага Сэктару 1500 р. на пакрыцьцё выдаткаў па Цайтшрыфту, рэшта ЦБК для выданьня працы па апісаньні Асіпавіцкага раёну і пакрыцьцё выдаткаў на „Наш Край“, усяго 2659 р. 83 к. Апроч таго СНКБ вызначаў 3000 р. для выданьня матар‘ялаў аб беларускіх музычных інструмэнтах.

Выдаткі зроблены наступным чынам.

1) Заробку і соцстраху выплачана за год 156935 р. 29 к.; засталося нескарыстанымі 5543 р. 71 к. з прычыны незамяшчэньня некаторых пасад высокакваліфікаванымі спэцыялістамі; зачынена па працягу году 411 р.

2) Канцэлярскія, паштовыя і гаспадарчыя сумы скарыстаны цалкам, прычым маемасьці набыта на 1.337 р. 07 к.

3) Падарожныя выдаткі былі разьмеркаваны, як паказана вышэй у табліцы, і скарыстаны ў суме 5.398 р. 30 к. наступным чынам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| навуковыя камандыроўкі ў СССР | 3161 | р. | 41 к. |
| „ „ „ БССР | 186 | „ | 48 „ |
| краязнаўчыя „ | 778 | „ | 96 „ |
| і розныя „ | 118 | „ | 95 „ |
| на прыезды навуковых працаўнікоў на даклады | 267 | „ | 70 „ |
| на пераезды навуковых працаўнікоў для працы | 338 | „ | 64 „ |
| на замежныя камандыроўкі | 546 | „ | 16 „ |
| засталася нескарыстаных | 801 | „ | 70 „ |

4) Асыгнаваная на абсталяваньне сума скарыстана цалкам: на Аддзел Прыроды і Гаспадаркі 31.433 р. 10 к. і на Аддзел Гуманітарных Навук 522 р. 50 к. Апроч таго выплачана дадаткова за друкарскую машыну-саманакладку 4544 р. 49 к., якая з аплачанымі яшчэ ў мінулым годзе сумамі каштуе 3.764 р. 64 к. Набытае абсталяваньне прыпадае галоўным чынам для Геолёгічнага Інстытуту, Катэдры біолёгіі, антраполёгіі, зоомузэю, хэмічнае лябараторыі і катэдры глебазнаўства; у гэтым ліку з-за межаў атрымана за год абсталяваньня на 12.530 р. 70 к. і чакаецца ў лістападзе-сьнежні на 8.829 р. 01. к.

5) Спэцыяльна на навуковыя выдаткі было асыгнавана, як відаць з табліцы, 17.000 р., але з прычыны недахопу да гэтага былі пераведзены з навуковых экспэдыцый 5.000 р. і такім чынам фактычна выдаткавана 22.000 р. Сюды ўваходзіць набыцьцё навуковых матар‘ялаў—1.865 р. 69 к., аплата перапіскі і апрацоўка навуковых матар‘ялаў—5.908 р. 26 к., іншыя выдаткі на навуковую часьць—2.885 р. 38 к., падрыхтоўка акадэмічнага беларускага слоўніка—3.905 р. 14 к., за падрыхтоўку тэрмінолёгіі—3.596 р. 97 к., бібліографічная картотэка—295 р. 40 к.; набыта рэактываў для хэмічнае лябараторыі на 336 р. 19 к. З гэтых выдаткаў прыпадае на Гуманітарны Аддзел 12.210 р. 32 к. і на Аддзел Прыроды і

Гаспадаркі 5.477 р. 31 к., на краязнаўчыя патрэбы ЦБК выдаткавана 507 р. 22 к., Яўсэктар на аплаты слоўніковае працы, перапіску гістарычных матар'ялаў і інш. выплаціў 2.691 р. 55 к. і Польсэктар за польска-беларускі слоўнік і перапіску архіўных матар'ялаў выплаціў 818 р. 20 к.

6) Намеченыя каштарысам зьезды з незалежных прычын не адбыліся і таму скарыстана толькі на пленум КПВСБ 227 р. 80 к. і пленум ЦБК 114 р. 86 к., а разам 342 р. 66 к. Астача 2.808 р. 34 к., згодна пастановы Прэзыдыуму ІБК ад 18 верасьня 1928 г., скарыстана на аплату перавыдаткаў на выдавецтва і бібліотэкі.

7) На выдавецтва было асыгнавана па каштарысу 67.941 р., а фактычна выдаткавана 69.123 р. 11 к. Сюды ўваходзіць аплата выданьняў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| беларускіх | ганарар 10.144 р. 09 к., | друк і клішэ | 39.880 р. 25 к. |
| час. „Наш Край" | „ 1.590 „ 83 „ | „ „ | 6.440 „ 84 „ |
| яўрэйскіх | „ 1.968 „ 30 „ | „ „ | 6.759 „ 30 „ |
| польскіх | „ 339 „ 50 „ | „ „ | 2.000 „ — (аванс) |

З спэцсродкаў выплачана на час. „Наш Край" за друк, ганарар і экспэдыцыі 2.659 р. 83 к. На яўр. час. „Цайтшрыфт" 1.500 р.

8) Бібліотэка скарыстала сродкі з перавышэньнем на 1.626 р. 23 к., г. зн. усяго 6.626 р. 23 к., прычым набыта рознае літаратуры на расійскай, беларускай, польскай, латыскай і замежных мовах усяго на 4.673 р. 30 к., на пэрыодычны друк, каталёгаваньне і розныя выдаткі 1.952 р. 93 к. у гэтым ліку з-за межаў бібліотэкай набыта літаратуры на 1.9750 р. 50 к.

9) З асыгнаваных 50.000 р. на навуковыя экспэдыцыі было фактычна скарыстана толькі 45.000 р. з прычыны таго, што экспэдыцыя для вывучэньня энэргетыкі, дзеля нястачы кіраўнікоў, не адбылася.

Праведзены наступныя навуковыя экспэдыцыі:

Цэнтральным Бюро Краязнаўства адна комплексная экспэдыцыя для краязнаўчага вывучэньня Дубровенскага раёну, на якую выдаткавана 667 р. 08 к.

Аддзелам Гуманітарных Навук выдакавана:

| | |
|---|---|
| а) на дыялектолёгічныя досьледы | 820 р. 18 к. |
| б) зьбіраньне народных мэлёдый | 253 „ 54 „ |
| в) на вывучэньне гістарычна-архэолёгічных помнікаў і драўляных старасьвецкіх будынкаў | 284 „ 13 „ |
| г) энтографічнае вывучэньне беларускай народнай вопраткі і орнамэнтыкі | 955 „ 45 „ |
| д) Археолёгічныя досьледы | 2470 „ 64 „ |
| Разам | 4.783 р. 76 к. |

Аддзелам Прыроды і Гаспадарі выдаткавана:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| а) на геолёгічныя досьледы . . . | 8.152 | „ | 21 | „ |
| і на апрацоўку матар'ялаў . . | 3.948 | „ | 33 | „ |
| б) на глебавыя досьледы . . . . | 6.431 | „ | 31 | „ |
| і на апрацоўку матар'ялаў . . | 3.332 | „ | 18 | „ |
| в) на батанічныя досьледы і апрацоўку матар'ялаў . . . . . . | 4.351 | „ | 51 | „ |
| г) на зоолёгічныя досьледы . . . | 1.318 | „ | 12 | „ |
| д) на антраполёгічныя досьледы . . | 1.240 | „ | 92 | „ |
| е) на географічныя досьледы . . . | 1.337 | „ | 98 | „ |
| ж) на біолёгічныя досьледы . . . | 649 | „ | 72 | „ |
| з) на вывучэньне курортных мясцовасьцяй . | 646 | „ | 36 | „ |
| і) „ „ хатніх рамёстваў . . | 521 | „ | 91 | „ |
| к) „ „ броварнае прамысловасьці | 604 | „ | 23 | „ |
| л) „ „ смалярнае „ | 249 | „ | 71 | „ |
| м) „ „ коопэрацыі . . . | 860 | „ | — | „ |
| н) „ „ плянктону . . . | 500 | „ | — | „ |
| о) на геомагнэсавыя здымкі . . . | 702 | „ | 20 | „ |
| п) на досьледы Горацкага Навуковага Т-ва . . . . . . . | 3.529 | р. | 09 | „ |
| Разам . . . | 38.375 | р. | 78 | к. |

Яўрэйскі Сэктар на энтографічныя досьледы Дубровенскага раёну выдаткаваў . . 826 р. 74 к.

і Польскі Сэктар на экспэдыцыю ў Гомельшчыну . . . . . . . 346 „ 64 „

Такім чынам ад асыгнаваных 358.682 р. фактычна выдаткавана, як паказана вышэй, за справаздачны год 352.336 р. 58 к. і засталося ў касе Дзяржбанку 6.345 р. 42 к., якія пайшлі ў прыбытак дзяржавы.

---

## Выдавецтва.

Выдавецкай справай у справаздачным годзе непасрэдна кіравала Выдавецкае Бюро ў складзе: т. Бялугі (старшыня Бюро), т. Ластоўскага і т. Мільхмана (члены Бюро). Усе прынцыповыя пытаньні, пытаньні выдавецкага пляну, патрэбных сродкаў на яго выкананьне, папаўненьне абсталяваньнем друкарні і інш. вырашаліся Прэзыдыумам і Сакратарыятам ІБК. Апроч таго, усе пастановы Выдавецкага Бюро зацьвярджаліся Прэзыдыумам, таму што само Бюро лічылася дапаможнаю організацыяй Прэзыдыуму.

Пераважная большасьць выдавецкага пляну выконвалася ў друкарні ІБК. Дзякуючы гэтаму значна палепшыўся тэхнічны бок выданьняў, зроблена экономія на выдавецкіх

сродках, што дало магчымасьць павялічыць лік друкаваных навуковых прац і абсталяваньне друкарні (шрыфты, касы, лінейкі і інш.); утворана была магчымасьць рэгуляваць парадак друкаваньня прац; сачыць за сваечасовым выхадам прац з друку і г. д. Усіх гэтых магчымасьцяй быў-бы пазбаўлены ІБК, каб ня было ўласнае друкарні.

Ня гледзячы на паказаныя дасягненьні організацыі выдавецкай справы,назіраліся і значныя недахопы. Да гэтых недахопаў трэба залічыць: а) неправеранасьць перад здачаю ў друк аўтарамі сваіх прац; б) высокі, у паасобных выпадках, процант аўтарскае корэкты (да 48% набору; апошні недахоп часта зьяўляўся вынікам першага); в) затрымка аўтарамі на вялікі тэрмін у сябе корэкты (да аднаго месяца); г) недахоп тэхнічнага абсталяваньня друкарні (шрыфты, сшывальная машына); д) несвоечасовы выхад прац з друку і г. д.

На выдавецтва ІБК было асыгнавана каштарысаў 67.941 р. Выходзячы з гэтае сумы, з разьліку коштy друкаванага аркуша, а таксама ўлічваючы выдавецкія пляны ўстаноў, Прэзыдыум ІБК прыняў на 1927-28 г. орыентацыйна выдавецкі плян на 494 друк. аркушы (аркуш—40.000 друк. знакаў). Плян гэты складаўся з прац:

| | |
|---|---|
| Філёлёгічны Зборнік т. II . . . . . . | 15 арк. |
| Зборнік літаратурны т. I . . . . . . | 10 „ |
| „ гісторыі т. III . . . . . . | 35 „ |
| „ археолёгіі т. II . . . . . . | 15 „ |
| „ мастацтва . . . . . . | 17 „ |
| „ энтографіі . . . . . . | 15 „ |
| Бузук. Лінгвістычная географія Беларусі . . | 10 „ |
| Тэрмінолёгіі: | |
| Глебазнаўчая . . . . . . . . | 4 „ |
| Аграномічная . . . . . . . . | 4 „ |
| Хэмічная ч. I . . . . . . . . | 8 „ |
| Бугальтэрская . . . . . . . . | 6 „ |
| Мэдычная (нэўралёгія) . . . . . . | 6 „ |
| Вэтэрынарная . . . . . . . . | 5 „ |
| Фізычная . . . . . . . . | 6 „ |
| Шатэрнік. Слоўнік Ігуменшчыны . . . | 20 „ |
| Багдановіч. Збор твораў т. II . . . | 25 „ |
| Беларускі Архіў т. II . . . . . . | 26 „ |
| А. Сержпутоўскі. Забабоны . . . . | 10 „ |
| Альбом народных орнамэнтаў . . . . | 4 „ |
| Матар‘ялы для вывучэньня беларускае песьні (з нотамі) . . . . . . . . | 6 „ |

Запіскі Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі 2 кнігі ў год па 15 арк. . . . . . . 30 арк.

Монографіі з закрэсу геолёгіі:

Б л ю д у х о. Карысныя выкапні.

Т э р л е ц к і. Геолёгічныя нарысы Мазыршчыны.

С к а н д р а к о ў. Агроруды БССР . . . 12 „

Монографіі з закрэсу глебазнаўства:

Глебавыя карты 2 акруг

Зональныя сыстэмы глебаў . . . . . 15 „

Монографіі з закрэсу ботанікі і зоолёгіі (матар'ялы да вывучэняня флёры і фаўны) . . . 10 „

Монографіі аб ткацтве і атляс тканіны . 8+12 „

Анкеты і програмы . . . . . . . 6 „

Працы Навуковага Таварыства для вывучэньня Беларусі ў Горках . . . . . 30 „

10 нумароў час. „Наш Край“ па 4 арк. . . 40 „

Апісаньне Асіпавіцкага раёну . . . . 8 „

Яўрэйскага Сэктару:

„Цайтшрыфт“ . . . . . . . . 20 „

„Ротэ Блятэр“ . . . . . . . 15 „

Хэмічная тэрмінолёгія . . . . . . 5 „

Польскага Сэктару:

1863 г. у б. губ. Віцебскай і Магілеўскай . . 30 „

Вайсковы статут пяхоты . . . . . . 15 „

Бібліографія Энтографіі . . . . . . 10 „

Такім чынам, для прац у галіне гуманітарных навук вызначалася 233 друкаваных аркушы; для прац з закрэсу прыроды і гаспадаркі 128 аркушоў, для краязнаўчых прац—48, для прац Яўрэйскага Сэктару—40, польскага—30, вайсковай і бібліографічнай камісій—25 друк. аркушоў.

З папярэдняга году засталіся ненадрукаванымі і былі закончаны друкам у 1927-28 г. наступныя працы:

Ш л ю б с к і. Матар'ялы да вывучэньня фольклёру і мовы Віцебшчыны, т. I.

Зборнік Філёлёгіі, т. I.

Флёра і фаўна Беларусі, т. II.

Г а р э ц к і і Я г о р а ў. Народныя песьні.

Ш ч а к а ц і х і н. Гісторыя беларускага мастацтва, т. I.

Апісаньне Асіпавіцкага раёну, т. I.

Мэдычны Зборнік т. II.

Навуковыя артыкулы (зборнік).

„Цайтшрыфт“ т. т. II і III.

Бібліографія Этнографіі (друкавалася ў Друкарні Белдзяржвыдавецтва).

Працы Горацкага Навуковага Татарыства, т. V.

Апісаньне Горацкага раёну (Праца Горацкага Навуковага Таварыства).

Граматычна-лінгвістычная тэрмінолёгія.

Усяго ў справаздачным годзе было надрукавана 566 аркушоў плянавых прац. У процэсе выкананьня выдавецкага пляну было прынята да друку неплянавых прац:

1) Шлюбскі. Матар'ялы да вывучэньня фольклёру Віцебшчыны, т. II.

2) Матар'ялы да географіі статыстыкі Беларусі.

3) Бібліографія Археолёгіі.

З плянавых прац, прынятых да друку, былі перанесены ў выдавецкі плян 1928-29 г. наступныя:

1) Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук, т. II.

2) Альбом народных орнамэнтаў.

3) Матар'ялы да вывучэньня беларускае песьні.

4) Запіскі Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі, т. II.

5) 1863 год на Беларусі (Магілеўшчына і Віцебшчына).

6) Бібліографія Археолёгіі (няплянавая).

З плянавых прац 1927-28 г. ненадрукаваны і перанесены на наступны год:

1) Запіскі Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі, т. I.

2) Зборнік флёры і фаўны, т. II.

3) Матар'ялы для вывучэньня гісторыі беларускага мастацтва.

4) Багдановіч М. Творы, т. II.

5) Беларускі Архіў, т. II.

6) Матар'ялы для вывучэньня археолёгіі, т. II.

Тэрмінолёгіі:

7) Хэмічная.

8) Сельска-гаспадарчая.

9) А. Сержпутоўскі. Вераньні і забабоны Случчыны.

10) Матар'ялы да географіі і статыстыкі Беларусі.

11) Фольклёр Віцебшчыны т. II.

12) Слоўнік Чэрвеншчыны.

13) Бібліографія археолёгіі.

14) Апісаньне Асіпавіцкага раёну, т. II.

З плянавых прац справаздачнага году былі ня зданы па тых ці іншых прычынах да друку наступныя навуковыя працы:

1) Мэдычная тэрмінолёгія.

2) Вэтэрынарная тэрмінолёгія.

3) Фізычная тэрмінолёгія.

4) Монографіі з закрэсу геолёгіі.

5) Проф. Блюдухо. Карысныя выкапні.

6) Тэрлецкі. Геолёгічныя нарысы Мазыршчыны.

7) Проф. Скандракоў. Агроруды БССР.
8) Проф. Афанасьсеў. Зональныя сыстэмы глеб.
9) Матар'ялы аб ткацтве.

Дзякуючы спрыяючым умовам, аб якіх сказана вышэй, лік друкаваных прац значна перавысіў орыентовачны выдавецкі плян, прыняты Прэзыдыумам ІБК. Перавышэньне гэта ідзе галоўным чынам за лік друкаваных аркушоў і тлумачыцца тым, што працы здаваліся куды большыя ў параўнаньні з папярэднім азначаньнем ліку друкаваных аркушоў для кожнай працы.

---

**Пастанова Савету Народных Камісараў і Экономічнай Нарады БССР на даклад аб выніках дасьледчае працы ў галіне дасьледаваньня багацьцяў БССР, вынесеная 16 мая 1928 году, пратакол № 43 п. 570.**

Пастанавілі:

570. Выслухаўшы даклад Інстытуту Беларускае Культуры і Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР аб выніках дасьледчае працы ў галіне дасьледваньня розных багацьцяў БССР і заключэньне Дзяржаўнай Плянавай Камісіі, Савет Народных Камісараў пастанаўляе:

1. Адзначыць, што Інстытутам Беларускай Культуры разгорнута даволі значная навукова-дасьледчая праца ў галінах дакладных навук: геолёгіі—рэгіянальнай і прыкладной, глебазнаўства, геоботаніцы, географіі, геофізіцы, хэміі, а таксама і па вывучэньні вытворчых сіл народнай гаспадаркі БССР.

2. Адзначыць, што дасьледчая праца Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР, якая праводзілася ў 1926-1927 годзе дасьледчымі партыямі, зрабіўшымі дэтальныя разьведкі па мінэральнай сыравіне і апалу (торп, крэйда, фосфарыты, мэргелі і інш.), зьяўляюцца вельмі каштаўнай як пачатак прамысловага будаўніцтва БССР на грунце выяўленьня энэргетычных і мінэральна-сыравінных рэсурсаў шляхам практычнага ўжыцьця вынікаў навуковых дасьледваньняў.

3. Констатаваць, што дасьледчыя работы Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР і Інстытуту Беларускае Культуры выявілі ў БССР шмат яшчэ нескарыстаных энэргетычных рэсурсаў, а таксама значных запасаў карысных выкапняў, якія па сваёй якасьці і тэхнічна-экономічных умовах эксплёатацыі могуць мець значэньне як база сыравіны

для разьвіцьця шэрагу галін прамысловасьці: шкляной, цэмэнтавай, кафлянай, керамічнай, фарбянай, па вырабу мінэральных угнаеньняў і інш. хэмічных продуктаў.

4. Адначасова адзначыць, што тэмп разьвіцьця дасьледчае працы Інстытуту Беларускае Культуры і іншых навукова-дасьледчых устаноў да гэтага часу яшчэ цалкам не здавальняе патрэб гаспадарчага будаўніцтва БССР, што, між іншым, выклікаецца наступнымі прычынамі:

а) лік высокакваліфікаваных спэцыялістых Інстытуту Беларускае Культуры ў галінах дакладных навук узрастае надта павольна ў параўнаньні з тымі запатрабаваньнямі, якія ставяцца Урадам перад Інстытутам Беларускае Культуры;

б) абсталяваньне навукова-дасьледчых устаноў Інстытуту Беларускае Культуры навуковым інвэнтаром, належнымі памяшканьнямі і забясьпечаньне яго неабходнымі матар‘яльнымі ўмовамі яшчэ не даведзены да такога становішча, якое-б цалкам забясьпечыла выкананьне пастаўленых перад Інстытутам Беларускае Культуры задач.

в) яшчэ да гэтага часу не дасягнута дастатковай увязкі дасьледчае працы як паміж паасобнымі навукова-дасьледчымі ўстановамі, гэтак і паміж гаспадарчымі і навуковымі ўстановамі.

5. З мэтаю ўзмацненьня мясцовых навукова-дасьледчых устаноў і найлепшага забясьпечаньня патрэб гаспадарчага і культурнага будаўніцтва БССР, лічыць неабходным паставіць на належную вышыню стацыянарна-лябораторныя ўстановы Інстытуту Беларускае Культуры па прыродных і гаспадарчых навуках.

6. Лічыць мэтазгодным, каб Геолёгічны Інстытут Інстытуту Беларускае Культуры ў сваім далейшым разьвіцьці забясьпечваў распрацоўку на месцы матар‘ялаў геолёгічных досьледаў БССР і сваячасна абслугоўваў заяўкі гаспадарчых устаноў на геолёгічную працу.

Даручыць Інстытуту Беларускае Культуры і Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі БССР распрацаваць на працягу 2-х месяцаў пытаньне аб пастаноўцы лябораторна-хэмічнае работы.

7. Зьвярнуць асаблівую ўвагу Інстытуту Беларускае Культуры на разьвіцьцё дысцыплін індустрыяльнага цыклю, забясьпечыўшы іх неабходнымі ўмовамі працы.

8. Даручыць Інстытуту Беларускае Культуры організаваць працы па вывучэньні дробна-экономічнага раёнаваньня БССР, а Беларускаму Навукова-Дасьледчаму Інстытуту Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя Леніна—па вывучэньні сельска-гаспадарчага раёнаваньня.

9. Даручыць Інстытуту Беларускай Культуры скончыць глебавыя здымкі па ўсіх акругах БССР у трохвёрсным маштабе з тым, каб вынікі іх маглі быць скарыстаны і на І-й Усебеларускай выстаўцы сельскай гаспадаркі і прамысловасьці.

Запрапанаваць Народнаму Камісарыяту Гандлю БССР устанавіць парадак беспасрэднага атрыманьня ад Інстытуту Беларускае Культуры заявак на залежнае навуковае абсталяваньне і выдзяленьне неабходных імпортных контынгентаў.

Даручыць Сталаму Прадстаўніцтву БССР пры Урадзе Саюзу ССР паставіць перад адпаведнымі органамі Саюзу ССР пытаньне аб наданьні Інстытуту Беларускае Культуры мытных ільгот і пераваг, якія існуюць для Акадэміі Навук Саюзу ССР.

11. Даручыць Дзяржаўнай Плянавай Камісіі падрыхтаваць на працягу паўтара месяца з прыцягненьнем зацікаўленых устаноў і падаць у Савет Народных Камісараў проект рэгуляваньня і контролю навукова-дасьледчай працы па вывучэньні прыродных і вытворчых сіл Рэспублікі.

12. Прымаючы пад увагу цяжкія ўмовы разьмяшчэньня ўстаноў Інстытуту Беларускае Культуры, запрапанаваць Менскаму Акруговаму Выканаўчаму Камітэту разам з Інстытутам Беларускае Культуры падаць на працягу месяцу проект аб прадстаўленьні Інстытуту Беларускае Культуры ў бягучым гаспадарчым годзе дадаткова адпаведнага памяшканьня. Разам з тым прызнаць неабходным, для грунтоўнага разьвязваньня ўмоў, спрыяючых разьвіцьцю дасьледчай працы, пабудаваць новы будынак для Інстытуту Беларускай Культуры, запрапанаваўшы апошняму падрыхтаваць матар'ялы і проекты і конкрэтны даклад па гэтым пытаньні з заключэньнем Дзяржаўнай Плянавай Камісіі падаць у Савет Народных Камісараў.

13. Прымаючы пад увагу, што ў выніку драпежніцкае распрацоўкі частка пакладаў карысных выкапняў вычарпана і папсавана, запрапанаваць Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі БССР тэрмінова распрацаваць патрэбныя мерапрыемствы і зрабіць захады па ахове і далейшага рацыянальнага скарыстаньня гэтых пакладаў.

14. Лічыць мэтазгодным, каб Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі БССР у бягучым 1928 годзе скончыў распачатую ўжо ў Парадзінскім раёне горна-дасьледчую працу па вывучэньньні пакладаў крэйды, фосфарыту, пылавідных кварцавых пяскоў і флёрыдынавае гліны.

15. Даручыць Інстытуту Беларускае Культуры распрацаваць пытаньне аб організацыі сэкцыі прыкладной геолёгіі

пры Геолёгічным Інстытуце Інстытуту Белараруская Культуры.

16. Даручыць Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі распрацаваць пытаньне аб арганізацыі керамічнай лябараторыі і дасьледчай станцыі па мэханічнай апрацоўцы карысных выкапняў.

17. Узьняць перад Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР пытаньне аб асыгнаваньні сродкаў па дзяржаўным бюджэце Саюзу ССР на геолёгічныя досьледы ў БССР з сум, якія асыгноўваюцца Ўсесаюзнаму Геолёгічнаму Камітэту на навукова-дасьледчую справу.

18. Зьвярнуць увагу Інстытуту Беларускае Культуры і Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР на неабходнасьць прысьпешаньня выданьняў навуковых прац па геолёгічных досьледах і шырокай папулярызацыі вынікаў навукова-дасьледчай працы.

19. Запрапанаваць Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі распрацаваць на падставе вынікаў праведзенай ужо навукова-дасьледчай працы пытаньне аб новых об'ектах будаўніцтва з тым, каб намечаныя мерапрыемствы нашлі адбітак як у контрольных лічбах наступнага году, гэтак і ў пяцігадовым пэрспэктыўным пляне разьвіцьця народнае гаспадаркі БССР.

20. Для ўзмацненьня плянаваньня навукова-дасьледчай працай у БССР запрапанаваць Інстытуту Беларускае Культуры і Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі распрацаваць і падаць у Дзяржаўную Плянавую Камісію вытворчыя пляны дасьледчае працы з тым, каб яны маглі быць увязаны з агульным плянам разьвіцьця народнай гаспадаркі БССР.

21. Зьвярнуць увагу Цэнтральнага Бюро Краязнаўства на пашырэньне краязнаўчае працы па вывучэньні вытворчых сіл Рэспублікі, увязваючы сваю працу з плянаваю працаю гаспадарчых устаноў.

22. Даручыць Інстытуту Беларускае Культуры ўзмацніць склад навуковых працаўнікоў Інстытуту па прыкладных навуках шляхам прыцягненьня адпаведных асоб.

Належыць да апублікаваньня.

Сакратар СНК БССР (Н. Угараў).

Інд. 351. 83/531

21 мая 1928 г. гор. Менск.

# УСТАНОВЫ ПРЫ ПРЭЗЫДЫУМЕ.

## Цэнтральнае Бюро Краязнаўства.

У папярэднім, першым нумары бюлетэню зьмешчана інформацыя аб чыннасьці ЦБК да 1 студзеня 1928 году. Ад гэтай даты да 1 лістапада 1928 году Цэнтральнае Бюро Краязнаўства працавала ў наступным складзе: т. т. Бялуга М. І. старшыня, Казак А. З. намесьнік, Касьпяровіч М. І. навуковы сакратар, Бядуля З. (Плаўнік С.) рэдактар часопісу „Наш Край" і інструктары: Шашалевіч А. А. і Жураўскі С. К. Апрача таго, у мэтах сувязі, у паседжаньнях Прэзыдыуму ЦБК прымалі ўдзел прадстаўнікі сэктараў ІБК: Польскага—Даўкша і Яўрэйскага—Аляксандраў. З 1 кастрычніка 1928 году т. Бялуга М. І. выбыў са складу ЦБК, і старшынёй ЦБК Прэзыдыумам ІБК быў зацьверджаны А. З. Казак.

За студзень—кастрычнік месяцы прэзыдыум ЦБК меў 25 паседжаньняў, на якіх разглядалася ў сярэднім каля 8—10 пытаньняў распарадчага і навукова-мэтодычнага краязнаўчага характару. Сваёй дзейнасьцю Бюро на працягу гэтага-ж часу абслогоўвала 8 акруговых таварыстваў краязнаўства, 101 раённае таварыства, 96 грамадзкіх гурткоў краязнаўства і 97 школьных гурткоў краязнаўства, а ўсяго 301 краязнаўчую організацыю з агульным лікам 10,510 членаў.

Апрача бягучай працы ў справе падліку, аб'яднаньня і інструктаваньня працы мясцовых краязнаўчых організацый, Ц. Бюро выпрацавала шэраг програм і інструкцый для дапамогі ў справе вывучэньня мясцовага краю, як, напр: а) інструкцыю для ўкладаньня раённых слоўнікаў мовы, б) тое-ж для ўкладаньня географічных раённых слоўнікаў, в) програму вывучэньня мястэчка і інш. Разам з тым вывучаліся пытаньні гісторыі і мэтодолёгіі краязнаўства, непасрэдна інструктаваньне Ц. Бюро выявілася ў абсьледваньні ўсіх акруговых таварыстваў краязнаўства ў сярэднім па 2 разы, каля 50 раённых таварыстваў краязнаўства па разу і ўсе краязнаўчыя організацыі м. Менску па 2-3 разы. З мэтаю падрыхтоўкі новых кадраў краязнаўцаў было ўзьнята перад Народным Камісарыятам Асьветы пытаньне аб увядзеньні курсу краязнаўства ва ўсе тэхнікумы і вышэйшыя школы БССР, якое і вырашана Камісарыятам у станоўчым сэнсе. Як пачатак у гэтай справе Бюро разам з таварыствам краязнаўства пры Б. Дз. Унівэрсытэце організавала нядзельныя курсы краязнаўства, якія наведвала каля 200 чал. Апрача таго членамі прэзыдыуму Ц. Бюро былі прачытаны цыклі лекцый з закрэсу краязнаўства на настаўніцкіх і інш. курсах. На акруговых краязнаўчых конфэрэнцыях імі-ж зроб-

лена 10 мэтодычных дакладаў і перададзены па радыё два цыклі мэтодычных лекцый па 20 тэм кожны.

На працягу гэтага-ж часу быў скончаны падлік краязнаўцаў БССР і падлік школьных краязнаўчых гурткоў. Сіламі Бюро абслужаны ўсе акруговыя краязнаўчыя конфэрэнцыі, дзьве студэнцкія і дзьве вучнёўскія краязнаўчыя конфэрэнцыі ў м. Менску, і шэраг раённых краязнаўчых конфэрэнцый.

Популярызаваньне ідэй краязнаўства сярод шырокіх колаў краязнаўства праводзілася сіламі Ц. Бюро, апрача памянёных лекцый і дакладаў, спэцыяльнымі вуснымі дакладамі, а таксама артыкуламі ў пэрыодычным друку.

Для дапамогі акруговым таварыствам краязнаўства ў справе вывучэньня раёнаў Ц. Бюро высылала летам 1928 году экспэдыцыю для тэматычнага вывучэньня раёну ў складзе: т. т. Касьпяровіча (кіраўнік экспэдыцыі, вывучэньне вопраткі і праў новага быту), Люнгерсгаўзэна (прыродна-географічны нарыс), Жураўскага (народная гаспадарка), Васілеўскага (гісторыя), Сербава (будовы і археолёгія). Цяперака матар'ялы экспэдыцыі апрацоўваюцца для друку.

За студзень — кастрычнік Бюро выдала 10 нумароў часопісу „Наш Край" у 8 кніжках, у якіх зьмяшчаліся працы з гісторыі і мэтодолёгіі краязнаўства, програмы краязнаўчай працы, хроніка яе, працы мясцовых краязнаўцаў, працы агульнабеларускага маштабу і інш. Членамі Бюро надрукаваны: а) Казак А. З.—„Дзейнасьць ЦБК і стан краязнаўчай працы на мясцох" („Наш Край" 1928, № 5, ст. 55); б) Касьпяровіч М. І. перад пачаткам справаздачнага кругабегу здаў Дзяржаўнаму Выдавецтву брошуру „Краязнаўства (нарысы)". Апроч таго, т. Касьпяровіч у гэты час закончыў другую брошуру, пад назвай „Вывучэньне раёну мясцовымі сіламі", а таксама працу краязнаўства за межамі; ім-жа надрукаваны: „Організаванае вывучэньне Беларусі ў 19 і пачатку 20 стагодзьдзя („Полымя" 1928, №№ 1, 2), „З гісторыі краязнаўства" („Наш Край", 1928, № 2) і інш.; в) Шашалевіч А. А. падрыхтаваў да друку працу „Фольклёр Краснапольскага раёну". г) Жураўскі С. К. надрукаваў „Асінбуд і асінторп" („Наш Край" 1928 № 10) і падрыхтаваў да друку „Формы і мэтоды працы школьна-краязнаўчых гурткоў" і д) Бядуля З. (С. Плаўнік) сабраў матар'ялы ўзаемаўплываў беларускай і яўрэйскай культур.

### Бібліографічная Камісія.

У сувязі з рэорганізацыя ІБК, Бібліографічная Камісія была рэоганізавана і 6 сьнежня 1928 году зацьверджана Прэзыдыумам ІБК „Устава Бібліографічнай Камісіі".

Галоўнейшымі адзнакамі новай Уставы зьяўляюцца: 1) больш сьціслая конкрэтызацыя заданьняў Камісіі; 2) Пленум складаецца з 5-6 асоб, замест 15—20, як было раней; 3) яснасьць ва ўзаемаадносінах з другой бібліографічнай установай БССР — Бібліографічным Бюро пры Бел. Дзярж. Бібліотэцы і разьмежаваньне працы паміж гэтымі організацыямі.

Склад Бібліографічнай Камісіі наступны: Старшыня— І. Я. Сіманоўскі, член Камісіі Ю. Я. Бібіла і сакратар У. М. Пракулевіч. Пленум складаецца з вышэйпамянёных прадстаўнікоў Аддзелаў ІБК: Аддз. Гуманітарных Навук— Я. Л. Дыла і Аддз. Прыроды і Гаспадаркі—проф. А. В. Фядзюшына.

Пасяджэньняў пленуму абдылося ўсяго 3, на якіх галоўным чынам разглядаліся пытаньні практычнага характару. Прэзыдыум зьбіраўся ў меру патрэбы.

Сталая праца ўскладалася на У. Пракулевіча, які і быў адзіным платным працаўнікам.

Аднэй з асноўных галін дзейнасьці Камісіі ёсьць рэгістрацыя друкаў у закрэсе беларусазнаўства. Для гэтай мэты вядзецца сталы перагляд усёй выдаванай у сучасны момант літаратуры, як саюзнай, так і замежнай, дзе, эвэнтуальна, могуць знайсьціся матар'ялы да беларусазнаўства.

Пераглядаюцца ўсе раней друкаваныя часопісы і бібліографічныя крыніцы для тых бібліографічных прац, якія падрыхтоўваюцца да друку.

Гэткім чынам у 1927—28 годзе сьпісак выкарыстанай літаратуры обыймае 540 нумароў назваў часопісаў і зборнікаў бібліографічнага зьместу, у тым ліку да 50 замежных. Гэта складае ня менш 6.000 паасобных сшыткаў і томаў. У гэты сьпіс не ўваходзяць выданьні ў межах БССР, бо Матар'ялы галоўным чынам зьбіраюцца да тых галін, якія падрыхтоўваюцца да друку ў бліжэйшы час: прырода Беларусі, экономіка, палітычнае і грамадзкае жыцьцё і г. д.

Апроч пералічаных прац падрыхтоўваюцца да друку ў першую чаргу „бібліографія экономікі Беларусі" і „палітычнае і грамадзкае жыцьцё".

Працы паасобных сяброў Камісіі:

І. Сіманоўскі.

1) „Белорусская Государственная Библиотека".—У зборніку „Белорусская Культура", т. І, на рускай і нямецкай мовах (часткай закранаецца Бібліографічнае Бюро Дзярж. Бібліотэкі і Бібліографічная Камісія ІБК).

2) „Библиографичное Дело в БССР". У зборніку „Библиографические учреждения БССР", Харьков 1928 і асобна.

3) Рэдагаваньне „Летапісу Беларускага Друку".

Ю. Бібіла:

1) Выданьні на беларускай мове 1917—1924 (Летапіс Беларускага Друку, ч. III). 56 стар.

2) „Пэрыодычны друк на беларускай мове“ (Летапіс Беларускага Друку, ч. IV). 36 стар.

У. Пракулевіч:

1) „Бібліографія экономікі савецкага будаўніцтва БССР за 1928 г.“ Штомесячна друкуецца ў час. „Савецкае Будаўніцтва“ (за студзень—верасень—усяго 1640 нумароў).

2) „Systэматычны сьпіс навуковых прац аб прыродзе Беларусі за 1926 і 1927 год“—У зборніку „Запіскі Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі“. 36 стар.

3) „Бібліографія Мазыршчыны“ — У „Нашым Краі“, № 8—9. 10 стар.

**Камісія прыродных вытворчых сіл Беларусі**

аставалася надалей установай, непасрэдна падпарадкаванай Прэзыдуму ІБК, хаця організацыйна была цесна зьвязана з Аддзелам Прыроды і Гаспадаркі, маючы супольны з ім выканаўчы апарат. Згодна новага статуту Камісіі, распрацаванага ў пачатку году і зацьверджанага Прэзыдыумам ІБК, Камісія ў далейшым мае быць органам, які коордынуе працу ўстаноў ІБК з патрэбамі і плянамі гаспадарчых устаноў. Вывучэньне прыродных вытворчых сіл вядзецца галоўным чынам катэдрамі Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі, але разам з тым пэўную частку работы выконвае і Беларускі Навукова-Дасьледчы Інстытут сельскае і лясное гаспадаркі імя Леніна і часткаю іншыя дасьледчыя ўстановы БССР. Камісія мае на мэце падлічваць усю працу, якая вядзецца ў галіне вывучэньня прыродных вытворчых сіл усімі гэтымі ўстановамі і з другога боку высьвятляць патрэбы ў дасьледчай працы, якія выстаўляюцца плянамі і бягучай працай гаспадарчых устаноў.

Праца Камісіі адбываецца пераважна на паседжаньнях яе пленуму, якія носяць характар сэсій з прычыны таго, што значную частку ўдзельнікаў складаюць прыежджыя спэцыялістыя і прадстаўнікі мясцовых (акруговых) устаноў. Першы такі пленум адбыўся 11—12 чэрвеня 1928 году. На ім былі разгледжаны пляны летняй дасьледчай працы ўстаноў Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі, а таксама пляны працы Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту і яго Лясного аддзелу. Пленум даў шэраг кіраўнічых дырэктыў для працы паасобных устаноў, разгледзеў і здаволіў заяўкі на дасьледчую працу Полацкага і Магілеўскага Акрвыканкому, узгодніў працы ў галіне геолёгіі, якія вядуцца на тэрыторыі Бе-

ларусі роз нымі ўстановамі і, апроч таго, заслухаў шэраг навуковых справаздач.

Прадстаўнікі КПВСБ прымалі ўдзел у працах II Ўсесаюзнае Конфэрэнцыі для вывучэньня вытворчых сіл СССР, скліканай Дзяржплянам Саюзу ССР 27—30 красавіка 1928 г. у Маскве і зрабілі на ёй даклады аб пастаноўцы справы ў Беларусі. К гэтай конфэрэнцыі былі падрыхтаваны даклады аб вывучанасьці Беларусі з боку яе прыродных вытворчых сіл, раздадзеныя ўдзельнікам Конфэрэнцыі.

## Бібліотэка.

Бібліотэка ІБК у справаздачным пэрыодзе перажыла значныя перамены, як організацыйнага, гэтак і акадэмічнага характару, якія надалі ёй характар навуковай інстытуцыі, удзельная вага якой у сыстэме ІБК ўсё больш узрастае.

З 1926-27 акадэмічнага году Б-ка перайшла з даволі салідным кніжным балянсам у новы пэрыод фармаваньня б-кі і пераходу да апрацаваньня мэтодаў далейшае працы і іх ажыцьцяўленьня.

I. Організацыя. а) Да гэтага пэрыоду ўсё ўнутранае жыцьцё Б-кі праходзіла замкнута ў 4-х яе сьценах, будучы ўвязана з Прэзыдыумам ІБК і іншымі інстытуцыямі яго больш формальна. Дзеля гэтага трэба было ўтварыць нейкі орган, які ўвязаў-бы Б-ку з навуковым жыцьцём ўсяго ІБК і кіраваў-бы ростам і зьместам Б-кі. Гэтым органам зьявілася Бібліотэчная Рада ІБК, у склад якой увайшлі ад Прэзыдыуму—Неадменны Сакратар (старшыня Рады), ад Б-кі—Загадчык яе і па адным прадстаўніку ад Аддзелаў: Прыроды і Гаспадаркі, Гумантарных Навук і Нацсэктараў—Яўрэйскага і Польскага, ЦБК Краязнаўства і пэрсанальна Дырэктар Беларускай Дзяржаўнай Б-кі для ўвязкі ў працы абедзьвюх б-к. За справаздачны пэрыод Бібліотэчная Рада мела 12 паседжаньняў, на якіх былі разгледжаны заяўкі ад розных інстытуцый ІБК на выпіску літаратуры, разьмеркаваны каштарысныя сродкі Б-кі, а таксама пытаньні структуры і складу Б-кі.

б) Што датычыць да штату Бібліотэкі, дык ён на 1927/28 г. застаўся ў тым-жа складзе, хоць колькасьць кніг значна павялічылася.

в) Буйны рост Б-кі вымагаў і адпаведнай плошчы, між тым у 1926/27 г. Б-ка знаходзілася ў немагчымых умовах, сьціснутая ў 2-х пакоях. У верасьні 1927 г. Б-ка перайшла ў новае памяшканьне спэцыяльна для яе адрэмантаванае і разьлічнае на 30.000 кніг, але ўжо ў канцы 1927/28 г. ўсё

яно запоўнілася, і цяпер перад Б-кай ізноў стаіць пытаньне аб пашырэньні памяшкальнай тэрыторыі.

г) Бібліотэка на 1927/28 г. па каштарысу мела 5000 руб., але з гэтымі сродкамі не змагла закончыць году, дзякуючы таму, што вялікія сумы пайшлі на набыцьцё Handbuchà'ў: Ebert—Reallexicon der Vergeschichte i Handbuch der Spezielle Anatomie, дзеля гэтага Прэзыдыум выдзеліў Б-цы дадаткова звыш 1000 р., усяго, такім чынам, Б-ка мела 6400 руб.

II. Папаўненьне Б-кі. Як ужо адзначана вышэй, Б-ка ў Бібліотэчнай Радзе мела той цэнтр, каторы ўвязваў працу Б-кі з навуковымі інстытуцыямі ІБК у галіне комплектаваньня. Апошняй каштарыстныя сродкі, былі разьмеркаваны наступным чынам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| на пэрыодыку . . | 1500 р. | на пераплёты . . | 800 р. |
| Яўрэйскаму сэктару | 700 р. | на задавальненьне | |
| Польскаму „ | 300 р. | заявак . . . | 1700 р. |
| Разам . . . . . . . . . | | | 5000 р. |

Выкананы гэты плян быў на 128%, г. зн. з перавышэньнем на 28%.

Набыта было рознай літаратуры, якая паводле характару падзяляецца гэткім чынам: часопісаў—92 назвы, з іх замежных—23 і расійскіх 59. Кніг розных—4026 на мовах: беларускай, расійскай, яўрэйскай, польскай, нямецкай, францускай і ангельскай.

Апроч кніг, набытых за грошы, Б-ка ў 1927/28 г. атрымала ў парадку абмену 873 кнігі. Абмен устаноўлены з 120 рознымі навуковымі ўстановамі ССР і замежнымі.

III. Каталёгаваньне. Дзякуючы буйному росту Б-кі з аднаго боку і таму, што штат яе ня быў павялічаны, натуральна ён ня мог справіцца з каталёгаваньнем кніг, якія значна перавышалі нормальную нагрузку і таму мы мелі значны лік кніг некаталёгаваных і нават ня ўнесеных у інвэнтар Б-кі. Гэтыя ўмовы надзвычайна ўскладнялі карыстаньне Б-кай і неабходна было прыняць рашучыя крокі да апісаньня ўсіх кніг, тым больш, што з кожным днём лік іх павялічваўся. З дазволу Віцэ-Прэзыдэнта ІБК было ўзята 4 пазробныя працаўнікі, кякія працавалі 1 месяц, пры дапамозе іх цяпер маем з агульнага ліку 32230 кніг, заінвэнтараваных 27705, скаталёгаваных 26447 кніг, рэшта кніг у ліку звыш 4000 т. часткова не падлягаюць інвэнтарызацыі зусім, як прызначаныя да выключэньня дзеля поўнай іх некаштоўнасьці, часткова-ж складаюць абменны фонд.

IV. Выдача кніг. За справаздачны пэрыод Б-ка выдала на рукі кніг усяго, апрача газэт і часопісаў:

| | |
|---|---|
| 1) на абонэмэнты . . . | 2753 |
| 2) у габінэцкія б-кі . . . | 623 |
| Усяго на абонэм. . . . | 3376 |
| 3) з абменнага фонду розных выдан. ІБК . . . . | 11.167 |
| Разам выдана . . . | 14.543 |

V. Іншая праца Б-кі. а) Выстаўлена ў вітрыны новай літаратуры ўсяго да 1200 кн., прычым кнігі мяняліся кожныя 3—5 дзён.

б) Выдана і прынята з пераплёту 1.223 кнігі.

в) Склад выданьняў ІБК: за 1927/28 г. прынята на склад 25.303 кнігі, выдана 11.167 кніг, прычым у парадку абмену выслана 1305 кніг, на базу для продажы—4960 кніг, рэшта, лікам 4.902 кніг выдана на запіскі з Прэзыдыму і аўтарскія экзэмпляры.

г) Вялася чарговая канцэлярская і гаспадарчая праца.

---

## АДДЗЕЛ ГУМАНІТАРНЫХ НАВУК.

Аддзел Гуманітарных Навук быў арганізаваны, згодна статуту Інбелкульту 1927 г., у пачатку мінулага акадэмічнага году. У склад гэтага Аддзелу ўвайшлі аддзел мовы і літаратуры і гісторыка-археолёгічная сэкцыя, якія ўстановы да таго часу былі самастойнымі часткамі Інбелкульту. Такім чынам Аддзел Гуманітарных Навук аб'яднаў вывучэньне пытаньняў мовы, літаратуры, гісторыі, археолёгіі, этнографіі і мастацтва,—г. зн. увесь комплекс гуманітарных навук, прадстаўленых у Інбелкульце.

Адначасна з утварэньнем Аддзелу Гуманітарных Навук было праведзена некаторае перагрупаваньне ўстаноў Аддзелу і арганізацыя новых.

Для працы ў Аддзеле былі запрошаны і прызначаны наступныя правадзейныя члены: на катэдру этнографіі В. Ластоўскі, на катэдру гісторыі беларускага права проф. Ул. Пічэта, на катэдру гісторыі беларускай мовы проф. М. Дурнаво, на катэдру агульнай гісторыі проф. А. Ясінскі і на катэдру гісторыі Літвы С. Матулайціс. Апрача таго, для працы ў камісіях Аддзелу былі запрошаны гэткія навуковыя супрацоўнікі: доц. А. Багдановіч, доц. Я. Воўк-Левановіч, доц. М. Грамыка, Я. Троська, проф. М. Піотуховіч, проф. Е. Барычэўскі, проф. В. Дружчыц, доц. А. Ляўданскі, Я. Дыла,

доц. М. Шчакаціхін. У навуковыя супрацоўнікі таксама былі пераведзены і асьпіранты Аддзелу: А. Шлюбскі, С. Дубінск і К. Палікарповіч. Нанава прызначаны асьпірантамі: Ул. Чаржынскі і Ц. Сьцяпанаў (штатнымі), С. Якубчык і Я. Гэмбіцкі (звышштатнымі). Бліжэйшы нагляд за організацыяй і дзейнасьцю ўстаноў быў узложаны на старшыню Аддзелу, на якую пасаду быў абраны правадзейны член С. М. Некрашэвіч. На час адсутнасьці старшыні Аддзелу быў абраны яму намесьнікам правадзейны член А. Ясінскі. Сакратаром Аддзелу быў прызначаны Я. Бялькевіч. Агульнае кіраўніцтва дзейнасьцю ўстаноў Аддзелу належала Радзе Аддзелу, у склад якой уваходзілі: С. Некрашэвіч (Старшыня Рады) і члены: У. Ігнатоўскі, А. Ясінскі, Я. Лёсік, Ів. Замоцін. У. Пічэта, В. Ластоўскі, К. Міцкевіч, Ів. Луцэвіч, З. Жылуновіч, С. Матулайціс, Бр. Эпімах-Шыпіла, П. Бузук, В. Дружчыц, А. Цьвікевіч, Я. Дыла, М. Дурнаво, А. Ляўданскі і Я. Бялькевіч (сакратар Рады).

Што да агульнай характарыстыкі навукова-дасьледчай працы Аддзелу, то трэба сказаць, што мінулы год быў ня толькі годам організацыі ўстаноў Аддзелу, але разам з тым і годам напружанай навукова-дасьледчай працы. Аддзел за мінулы год выканаў на ўсе 100% сваю выдавецкую програму і блізка што поўнасьцю выканаў свае гадавыя пляны навукова-дасьледчай працы. Разам з тым, першы год працы паказаў, што зробленая рэорганізацыя гуманітарных устаноў І. Б. К. у сэнсе аб'яднаньня іх у адным Гуманітарным Аддзеле зьяўляецца мэтазгоднай. Уносячы яснасьць у структуру устаноў Аддзелу, гэтая рэорганізацыя адначасна выключае стварэньне магчымага паралелізму ў працы паасобных устаноў і праз гэта спрыяе больш шырокай і глыбокай пастаноўцы навукова-дасьледчай працы Аддзелу.

У організацыйна-навуковых мэтах Аддзел Гуманітарных Навук падзяляўся на дзьве клясы—Клясу філёлёгіі і Клясу гісторыі. Кляса, у практыцы Аддзелу Гуманітарных Навук, зьяўлялася ўстановай, якая групавала ўсіх навуковых працаўнікоў адпаведнай спэцыяльнасьці для заслухоўваньня дакладаў і вырашэньня навуковых пытаньняў. Пытаньні-ж навукова-організацыйнага характару вырашаліся на пасяджэньнях Рады Аддзелу.

Рада Аддзелу мела 7 пасяджэньняў, на якіх заслухоўваліся гадавыя справаздачы ўстаноў Аддзелу і іх гадавыя пляны, пытаньні абраньня навуковых працаўнікоў, іх кваліфікацыі і інш.

Што датыча фінансаваньня ўстаноў Аддзелу, то яно наагул было здавальняючым. Недахопам каштарысу толькі зьяўлялася абмежаванасьць сродкаў на навуковыя каманды-

роўкі працаўнікоў Аддзелу, асабліва гісторыкаў, якія за адсутнасьцю ў БССР належных архіваў, прымушаны працаваць у архівах Масквы і Ленінграду. Абмежаваныя сродкі таксама былі вызначаны на выдавецтва Аддзелу (27.000 р.), аднак, дзякуючы таму, што частка ўстаноў ІБК не скарыстала сваіх выдавецкіх крэдытаў, апошняе дало магчымасьць Аддзелу нормальна правесьці свой выдавецкі плян.

---

## КЛЯСА ФІЛЁЛЁГІІ.

(Старшыня правадзейны член С. Некрашэвіч, сакратар Я. Бялькевіч).

На пасяджэньнях Клясы Мовы і Літаратуры былі заслуханы наступныя даклады:

1. Багдановіч А.—Правапіс чужаземных слоў.
2. Проф. Бузук П.—Лінгвістычная географія Беларусі.
3. Лёсік Я.—Тэстамэнт князя Саламерацкага.
4. Шлюбскі А.—Этнографічная дзейнасьць Раманава.
5. Вэйнгер М.—Лексыколёгічная праца ў Нямеччыне.
6. Проф. Замоцін І.—Чарговыя заданьні вывучэньня беларускае літаратуры.
7. Цьвяткоў Л.—Увагі аб правапісе і скланеньні чужаземных уласных іменьняў.
8. Проф. Бузук П.—новыя кнігі ў беларускім мовазнаўстве.
9. Проф. Піотуховіч М.—Аграрная магія ў беларускай народнай поэзіі.
10. Байкоў М.—Разгляд слоўніка граматычна-лінгвістычнае тэрмінолёгіі.
11. Бялькевіч Я.—Судаклад на гэтую-ж тэму.
12. Проф. Барычэўскі—„Матчын Дар“ Алеся Гаруна.
13. Кузьмін А.—Заўвагі на Віцебскі краёвы слоўнік (даклад быў зачытаны Бялькевічам Я.).
14. Мачульскі В.—Да біографіі С. Палуяна.
15. Воўк-Левановіч О.—Аб прынцыпах і мэтодах укладаньня гістарычнага слоўніка.
16. Проф. Замоцін І.—Проект анкет для зьбіраньня крытыка-біографічнага матар'ялу беларускіх пісьменьнікаў.
17. Проф. Бузук П.—Да характарыстыкі слуцкіх гаворак.
18. Чаржынскі У.—Лірыка Якуба Коласа.
19. Лёсік Я.—Дзесяцігодзьдзе беларускай граматыкі.
20. Проф. Дурнаво М., П. Бузук.—Справаздачны даклад аб дыялектолёгічнай паездцы Менск—Жлобін.

Апрача таго, на пасяджэньнях Клясы Філёлёгіі ставіліся даклады аб навуковых камандыроўках і вырашаліся некаторыя організацыйныя пытаньні.

## Катэдра жывой беларускай мовы.

Катэдра жывой беларускай мовы аб'яднала наступныя ўстановы Аддзелу: а) Камісію для складаньня слоўніка жывой беларускай мовы, б) Дыялектолёгічную Камісію, в) Камісію літаратурнае мовы і г) Інстытут Навуковае Мовы. Штат Катэдры складаўся з правадзейных членаў—С. М. Некрашэвіча (загад. Катэдрай) з Я. Ю. Лёсіка і навуковых супрацоўнікаў вышэйпералічаных устаноў Катэдры. Правадзейны член С. Некрашэвіч праводзіў наступную працу: рэдагаваў расійска-беларускі слоўнік (сумесна з М. Байковым), займаўся вывучэньнем парыцкіх і любаньскіх гаворак, у сувязі з чым зрабіў другую дыялектолёгічную паездку ў Парыцкі раён (Бабруйшчына), рэдагаваў і вёў корэктуру „Запісак" Аддзелу па Клясе філёлёгіі, наглядаў за друкам выданьняў Аддзелу, кіраваў працай Камісіі для складаньня слоўніка жывой беларускай мовы і правапіснай камісіяй, прымаў удзел у пасяджэньнях Прэзыдыуму і Сакратарыяту ІБК і, як Старшыня Аддзелу, прымаў самы актыўны ўдзел у організацыі і працы ўстаноў Аддзелу і ў кіраваньні працай усяго Аддзелу наогул (пляны, справаздачы, контроль, каштарысы і інш.) Апрача таго, С. М. Некрашэвіч з 1-га студзеня 1928 г. кіраваў у якасьці Старшыні Галоўнавукай БССР. За мінулы год С. М. Некрашэвічам было надрукавана: 1) вышэйпамянёны расійска-беларускі слоўнік, 2) Мова кнігі Касьяна рымляніна: „о уставах манастырскіх" (Запіскі Аддзелу, кн. 2), 3) Да пяцігадовага пляну навукова-дасьледчай працы БССР („Савецкая Беларусь" №№ 242, 243 за 1928 г.), як вынік навукова-організацыйнай працы ў Галоўнавуцы, 4) пад рэдакцыяй С. М. Некрашэвіча вышла 2-я кніга „Запісак" Гуманітарнага Аддзелу (Працы Клясы Філёлёгіі, т. I), 5) прамова на пасяджэньні сэсіі ЦВК аб сыстэме народнае асьветы (Справаздача аб 3-й Сэсіі ЦВК, 1928).

## Камісія для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы.

У 1927-1928 акад. годзе ў асабовым складзе Камісіі для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы былі, як сталыя члены: старшыня—правадзейны член ІБК. С. М. Некрашэвіч, дырэктар—Бр. Іг. Эпімах-Шыпіла і вучоны сакратар—М. Як. Байкоў. У штаце Камісіі ад пачатку акад. году былі дзьве адзінкі: дырэктар (на палавіннай аплаце) і вучоны сакратар. Ад 15-га лютага 1928 г. устаноўлена асобная штатная пасада навукова-тэхнічнага супрацоўніка Камісіі. На гэтую пасаду назначана М. Л. Серада-Бязьверхава.

На аплаце ад карткі ў 1927-1928 акад. г. працавалі наступныя асобы: М. Р. Ламака, Ул. П. Кулеўскі, Н. Улашчык-Бялькевіч і Вольга Лойка.

У інв. кнізе Камісіі ад 1 кастрычніка 1927 г. па 1 кастрычніка 1928 г. запісана аплачаных паступленьняў усяго 85.169 картак-слоў, у тым ліку з літ. твораў—42.482 кр.-сл., з зборнікаў фольклёру — 16.085 к.-сл., з месц—6.722 к.-сл. і рэшта 19.880 слоў рукапісаў беларускага слоўніка К. Ярушэвіча, набытых у ўласнасьць Інбелкульту. Апрача таго, з месц паступіла не аплачаных 10.448 картак-сл. ад розных краязнаўчых арганізацый і паасобных корэспондэнтаў. Найбольшы лік картак,—8800 картак, паступіў ад Мазырскага Акруговага Т-ва Краязнаўства. Усяго да 1 кастрычніка 1928 г. Камісіяй сабрана да 400.000 картак-слоў.

У справаздачным годзе занесены на карткі словы з твораў Ал. Гаруна, Кузьмы Чорнага і Крапівы, I т. твораў М. Багдановіча, III т. твораў Янкі Купалы, запісаны дадатковыя словы з твораў Ц. Гартнага, апрацаваны паасобны слоўнік да выдрукаваных зборнікаў беларускага фольклёру Ал. Сержпутоўскага, даведзены да літ. „С“ паасобны слоўнік да зборнікаў Federowsk'ага ў выданьні Кракаўскай Акадэміі, выбраны словы з III т. матар'ялаў П. Шэйна і рабілася выбарка слоў з прац Е. Раманава і М. Я. Нікіфароўскага. Ад паасобных корэспандэнтаў з месц (К. Вашына, А. Шашалевіч, П. Самацэвіч, Ал. Сержпутоўскі, А. Мяцельскі, А. Калядка) і з Аршанскага Акруговага Т-ва Краязнаўства паступілі ў распараджэньне Камісіі крытычныя разгляды „Беларуска-Расійскага слоўніка“ М. Байкова і С. Некрашэвіча з заўвагамі і дадаткамі, зробленымі паводле інструкцыйных паказаньняў Камісіі. У працягу году Камісіяй грунтоўна выпраўлены і прарэдагаваны „Слоўнік Чэрвенскай народнай гутаркі“, укладзены М. Шатэрнікам. У канцы году распачаўся друк гэтага слоўніка, хаця і з спазьненьнем супроць вызначанага ў пляне Камісіі часу з прычын тэхнічнага характару (адсутнасьць у друкарні Інбелкульту шрыфтоў патрэбных узораў).

Мазырскім краязнаўцам А. Крукоўскім закончана укладаньне Мазырскага Краёвага слоўніка паводле інструкцыі і паказаньняў Камісіі, зробленых на падставе разгляду першых сшыткаў слоўніка на літ. А. і В.

Прадметам пасяджэньняў Камісіі былі пераважна арганізацыйныя пытаньні. На адным з гэтых пасяджэньняў была разгледжана апрацаваная вучоным сакратаром Цэнтральнага Бюро Краязнаўства М. Касьпяровічам інструкцыя аб укладаньні паасобных раённых слоўнікаў, выдрукаваная ў № 1 часопісу „Наш Край“ за 1928 г.

Даклад аб дзейнасьці Камісіі дырэктара Бр. Іг. Эпімаха-Шыпіла быў заслуханы ў пасяджэньні Прэзыдыуму ІБК у сакавіку 1928 г.

Вучоным сакратаром Камісіі М. Байковым у верасьні 1928 г. ў часе спэцыяльнай вызначанай у пляне працы Камісіі камандыроўкі ў Ленінград вывучаны пастаноўка і мэтоды працы Слоўнікавай Камісіі Ўсесаюзнай Акадэміі Навук.

Старшынёю Камісіі С. М. Некрашэвічам сумесна з вучоным сакратаром М. Я. Байковым выпушчаны ў выданьні Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва „Расійска-Беларускі слоўнік“ (VIII + 728 стар.) у аб'ёме да 60.000 расійскіх слоў.

Апрача таго, супрацоўнікамі Камісіі выкананы наступныя працы:

Бр. Іг. Эпімахам-Шыпіла; а) надрукавана рэцэнзія на „Казкі і апавяданьні беларусаў з Слуцкага пав.“ Ал. К. Сержпутоўскага ў „Запісках Аддзелу Гуманітарных Навук ІБК“, кн. 2, т. I стар. 377—388; б) падтрыхтаваны артыкул: 1) „Аб пратэтычнасьці і афэрэзысе ў беларускай мове“ і 2) „Да беларускага сынтаксу—прыйменьнік *за* з родным склонам“.

М. Як. Байковым,—а) надрукаваны артыкулы: 1) „Аб творчасьці Натальлі Арсеньевай“ у „Полымі“ 1927 г., № 8, стар. 186—195; 2) „Да пытаньня аб мэтодах і прыёмах нашае крытыкі“, 1928 г., № 1, ст. 156—177, 3) „Аб беларускай мовазнаўчай тэрмінолёгіі“, Полымя, 1928 г., № 4, стар.142—152; 4) „Месца Ян. Купалы ў беларускай літаратуры“ ў зборніку „Янка Купала ў літаратурнай крытыцы“, Менск, 1928 г., стар. 42—55; рэцэнзіі на выданьні ІБК, Гістпарту ЦК КП(б)Б, БСЭ і кнігі розных аўтараў у журналах „Полымя“ 1927 г. № 6 і 7, 1928 г. №№ 1—5 і „Асьвета“ № 2 і 3; б) сабраны і выданы пад уласнай рэдакцыяй сумесна з Зьм. Жылуновічам зборнік „Янка Купала ў літаратурнай крытыцы“ Менск, 1928 г.; в) падтрыхтаваны для друку: 1) зборнік уласных публіцыстычных і крытычных артыкулаў у выданьні БДзВ.; 2) зборнік крытычных матар'ялаў аб творчасьці Ц. Гартнага; 3) артыкулы аб сучаснай беларускай літаратуры для украінскага выданьня „Нова Беларуска“ (Харків).

## Дыялектолёгічная Камісія.

Справаздачны год быў, уласна кажучы, першым годам існаваньня Камісіі, бо ў 1926-27 г. працавала Фольклёрна-Дыялектолёгічная, якая 1-га кастрычніка мінулага г. распалася на дзьве паасобныя навуковыя адзінкі—на Катэдру Этнографіі і на Камісію Дыялектолёгічную.

Працавала Камісія ў складзе сяброў М. М. Дурнаво, С. М. Некрашэвіча, Я. Ю. Лёсіка, Л. М. Цьвят-

кова, прадстаўніка Слоўнікавай Камісіі Б. І. Эпімаха-Шыпілы, А. В. Багдановіча, І. Я. Бялькевіча прадстаўніка ЦБК і старшыні П. А. Бузука.

Выявілася дзейнасьць Камісіі ў двух кірунках. Папершае, яна зьбірала матар'ялы; падругое, яна друкавала вынікі свае дасьледчае працы.

Зьбіраньне матар'ялаў праводзілася двума шляхамі— 1) шляхам адказаў на програмы і 2) шляхам экспэдыцый.

Што датычыцца адказаў на програмы, дык трэба заўважыць, што Камісія атрымала 30 [1]) адказаў на скарочаныя (рукапісныя) програмы, якія ў выпадку патрэбы пасылаліся ў розныя мясцовасьці.

Але асаблівае значэньне маюць адказы на дакладную „Програму для зьбіраньня асаблівасьцяй беларускіх гаворак і гаварок пераходных да суседніх моваў“ Некрашэвіча і Бузука. Вось дакладны сьпіс усіх адказаў, якія Камісія атрымала да гэтага часу:

№ 1. Краснапольскі р. Магілеўскай акругі (б. Калінійшчына): в. в. Палуж, Маластоўка, Хвёдараўка, Горкі, Тур'я, Клясін. Аўтар-супрацоўнік ІБК—Андрэй Шашалевіч.

№ 2. Тураўскі р. Мазырскай акругі (Тураў, Верасьніцы, Малешава, Барок, Пагост, Азяраны, Танеж, Букча, Радзівілавічы, Перароў). Аўтары—сябры навукова-дасьледчае экспэдыцыі краязнаўчага таварыства пры Бел. Дзярж. Унівэрсытэце—А. Адзінец і Ів. Юрашкевіч.

№ 3. Шляхоцкія паселішчы Бабруйскай акругі—Барсукі, Ясёны і Фартуны. Аўтар—студэнт IV курсу Літар.-Лінгв. Аддз. Пэдфаку Б. Дзярж. Унівэрсытэту Замбржыцкі.

№ 4. Мсьціслаўшчына: в. в. Сапрынавічы, Янаўка, Каробчына, Гімбатаўка, Буравічы, Стар. Сяло, Татаршчына, Шыркі, Белы Мох. Аўтар—сакратар Аддзелу Гуманітарных Навук ІБК Я. Бялькевіч.

№ 5. Крупскі р. Аршанскай акругі в. Дакудава. Аўтар—настаўнік В. А. Самцэвіч.

№ 6. Каладзішчанскі сельсавет Астрашыцка-Гарадзецкага р. Менскай акругі: в. в. Каралёў-Стан, Гарадзішча і Курган. Аўтар—вучань VI кл. Астраш.-Гарадзецкай сямігодкі Мікола Мультан.

№ 7. Беларуцкі С.-Сав. Астраш.-Гарадзецк. р. Менскай акр., хутар Рудакова. Аўтар—вучань сямігодкі Адам Янкаў Сьляшынскі.

---

[1]) Разам з тымі, якія атрыманы яшчэ да 1 кастрычніка 1927 г. б. Фольклёрна-Дыялектолёгічнай Камісіяй. Асабліва каштоўнымі з гэтых адказаў зьяўляюцца адказы А. Крукоўскага з Нараўлянскага р.

№ 8. Астрашыцка-Гарадзецкі р.Менскай акругі: в. в. Галіца, Панычэўшчына, Клюшнікі і Барадок. Аўтар—Паўлюк Пахомаў Мяхетка.

№ 9. Нова-Быхаўскі с.-сав. Быхаўскага р. Магілеўскай акр. Прысланы Быхаўскім раённым т-вам краязнаўства.

№ 10. В. Баслаўцы, Слуцкай р. Сярэдніцкага с.-сав. Аўтар—студэнт Менскага Беларускага Пэдагогічнага Тэхнікуму С. Г. Ліхадзіеўскі.

№ 11. Мехаўскі с.-сав. Віцебскай акругі, ст. Бычыха. Аўтар—загадчык Мехаўскай 4-годкі Ігн. Іван. Зарубаў.

№ 12. В. Санюкі Ельскага р. (Мазырскай акр.) Аўтар—настаўнік Санюкоўскай школы сялянскай моладзі Піліп Баранцэвіч.

№ 13. Х. Дуброўка Кармянскага с.-сав. Каралінскага Ельскага) р. Мазырскае акругі. Прыслана Каралінскім раённым краязнаўчым таварыствам.

№ 14. Пылькінскі с.-сав. Езярышанскага р. Віцебскай акругі. Аўтар—настаўніца Жукаўскай школы Езярышчанскага р. Тацяна Башанава.

№ 15. Езярышча Віцебск. акр. Аўтар—настаўнік Езярышчанскай сямігодкі Хв. П. Макараў.

№ 16. В. Міхедавічы і Бабуніцк. с.-сав. Пятрыкоўск. р. Мазырскае акр. Аўтар—настаўнік Алесь Шумскі.

№ 17. В. Вялікія Бялевічы Магілеўск. р. Магілеўск. акр. Аўтар—настаўнік Міхась Кузьміч Мацьвяёнак.

№ 18. В. Пацэнкі Ляднянск. р. Аршанск. акр. Аўтар—студэнт Аршанскага Пэдагогічнага Тэхнікуму М. І. Бялугін.

№ 19. Макранскі с.-сав. Быхаўск. р. Магілеўск. акр. Аўтар—загадчык Макранскай школы 1 ступ. і намесьнік старшыні Макранскага гуртка краязнаўства Мікалай Іванавіч Бараленка.

№ 20. Лудчыцкі с.-сав. Быхаўск. р. Магілеўскай акр. Прыслана Быхаўскім раённым т-вам краязнаўства.

№ 21. В. Яменск Любаньск. р. Бабруйск. акр. Аўтар—настаўнік Зубеня.

№ 22. В. в. Рабыя, Бянек, Блін, Кош‘о б. Паташэнск вол. Гарадоцкага р. Аўтар—І. Кузьмін.

№ 23. Зборны адказ, складзены сябрамі краязнаўчага гуртка (Рагачэўск.) Дз. П. Т. [1]).

Усе адказы цяпер рыхтуюцца да друку; надрукаваны яны будуць у бліжэйшым томе „Запісак Аддзелу Гуманітарных Навук“ або паасобнай кніжкай.

---

[1]) Ёсьць яшчэ два няпоўныя і таму непранумараваныя адказы А. Цышкевіча і П. Тамілы. Старобінскага раёну б. Слуцкае, цяп. Бабруйскае акр.

Звычайна, што для поўнага вывучэньня гаворак адных адказаў на програмы ня досыць, і таму для высвятленьня больш складаных пытаньняў, асабліва ў галіне фонэтыкі, Камісія арганізавала шэраг дыялектолёгічных экспэдыцый.

У красавіку і траўні М. Дурнаво і П. Бузуком зроблены былі тры паездкі: 1) у Случчыну — для вывучэньня прыроды паўдн.-беларускіх, г. зв. дыфтонгаў і іншых моўных асаблівасьцяй, 2) у Астрашыцка-Гарадзецкі раён Менскай акр. (б. Гайнаўск. воласьць)—з мэтай праверкі паказаньняў Е. Ляцкага адносна дыфтонгаў і тыпу аканьня-яканьня ў данай мясьцовасьці і 3) у шэраг раёнаў (Сьмілавіцкі і Самахвалавіцкі Менскай акр. і Асіпавіцкі і Жлобінскі Бабруйскай) паўднёвай Беларусі з мэтай высьвятленьня межаў дысыміляцыйнага аканьня і яканьня.

Пасьля дакладаў аб выніках пералічаных паездак выказана была на пасяджэньні Клясы Філёлёгіі цалкам правільная думка аб тым, каб зрабіць яшчэ некалькі дыялектолёгічных паездак з удзелам беларусаў і небеларусаў родам. У сувязі з гэтым у ліпні месяцы і былі арганізаваны дзьве наступныя экспэдыцыі: адна ў складзе С. М. Некрашэвіча, П. А. Бузука і спэціяліста музыкі т. Ягорава ў Парыцкі раён Бабруйскай акр. [1]), другая ў складзе Я. Ю. Лёсіка П. А. Бузука і спэцыяліста-музыкі тав. Аладава.

Пералічаныя экспэдыцыі далі нямала важных вынікаў. Так, напр., устаноўлена, што дысыміляцыйнае яканьне пануе і ў паўднёвых гаворках, дзе яно беспасрэдна мяжуе з еканьнем; ня менш цікавымі зьяўляюцца здабытыя аднэй з экспэдыцый ведамасьці аб тым, што і ў магілеўскіх гаворках (на ўсх. ад Магілева) захоўваюцца звонкія зычныя перад глухімі і ў канцы слоў.

Артыкулы аб гэтых досьледах (Некрашэвіча, Дурнаво, Лёсіка і Бузука) друкуюцца ў II т. „Запісак Аддзелу Гуманітарных Навук“.

Апрача пералічаных экспэдыцый, самім старшынёй Камісіі з мэтай зьбіраньня матар'ялаў для лінгвістычнае географіі Беларусі былі зроблены яшчэ наступныя дыялектолёгічныя паездкі: а) у кастрычніку мінулага году ў Вяземскі павет Смаленскай губ., б) у студзені гэтага г. у б. Вялікалуцкі і Таропецкі паветы б. Пскоўскае губ. і в) у верасьні г. г.—у б. Себескі пав.

Часьціну вынікаў гэтых досьледаў Бузука, а менавіта 1-ы вып. I часьц. яго „Спробы лінгвістычнае географіі Беларусі“ (з дадаткам дыялектолёгічнага атласу з 20 карт) у гэтым (1928) г. ужо надрукована.

[1]) Але галоўнай мэтай паездкі было заканчэньне досьледаў С. М. Некрашэвіча.

II-я часьціна названае працы рыхтуецца да друку; у гэтую часьціну ўвойдзе і географія больш характэрных слоў беларускае мовы, у сувязі з чым пачалася праца па ўтварэньні картатэкі.

Апрача таго, старшынёй Камісіі П. А. Бузуком надрукованы наступныя працы: 1) да характарыстыкі паўднёва-беларускіх дыялектаў. Гутаркі Мазыршчыны і паўднёвай Бабруйшчыны (друк. ў Загрэбе); 2) 3 лінгвістичних розкопин на Білорусі, Зап. Іст.-Філ. Відд. Укр. Ак. Н., т. XIII-XIV, прысьвеч. акад. Багалію; 3) Некалькі слоў аб грамаце рыжан каля 1300 г. (Працы Б. Дз. У); 4) Новыя працы па беларускай дыялектолёгіі, Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук, Працы Клясы Філёлёгіі, т. I; 5) Спроба гісторыі дагістарычнае эпохі слявянскае фонэтыкі, там-жа 1—44 стар.; 6) Про мову найдавнішої української евангелії, Зап. Іст.-Ф. Відд. У. А. Н., т. XII, I—II стар.; 7) Відповідь моїм рецензентам, Зап. Іст.-Ф. В. У. А. Н. т. XIX (каля аркушу); 8) Українські етимолёгії (XIX—XXV), Зап. Іст.-Ф. В. У. А. Н., т. XXII (друкуецца); 9) Уваги з прыводу casus comprationis. друк. у зборніку, прысьвечаным акад. М. С. Грушевському; 10) Украінская літаратура пасьля Кастрычніка, „Маладняк“ за 1927 г. № X (9 стар.); 11) Кілька уваг про українсько-білоруське побратимство „Плуг“ за 1928 г., № 7—8; на беларускай мове той-жа артыкул у „Маладняку“ за 1928 г., № 7.

Падрыхтавана да руку: 12) Да характарыстыкі цэнтральна-беларускіх гаворак. Гутаркі Асіпавіцкага і суседняга раёнаў (для II. т. Запісак Аддзелу Гуманітарных Навук); 13) Да пытаньня аб лёсе праславянскага ę (для II т. Зап. Аддз. Гуман. Нав.) 14) Говірки Полтавщини (з картами), рыхт. для надрукаваньня ў зборн., прысьвечаным памяці Міхальчука.

## Камісія літаратурнае беларускае мовы.

Праца Камісіі згодна пляну павінна была весьціся ў двух кірунках: 1) упарадкаваньне беларускага пісьма; 2) вызначэньне шляхоў для вывучэньня беларускае літаратурнае мовы.

Пэрсанальны склад Камісіі за справаздачны год вызначаўся ў ліку двух асоб: старшыні Камісіі С. М. Некрашэвіча і сакратара (поўштатнага) А. Багдановіча.

1. Па першай галіне працы Камісія вызначыла дзьве конкрэтныя задачы: а) перагляд беларускага правапісу з мэтай яго рэформаваньня; б) падрыхтоўка матар'ялу да выданьня ортографічнага слоўніку.

Для выкананьня першае задачы пры Камісіі была ўтворана спэцыяльная Правапісная Камісія ў складзе: стар-

шыні С. М. Некрашэвіча, сяброў: Я. Лёсіка, Я. Бялькевіча, П. Бузука, Я. Купалы, В. Ластоўскага і У. Чаржынскага і сакратара А. Багдановіча.

Камісія за справаздачны тэрмін мела 15 пасяджэньняў (у час летняга адпачынку праца не вялася), прычым за гэты час быў перагледжаны правапіс гукаў, як галосных, так і зычных. У аснову працы быў пакладзены правапіс Б. Тарашкевіча, у адносінах да якога зроблены зьмены ў бок яго спрашчэньня.

Па выкананьні другое задачы (п. „б") вялася выпіска слоў на карткі з „Расійска-Беларускага слоўніка" С. М. Некрашэвіча і М. Як. Байкова, прычым за справаздачны тэрмін выпісана 6.000 слоў. Выпіска, за адсутнасьцю асобных сродкаў, вялася асабіста сакратаром Камісіі А. Багдановічам.

1. Па другой галіне—вывучэньне літаратурнае беларускае мовы—праца вялася паасобнымі працаўнікамі Аддзелу: Л. Цьвяткоў вывучаў мову Ф. Багушэвіча, а А. Багдановіч займаўся вывучэньнем граматыкі Б. Тарашкевіча (крыніцы і падставы).

Апрача таго, А. Багдановіч распрацаваў граматыку беларускае мовы, якая была надрукована асобнай кніжкай пад назвай „Беларуская Мова"—Бел. Дзярж. Выдавецтва ў 1928 г.

## Інстытут Навуковае Мовы.

Інстытут Навуковае Мовы рэорганізаваны ў пачатку мінулага акадэмічнага году з Галоўнае Тэрмінолёгічнае Камісіі.

Штат працаўнікоў І. Н. М. складаўся з сямі асоб: дырэктара правадзейнага члена Я. Лёсіка, сакратара Л. Цьвяткова і членаў М. Грамыкі, А. Гурло, І. Луцэвіча, К. Міцкевіча, і Я. Тroськi. Усе яны, за выключэньнем першых двох, мелі няпоўныя стаўкі. Я. Троська працаваў у Горках коордынуючы работу мясцовае тэрмінолёгічнае камісіі з дзейнасьцю І. Н. М. Грамыка М. быў сакратаром тэрмінолёгічнае сэкцыі прыроды, гаспадаркі і тэхнікі. А. Гурло, І. Луцэвіч і Б. Міцкевіч зьяўляліся ня толькі членамі консультантамі, але і пачалі ўкладаць паасобныя тэрмінолёгічная слоўнікі. А. Гурло, апроч таго, укладаў і агульную тэрмінолёгічную картатэку.

Пэратварэньне Галоўнае Тэрмінолёгічнае Камісіі ў Інстытут Навуковае Мовы дало магчымасьць пераходу да новых спосабаў работы. У складзе І. Н. М. ёсьць ужо спэцыялісты з розных галін веды. Такім чынам можна ўжо загатаўляць тэрмінолёгічныя проекты ня толькі шляхам заказаў на старану, але і працаю сваіх уласных спэцыялістаў.

Гэтак была перароблена нанова і вельмі значна пашырана геолёгічная тэрмінолёгія (да яе былі даданы тэрміны з галіны мінэралёгіі, крышталёграфіі і пэтрографіі). Гэтую працу зрабіў М. Грамыка, сакратар тэрмінолёгічнае сэкцыі прыроды, гаспадаркі і тэхнікі.

У канцы справаздачнага году (зноў-жа дзякуючы ператварэньню ўстановы) было ўжо магчымым прыманьне тэрмінолёгіі новым спосабам г. зв. спосабам рэцэнзій. Паасобнікі тэрмінолёгічных проектаў раздаваліся членам І. Н. М., якія і былі рэцэнзэнтамі.

Тыя тэрміны, супроць якіх ніхто з рэцэнзэнтаў не выступаў, лічыліся прынятымі, а рэшта—за спрэчныя.

Толькі гэтыя апошнія і абгаворваліся на сходах І. Н. М. Такім чынам гэтыя сходы зрабіліся больш продукцыйнымі. Аднак апошняя зьмена ў парадку прыняцьця тэрмінолёгій адбылася з пэўным спазьненьнем. Таму больш відавочных вынікаў ад яе трэба чакаць у наступным справаздачным годзе.

У І. Н. М. была яшчэ вялікая спадчына ад ранейшае Галоўнае Тэрмінолёгічнае Камісіі. Таму тэрмінолёгічныя выданьні былі апрацаваны яшчэ старым спосабам і прыняты ў парадку зачытваньня на сходах слова за словам. Гэтым і тлумачацца іх дэфэкты.

Для ўдасканаленьня справы прыняцьця тэрмінолёгіі па новаму спосабу быў камандыраваны дырэктар Інстытуту Навуковае Мовы Я. Лёсік для азнаямленьня ў Інстытут Навуковае Мовы Украінскай Акадэміі Навук.

З азнаямленьня выявілася, што пэўныя спосабы апрацоўкі тэрмінолёгій у Украінскім Інстытуце Навуковае Мовы трэба лічыць за даволі ўдалыя, асабліва вышэйпамянёны мэтод рэцэнзій, таксама як і бюро народна-тэрмінолёгічных матар'ялаў пры І. Н. М. Украінскае Акадэміі Навук дае пэўную дапамогу ў працы Інстытуту. Вынікі дадатных бакоў пастаноўкі справы ў Украінскім Інстытуце Навуковае Мовы пастаноўлена ўвесьці ў нашым Інстытуце Мовы.

У мэтодычных адносінах І. Н. М. у значнай меры прымушаны быў карыстацца старым мэтодам тэрмінолёгічнае працы—індывідуальнай работай паасобных укладальнікаў, якія, аднак праводзілі свае проекты праз спэцыяльна ўтвораныя камісіі. Далей І. Н. М. на сваіх сходах надаваў гэтым проектам належную апрацоўку. Потым адбывалася рэдагаваньне і нагляд за друкам.

На працягу акадэмічнага году адбыліся ўсяго 67 сходаў І. Н. М. На гэтых сходах разглядаліся тэрміны, а таксама абгаворваліся розныя пытаньні, пераважна організацыйнага зьместу.

Друкаваньне тэрмінолёгій ішло нормальным тэмпам: з боку друкарні ня было перашкод, навуковая корэкта выданьняў І. Н. М. вялася яго сакратаром.

Гэтыя заўвагі аб рабоце І. Н. М. у мінулым акадэмічным годзе—пацьвярджаюцца справаздачай аб выкананьні Інстытутам Навуковае Мовы яго пляну працы на 1927-28 акадэмічны год. Прынята тэрмінаў на працягу акадэмічнага году:

| Назва тэрмінолёгіі: | Лік тэрмінаў: |
|---|---|
| а) Фізыка | 1568 |
| б) Мэханіка практычная | 415 |
| в) Бухгальтэрыя | 732 |
| г) Нэўралёгія | 1191 |
| д) Сельская гаспадарка | 110 |
| е) Тэрміны з Ленінскіх твораў | 57 |
| Разам | 4073 |

Увага: У 1927-28 акадэмічным годзе І. Н. М. канчаў работу Галоўнае Тэрмінолёгічнае Камісіі, якая не пасьпела прыняць цалком тэрмінолёгію бугальтэрыі і сельскае гаспадаркі; апроч таго, прынята большая палавіна нэўралёгіі; меншая часьць яе была таксама разгледжана яшчэ Галоўнай Тэрмінолёгічнай Камісіяй. Пачалася праца над тэрмінолёгіяй фізыкі і практычнае мэханікі. Што датычыць тэрмінаў, слоў і зваротаў з Ленінскіх твораў, дык гэта не тэрмінолёгія, а толькі матар'ялы для слоўніка Ленінскіх прац. Сюды ўваходзяць ня толькі навуковыя тэрміны і звароты з галіны грамадазнаўчых навук, але (нават у большай меры) і чыста жыцьцёвыя словы, якія сустракаюцца ў творах Ул. Іл. Леніна. Часткова яны могуць быць выкарыстаны І. Н. М. пры ўкладаньні некаторых тэрмінолёгій. Там сустракаюцца тэрміны філёзофскія, соцыялёгічныя, політыка-экономічныя і інш.

Падгатаваны новыя проекты да наступных тэрмінолёгій:

| | |
|---|---|
| а) Сельска-гаспадарчая расьлінагадоўля | 2000 |
| б) Тэорытычная і будаўнічая мэханіка | 460 |
| в) Дэндролёгія | 1165 |
| | 3625 |
| Дапоўнены проект ранейшае тэрмінолёгіі геолёгіі, мінэралёгіі і крышталёграфіі. | 2700 |
| Усяго разам | 6325 |

Увага: Горацкая тэрмінолёгічная камісія, якая прыслала ў І. Н. М. тэрмінолёгіі сельска-гаспадарчае расьлінагадоўлі і дэндролёгіі з дадатковым чужамоўным (нямецкім і лацінскім) тэкстам просіць, каб і гэты тэкст быў надрукованы. Гэта зьяўляецца пажаданым асабліва дзеля таго, што нямецкая тэрмінолёгія ў даных галінах веды—самая поўная і найлепш апрацаваная.

Дэндролёгія—першая часьць вялікае тэрмінолёгіі лясное справы, якая будзе (паводле прыблізнага падліку) мець каля 7000 слоў і зваротаў.

Да ранейшае геолёгічнае тэрмінолёгіі дадаваліся словы з галіны мінэралёгіі, крышталёграфіі і пэтрографіі, якіх раней там была невялікая колькасьць.

Дадаваліся і чыста геолёгічныя тэрміны, ня ўстаўленыя ў ранейшы проект і, такім парадкам, утваралася тэрмінолёгія ў 2700 слоў і зваротаў.

У першапачатковай апрацоўцы знаходзяцца наступныя тэрмінолёгіі:

| | |
|---|---|
| М. Шчакаціхін. Выяўленчае мастацтва . . . | 3500 |
| А. Гурло. Мэханіка практычная (далейшы працяг) . | 5000 |
| З. Сцапура. Пэдагогічныя дысцыпліны . . . | 3500 |
| Разам . | 12000 |

З гэтых тэрмінолёгій мэханіка практычная і пэдагогічныя дысцыпліны апрацоўваюцца ў трох мовах, а выяўленчыя мастацтвы ў чатырох мовах.

У 1927-28 акадэмічным годзе надрукованы наступныя тэрмінолёгіі:

| | |
|---|---|
| а) Глебазнаўства . . . . | 832 |
| б) Бугальтэрыя . . . . | 1417 |
| в) Хэмія (агульная і неарганічная) . | 2552 |
| г) Сельская гаспадарка . . . | 1672 |
| Разам . | 6483 |

Падгатавана да друку нэўралёгія ў ліку 1960 тэрмінаў.

Увага: Глебазнаўства надрукована ў трох мовах: расійскай, беларускай і нямецкай, хэмія таксама ў трох мовах: расійскай, беларускай і яўрэйскай. Нэўралёгія будзе друкавацца ў трох мовах: лацінскай, расійскай і беларускай.

Выпісана тэрмінаў:

| | |
|---|---|
| З слоўніка Дабравольскага (выкарыстан поўнасьцю) . | 600 |
| З слоўніка Насовіча (літары А. і Б.) . . . | 750 |
| Разам . | 1350 |

Увага: З слоўнікаў бралі толькі тыя словы і звароты, якія маюць характар тэрмінаў. Звычайныя жыцьцёвыя словы і звароты ня выпісваліся.

Уложана частка агульнае картатэкі:

| | |
|---|---|
| Расійска-беларускія карткі . . | 4000 |
| Беларуска-расійскія карткі . . | 4000 |
| Разам . | 8000 |

Увага: Картатэка мае сваёй мэтай папершае—палегчыць даведкі пры тэрмінолёгічнай рабоце, а падругое—падгатаваць матар'-

ял для выданьня агульна-тэрмінолёгічнага слоўніка. Работа гэтая не зьяўляецца тэрміноваю, але павінна быць выканана з усёю магчымаю паўнатою і дакладнасьцю.

Адзовы, програмы, інструкцыі. Апрацована адозва (да настаўніцтва і іншых культурных мясцовых дзеячоў) аб тэрмінолёгічнай працы на мясцох з кароткай праграмай тэрмінолёгічнае работы (надрукована ў часопісах „Наш Край“ і „Асьвета“) і „Інструкцыя для ўкладальнікаў першапачатковых тэрмінолёгічных проектаў“ (надрукована ў часопісе „Наш Край“ і зроблены паасобныя адбіткі).

Гэтымі друкаванымі абвяшчэньнямі І. Н. М. мае на ўвазе ўцягнуць мясцовыя культурныя сілы ў тэрмінолёгічную работу. З гэтай-жа мэтай разослан быў і абежнік ад імя НКА ўва ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы і тэхнічныя школы БССР. У гэтым абежніку настаўніцтва кожнае школы заклікалася да тэрмінолёгічнае працы ў парадку грамадзянскага абавязку.

Службовыя заданьні паасобных членаў І. Н. М.:

а) А. Гурло ўкладаў агульную картатэку.

б) Я. Лёсік і Л. Цьвяткоў выпісвалі тэрміны і звароты з слоўнікаў, рэдагавалі тэрмінолёгіі і рабілі іх корэкту.

в) М. Грамыка, І. Луцэвіч і К. Міцкевіч займаліся пераглядам і папаўненьнем паасобных тэрмінолёгій.

г) Я. Троська меў сваім абавязкам коордынаваньне працы Горацкага Навуковага Таварыства з работаю І. Н. М.

Навукова-дасьледчая і літаратурная работа паасобных працаўнікоў І. Н. М.:

а) Я. Лёсік прачытаў даклад на тэму „Графіка, правапіс і мова ў тэстаманце XVI сталецьця князя Саламерацкага“.

б) Л. Цьвяткоў прачытаў даклад аб правапісе чужаземных уласных іменьняў у беларускай мове.

Рэшта членаў І. Н. М.: М. Грамыка, А. Гурло, І. Луцэвіч і К. Міцкевіч, як пісьменьнікі займаліся літаратурнай працай.

Пытаньне аб дзейнасьці Інстытуту Навуковае Мовы ставілася 23-II-28 г. на пасяджэньні Нацкамісіі ЦВК БССР, якая па дакладу старшыні Аддзелу С. М. Некрашэвіча прызнала асаблівую важнасьць у сувязі з беларусізацыяй тэрмінолёгічнай працы і пастанавіла ўзмацніць яе, дзеля чаго было прызнана патрэбным павялічыць сродкі на апрацаваньне і выданьне тэрмінолёгіі.

## Катэдра гісторыі беларускае мовы і Камісія для ўкладаньня гістрычнага слоўніка беларускае мовы.

Штат катэдры на 1927-28 год складаўся з 2-х працаўнікоў: 1) загадчыка Катэдры—правадзейны член Інбелкульту

М. Дурнаво і 2) навуковага супрацоўніка (1/2 штатнай адзінкі) Я. Воўк-Левановіча.

Галоўны зьмест работы Катэдры гісторыі беларускае мовы ў мінулым акадэмічным годзе складаўся ў організацыі Камісіі для ўкладаньня гістарычнага слаўніка беларускае мовы. Прэзыдыумам Інбелкульту быў вызначаны наступны яе склад: проф. М. М. Дурнаво (старшыня Камісіі), С. М. Некрашэвіч, З. І. Даўгяла, Я. Ю. Лёсік і Я. В. Воўк-Левановіч (сакратар Камісіі).

Да прыезду з Чэха-Славакіі проф. М. М. Дурнаво (г. зн. да лютага 1928 г.) абавязкі старшыні Камісіі выконваў С. М. Некрашэвіч.

Работа Камісіі гістарычнага слоўніка складалася з наступнага.

На першым (пашыраным) пасяджэньні Камісіі 27-га кастрычніка 1927 г. быў заслуханы папярэдні даклад сакратара Камісіі Воўк-Левановіча аб пляне працы над гістарычным слоўнікам беларускае мовы. Па гэтым дакладзе, пасьля абмену думкамі, была вынесена пастанова: у першаю чаргу прыступіць да выкарыстаньня выдатнейшых помнікаў старадаўняй беларускай мовы, як Літоўскі Статут 1588 г., Евангельле Цяпінскага 1570—80 году, Еўеўскае евангельле 1616 г. („Учительное евангелие еп. Каллиста"), беларускія летапісы, зьмешчаныя ў XVII т. „Полного собрания русских летописей", Пецярбург. 1907 г., граматы XIII—XIV ст. ст., дакуманты Літоўскай Мэтрыкі, надрукаваныя ў т. т. XX, XXVII і XXX „Русской Исторической библиотеки" і інш.

З пералічаных помнікаў на гэтым-жа пасяджэньні было пастаноўлена зараз-жа пачаць укладаньне картак першай ступені з Евангельля Каліста і з Літоўскага Статуту 1588 г., для чаго былі прызначаны адпаведныя тэхнічныя працаўнікі.

Адносна мэтоду працы пастаноўлена за аснову ўзяць мэтод, прыняты Кракаўскай Акадэміяй Навук. Мэтод гэты прадугледжвае тры ступені работы: 1) разноску тэксту кожнага з помнікаў на карткі шляхам перапіскі ці наклейкі друкаванага тэксту; 2) складаньне (ужо на картках другой ступені) па гэтых картках паасобных слоўнікаў кожнага помніка і 3) выбарку з картак другой ступені слоўнага матар'ялу і яго зводка ў агульны картачны слоўнік, канчатковае рэдагаваньне і друк. Спосаб трохступянёвай работы абраны быў за яго максымальную дакладнасьць, бо праца пры такім спосабе мэханізуецца і ніводнае слова ня можа быць прапушчана. Поўны даклад аб прынцыпах і мэтодах працы над гістарычным слоўнікам беларускае мовы зроблены быў паўторна ў Клясе Філёлёгіі Аддзелу Гаманітарных Навук у

маі 1928 г. Я Воўк-Левановічам і зданы ў друк (у Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук па Клясе Філёлёгіі).

З тае прычыны, што праца па ўкладаньні поўнага гістарычнага слоўніка павінна зацягнуцца, было прынцыпова прынята рашэньне па меры ўкладаньня слоўнікаў паасобных помінкаў, друкаваць іх асобнымі выданьнямі, бо на погляд некаторых членаў Камісіі—адчуваецца вялікая патрэба ў такіх слоўніках для тэрмінолёгічнай працы, напр., па ўкладаньні тэрмінолёгіі права.

Згодна з пастановамі Камісіі ад лістапада 1927 г. была распачата праца па ўкладаньні картак 1-й ступені з „Учительного Евангелия еп. Каллиста“ і Літоўскага Статуту 1588 г. Карткі з гэтых помнікаў пісаліся і пішуцца ад рукі.

У далейшым праца Камісіі складалася з наступнага: сакратаром Камісіі Воўк-Левановічам была праведзена рэвізія беларускіх помнікаў, што знаходзяцца ў Беларускім Дзяржаўным Музэі і Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэцы, якія можна скарыстаць для гістарычнага слоўніка беларускай мовы, аб чым зроблены даклад у Камісіі 10.XII.1927 г. Выпрацавана ім-жа інструкцыя для ўкладаньня картак I ступені, зацьверджаная Камісіяй 4.II.1928 г. Па прапанове С. Некрашэвіча пастаноўлена было таксама прыцягнуць да працы і некаторых навуковых працаўнікоў-беларусаў, якія жывуць у Ленінградзе і Маскве, даручыўшы ім складаньне картак I ступені з беларускіх помнікаў, якія знаходзіцца ў гэтых гарадох.

Для гэтай мэты, а таксама для рэвізіі помнікаў беларускай мовы ў Ленінградзе, якія можна будзе выкарыстаць для слоўніка, у студзені м-цы 1928 г. быў камандыраваны ў Ленінград сакратар Камісіі Я. Воўк-Левановіч. Па звароце з камандыроўкі ім быў зроблены даклад у Клясе Філёлёгіі аб агледжаных ім у Леніградзе помніках і выніку перагавораў з тамашнімі навуковымі працаўнікамі-беларусамі. Былі назначаны для апрацоўкі ў Ленінградзе ў першую чаргу: 1) Граматыка Л. Зизания, 2) Буквар Наȣка кȣ читаню) Вільня, 1596 г. (у Рас. Пуб. Б-цы) і 3) Радзівілаўскі сьпіс летапісу, рукапіс якога захоўваецца ў бібліотэцы Рас. Акадэмі Навук.

Супрацоўнікамі Камісіі па ўкладаньні картак I ступені згадзіліся быць навуковыя супрацоўнікі Бібліотэкі Акадэміі Навук СССР: Л. В. Арасімовіч і Б. М. Жуковіч, а таксама доцэнт Ленінградзкага Унівэрсытэту К. А. Пушкарэвіч.

Аднак, ад проекту распачаць работу і ў Ленінградзе (таксама ў Маскве) прышлося адмовіцца таму, што, калі разгарнулася праца ў Менску, то стала ясна, наколькі малымі сродкамі Камісія ўладала. Праца была кончаткова стабілізавана толькі на некаторых з тых помінкаў, якія магчыма

выкарыстаць у Менску, менавіта: 1) на старадрукав. Евангельлі Каліста, выд. у Еўі 1616 г. і 2) на Літоўскім Статуце 1588 г.; на выданьнях помнікаў: 3) документаў Літоўскай Мэтрыкі з XX т. „Рус. Историч. Б-ки“ і 4) беларускіх летапісаў, зьмешчаных у 17 томе „Полного Собрания русских летописей“, 1907 г. Да ўкладаньня картак I ступені з апошніх двух помнікаў было прыступлена да лютага 1928 году (спосабам разрэзваньня друкаванага тэксту і наклейваньня).

Да гэтага моманту паступіла ў Камісію ўжо запоўненых картак I ступені 24.190 (двацаць чатыры тысячы сто дзевяноста). З названых вышэй помнікаў ужо скончана работа па ўкладаньні картак I ступені з Ев. Каліста і ў хуткім часе будзе скончана з Літоўскай Мэтрыкі і Беларускіх Летапісаў. Такім чынам у даны момант ужо зьяўляецца магчымасьць распачаць работу па ўкладаньні картак II-ой ступеніі, па ўкладаньні картачных слоўнікаў гэтых помнікаў, кожнага паасобку, што складае самую важную і адказную частку з усяе працы над гістарычным слоўнікам.

У даны момант Катэдра стаіць перад задачай арганізацыі Камісіі па выданьні помнікаў беларускае мовы, якая ў пляне лічыцца, але яшчэ фактычна ня існуе.

Асабістая работа загадчыка Катэдры і навуковага супрацоўніка ў галіне гісторыі беларускае мовы і сумежных дысцыплін складалася з наступнага.

Загадчык Катэдры, проф. М. Дурнаво пераглядзеў старадаўнія рукапісы Дзяржаўнае Бібліотэкі Інстытуту Беларускае Культуры і граматы, што захоўваюцца ў б-цы ІБК і Дзяржаўным Музэі з мэтаю азначыць іх матар'ал для гісторыі беларускае мовы.

У Маскве М. Дурнаво займаўся паміж іншым вывучэньнем рукапісу XIII ст., вядомага пад назваю „Яраслаўскі маліцьвенік“.

Апрача таго, за мінулы год М. Дурнаво надрукаваў наступныя працы:

1. Введение в историю русского языка (Úvod do dějn jazyka ruského). Брно 1927, XXXII+266 стар., з дадаткам 4 дыялектолёгічных карт.

2. Спорные вопросы общеславянской фонетики. II. Гласные из en, em перед носовыми в общеславянском. У часопісу „Slavia“ VI. 2—3.

3. Дыялектолёгічная паездка ў Падкарпацкую Русь улетку 1925 году, з картай.—Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук Інстытуту Беларускае Культуры, кн. 2. Працы клясы Філёлёг, т. I.

4. Русские рукописи XI и XII в. как памятники старославянского языка. V—VII. 54 стр., у часопісу „Іужнословенски Филолог“, кн. VI.

5. Рецензия на книгу Н. Каринского, Образцы письма древнейшего периода истории русской книги, у часоп. Zeitschrift füv slavische Philologie IV. 3—4.

6. Райградский сборник, у зборніку Отделение русского языка и словесности Академии Наук СССР, т. 101, № 3.

Друкуюцца: 1. Der Schwund von Endvokalen im Russischen у часопісу Zeitschrift für Słavische Philologie.

2. Мысли и фантазии о происхождении старославянского языка и славянских алфавитов. Асобнай брошурай.

Здадзены ў друк: 1. Sur le problème du vieux-slave, у зборнік: Recueil des travaux du seminar de linguistique à l'université tehèque á Prague.

2. Да пытаньня аб беларускім аканьні ў 2-гі т. Запісак Клясы Філёлёгіі.

3. Да пытаньня аб беларускіх дыфтонгах. Туды-ж.

Падрыхтоўваюцца да друку:

1. Повторительный курс русской грамматики. Часть 2-я. Синтаксис.

2. Тое-ж, частка 1-я, выд. 2-е.

3. Де-що про еволюцію украінськоі гуковоі системи.

4. Грамматический словарь, выд. 2-е.

5. Les rélativités parmi les faits fenologiques, fonétiques et morphologiques dans un système de langue.

На пасяджэньнях Клясы Філёлёгіі Інбелкультy ім-жа прачытаны даклады: 1) Справаздача аб дыялектолёгічнай паездцы ў Меншчыну, Случчыну і Бабруйшчыну і 2) Справаздача аб навуковых занятках у Маскве ў красавіку 1928 г.

Навуковы супрацоўнік Катэдры О. В. Воўк-Левановіч надрукаваў, або падрыхтаваў да друку наступныя свае работы.

Надрукованы: 1) Форма „прошлага ў будучым“ у мове докумэнтаў Літоўскай Мэтрыкі.—Працы Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту № 16. Менск 1927 г., стар. 68—78.

2) Лекцыі па гісторыі беларускай мовы. Уступ і фонэтыка. Літаграфаванае выданьне часткі курсу, чытанага аўтарам за апошнія тры гады (1925-26—1927-28 акад. г. г.) у Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце. Коштам аўтара. Менск, 1927 г.

3) Важнейшыя рысы ў консонантызьме. Татаркавічы, Бабруйскай акругі—у „Сборнике“ Отделение русского языка и словесности Академии Наук СССР, том CI № 3, стар. 209—214. Ленінград 1928 г.

4) Важнейшыя рысы гаворкі вёскі Татаркавічы і гаворак ваколічных вёсак—у „Запісках Аддзелу Гуманітарных Навук“ Інстытуту Беларускае Культуры, кн. 2, Працы Клясы Філёлёгіі т. I стар. 147—188, Менск 1928.

Зданы ў друк:

5) Аб прынцыпах і мэтодах працы па ўкладаньні гістарычнага слоўніка беларускай мовы.—У другі том „Запісак Аддзелу Гуманітарных Навук“ ІБК па Клясе Філёлёгіі. Прыблізна 1 друкаваны аркуш.

6) Еще к вопросу о „ляшских“ чертах в белорусской фонетике—у філёлёгічную часопісь „Slavja“ (Прага). Прыблізна на $1^1/_2$ друкаваных аркушы.

7) Апроч таго—увагі адносна беларускіх помнікаў, перагледжаных у Менску і Ленінградзе ў час командыроўкі ў студзені 1928 г.—рыхтуюцца да друку асобным артыкулам.

## Катэдра гісторыі беларускае літаратуры і Камісія для выданьня твораў беларускіх пісьменьнікаў.

У мінулым годзе Катэдра працавала ў наступным складзе: загадчык Катэдры—І. І. Замоцін, навуковыя спэцыялісты—М. М. Піотуховіч і А. І. Барычэўскі, сакратар—навуковы супрацоўнік В. Т. Мачульскі і тэхнічны супрацоўнік В. С. Бандарэнка. У склад Катэдры ўваходзіў таксама асьпірант У. В. Чаржынскі. Апрача таго, да працы былі прыцягнуты некаторыя асобы, якія не зьяўляюцца штатнымі працаўнікамі ў Інбелкульце—Ю. Я. Бібіла і А. С. Фідроўская.

На працягу году па Катэдры адбылося 35 пасяджэньняў, з якіх 17 былі прысьвечаны наступным навуковым дакладам:

І. І. Замоцін—1) „Тэматыка вершаў М. Багдановіча“, 2) „Чарговыя задачы вывучэньня гісторыі беларускае літаратуры“.

Я. І. Барычэўскі—1) „Аб відах вывучэньня літаратуры“, 2) „Бібліографія літаратуры аб Багдановічу“.

В. Т. Мачульскі—1) „Біографія С. Палуяна“, 2) „Да пытаньня аб беларускім элемэнце ў „Слове а палку Ігара“.

У. В. Чаржынскі: 1) „Я. Купала ў крытыцы нашаніўскае сучаснасьці“.

Апроч таго, на сходах Катэдры былі зроблены даклады Ю. Я. Бібілай на тэмы: 1) „Біографія Цёткі“, 2) „Аб лірыцы Цёткі“ і А. С. Фідроўскай: 1) „Лірычныя жанры М. Багдановіча“, 2) „Эйдолёгія М. Багдановіча“.

Апрача таго, былі зроблены даклады на агульных сходах Клясы Філёлёгіі:

І. І. Замоцін: 1) „Чарговыя задачы вывучэньня гісторыі беларускае літаратуры“, 2) „Проект анкет для зьбіраньня крытычна-біографічных матар'ялаў па гісторыі беларускае літаратуры“, 3) „Задачи изучения белорусской литературы в связи с краеведением“ 10/XII-1927 г. у Сэкцыі мовы і літаратуры Бюро Краязнаўства пры Б. Д. У., 4) „Художественные произведения Л. Толстого и их ценность с точки зрения нашей современности“—судаклад 4/III—1928 г. на дыспуце: „Л. Толстой и наша современность“ (Дом Прац. Асьветы), 5) „Некрасов в жизни и в творчестве“—на пасяджэньні Нав. Т-ва Б. Д. У. 11/III-1928 г., прысьвечным 50-годзьдзю сьмерці пісьменьніка, 6) „Основные моменты в литературной деятельности М. Горького“ на ўрачыстым пасяджэньні, прысьвечаным юбілею М. Горкага 29-III 1928 г. (Дом Культуры), 7) „Жизнь и творчество Некрасова“ — 1-IV 1928 г. у Доме Прац. Асьветы, 8) „Жыцьцё і творчасьць М. Горкага“—30-IV-1928 г. у Інбелкульце на пасяджэньні, прысьвечаным юбілею М. Горкага, 9) „Эволюция темы в творчестве М. Горького“—8-IV-1928 г. на пасяджэньні Нав. Т-ва пры БДУ, прысьвечаным юбілею М. Горкага, 10) „О художественном творчестве Л. Толстого“—17-IX 1928 г. на пасяджэньні, прысьвечаным 100-годзьдзю з дня нараджэньня Л. Талстога (Дом Культуры), 11) „Толстой—художник“—19-IX на пасяджэньні Нав. Т-ва пры БДУ, прысьвечаным 100-годзьдзя з дня нараджэньня Л. Талстога, 12) „Художественное творчество Л. Толстого“ 22-IX 1928 г. для студэнтаў-рабфакаўцаў, 13) „Матар'ял выкладаньня літаратуры і яго програмнае групаваньне“—у гуртку выкладчыкаў бел. і рас. літаратуры 19-X-1927 г. (у Пэдагогічным габінэце пры Доме Прац. Асьветы), 14) „Навуказгоднасьць выкладаньня літаратуры“ у тым-жа гуртку 29-X-1927 г. (там-жа).

М. М. Піотуховіч, „Перажыткі аграрнае магіі ў беларускай абрадавай поэзіі“.

Я. І. Барычэўскі „Матчын Дар“ А. Гаруна“.

В. Т. Мачульскі. „Біографія С. Палуяна“.

У. В. Чаржынскі. „Жыцьцё і творчасьць Я. Коласа“.

Супрацоўнікамі Катэдры выкананы і надрукаваны наступныя працы:

І. І. Замоцін:

1) „М. Багдановіч. Крытычна-біографічны нарыс“. VII. (Крыніцы творчасьці). „Узвышша“ 1927, № 3.

2) „М. Багдановіч. Крытычна-біографічны нарыс“ VIII. (Тэматыка і ідэолёгія). „Узвышша“ 1927, № 5.

3) „Мастацкая літаратура ў школьным выкладаньні“. Вып. I. Менск, 1927.

4) „Мастацкая літаратура ў школьным выкладаньні“. Вып. II, Менск, 1928.

5) „Аб увязцы беларускага літаратуразнаўства з краязнаўчаю працаю“—„Наш Край“ 1928, № 5.

6) „Спроба ўкладаньня анкет для збіраньня крытычнабіографічных матар‘ялаў па гісторыі беларускае літаратуры“—„Наш Край“ 1928, № 5.

7) „Чарговыя задачы вывучэньня гісторыі беларускае літаратуры“—„Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук“: „Працы Клясы Філёлёгіі“, т. I.

8) Артыкул аб М. Багдановічу для „Литературной Энциклопедии“.

9) „Расійская мастацкая літаратура ў пэрыод 1917—27 г. г.“ „Узвышша“ 1927, № 6.

10) „Эволюцыя тэмы ў творчасьці М. Горкага“—„Узвышша“ 1928, № 2.

11) „Мастацкая творчасьць Л. Талстога“ — „Полымя“ 1928 г., № 7.

12) „На переломе“. Схема литературных исканий к XIX и XX ст. „Працы Бел. Дзярж. Ун-ту“ 1927 г., № 16.

М. М. Піотуховіч:

1) „Нарысы гісторыі беларускай літаратуры“. Ч. I. Менск, 1928 г.

2) „Творчасьць Цішкі Гартнага“ („Росквіт“ № 1).

3) „Ядвігін Ш. (жыцьцё і літаратурная дзейнасьць“)—„Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук“: Працы Клясы Філёлёгіі, т. I.

4) „Звычаі і песьні беларускага селяніна ў іх гаспадарчай аснове“—„Полымя“ 1928, № 3.

5) Шэраг артыкулаў на расійскай мове для „Литературной Энциклопедии“, выд. Ком. Ак. („Белорусская литература“, „Богушевич“, „Гартный“ і інш.) і для Б. С. Э.

6) Рэцэнзія на зборнік Шлюбскага „Матар‘ялы па вывучэньні мовы і фольклёру Віцебшчыны„—„Запіскі Аддз. Гум. Навук ІБК“. „Працы Клясы Філёлёгіі“, т. I.

7) „Асноўныя этапы ў разьвіцьці лірыкі Янкі Купалы“ (2 выд. у зборніку „Янка Купала ў літаратурнай крытыцы“).

А. І. Барычэўскі:

1) Проблемы поэтыкі ў новай кнізе О. Вальцэля—„Узвышша“ 1927, № 4.

2) „Матчын Дар“ А. Гаруна—„Узвышша“ 1928, № 2.

3) „Сучаснае ў старажытным“—„Узвышша“ 1928, № 3.

4) Рэцэнзія на кнігу „Янка Купала ў літаратурнай крытыцы"—„Полымя" 1928, № 5.

5) Аб акадэмічным выданьні М. Багдановіча—„Працы Клясы Філёлёгіі ІБК", т. І.

В. Мачульскі:

1) „Ян Няслухоўскі. Да трыццацігодзьдзя са дня сьмерці".—„Савецкая Беларусь" 1927, № 230.

2) Рэцэнзія на кнігу „Т. Шевченко. Кобзар. Під редакцією акад. Ефремова і Новицького. Київ.—„Савецкая Беларусь" 1927 г., № 232.

3) Рэцэнзія на кнігу „Т. Шевченко. Поезія. Том перший, выд. Украінскае Акадэміі Навук. Історично-Літературне Товариство". К. 1927—„Узвышша" 1927, № 5.

4) „К. Каганец, як пісьменьнік і грамадзянін".—„Савецкая Беларусь" 1928, № 115.

Рэцэнзія на кнігу „Щоденні записки (журнал) Тараса Шевченко". Выданьне Украінскае Акадэміі Навук.—„Савецкая Беларусь" 1928, № 222.

У. Чаржынскі.

1) „Янка Купала ў крытыцы нашаніўскіх сучасьнікаў"—„Полымя" 1927 г. № 8.

2) „Да пытаньня аб псыхолёгічным стылі нашаніўскае поэзіі"—„Узвышша" 1928, № 3

3) „Якуб Колас. Біографічна-крытычны нарыс"—І т. збору твораў Я. Коласа.

4) Рэцэнзія на твор Т. Гушчы „У глыбі Палесься"—„Полымя" 1928, № 1.

Ю. Я. Бібіла:

„Матар'ялы да біографіі Цёткі". „Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук". „Працы Клясы Філёлёгіі", т. І.

Большасьць пералічаных вышэй прац маюць беспасрэдную сувязь з досьледамі Катэдры. Іх агульны памер прыблізна 48 друкаваных аркушоў. Частка гэтых прац зьмешчана ў „Запісках Аддзелу Гуманітарных Навук" („Працы Клясы Філёлёгіі), рэшта ў іншых пэрыодычных выданьнях.

Падрыхтаваны да друку наступныя працы:

1. Барычэўскі—„Поэтыка, як навука".
2. Мачульскі—„Біографія С. Палуяна".
3. Мачульскі „З сучаснага стану літаратуразнаўства на Украіне". Здана ў „Маладняк".

Апрача таго, 1) супрацоўнікамі Катэдры складзены шэраг артыкулаў аб беларускіх пісьменьніках для „Вялікай Савецкай Энцыклёпэдыі" і „Літаратурнай Энцыклёпэдыі". Гэ-

тыя артыкулы, у колькасьці 17-ці, адасланы ў адпаведныя рэдакцыі.

2) Катэдрай апрацаваны проект анкет для зьбіраньня крытычна-біографічных даведак аб беларускіх пісьменьніках. Анкеты надрукованы і рассылаюцца для выкарыстаньня.

3) Катэдра накіроўвала справу апісаньня рукапісаў беларускіх пісьменьнікаў, прычым праведзена поўнасьцю апісаньне рукапісаў М. Багдановіча і заканчваецца вопіс аўтографаў А. Гаруна.

4) Кіраваньне падрыхтоўкай асьпіранта Ў. Чаржынскага.

Катэдраю гісторыі беларускае літаратуры на працягу справаздачнага году былі вызначаны дзьве навуковыя камандыроўкі для сваіх супрацоўнікаў—РСФСР і УССР; для заняткаў у часе камандыроўкі былі ўкладзены адпаведныя інструкцыі.

У Ленінград і Маскву камандыроўку атрымаў асьпірант У. В. Чаржынскі, але, па незалежных ад яго прычынах, гэтая камандыроўка не адбылася.

На Украіну Катэдраю быў камандыраваны навуковы супрацоўнік В. Т. Мачульскі, які азнаёміўся з пастаноўкай справы выданьня твораў пісьменьнікаў пры Украінскай Акадэміі Навук і зьбіраў неабходныя матар'ялы і даведкі, што выкліканы былі ў сувязі з акадэмічным выданьнем II-га тому збору твораў М. Багдановіча.

Камісія для выданьня твораў беларускіх пісьменьнікаў, якая ўваходзіць у склад Катэдры, выканала наступныя заданьні згодна пляну:

1. Канчаткова быў зрэдагаваны тэкст II-га тому твораў М. Багдановіча, які складаецца з наступных разьдзелаў: 1) „Гісторыя літаратуры і крытыка", 2) „Беларуская грамадзкасьць", 3) „Славянства", 4) „Нататкі і рэцэнзіі" і 5) „Varia"; складзены крытычна-біографічны нарыс, бібліографія друкаваных твораў Багдановіча і крытычнае аб ім літаратуры; кароткі вопіс яго рукапісаў. Праведзена карэктура 25-ці друкаваных аркушоў II-га тому; апошніх 6-7 аркушоў знаходзяцца яшчэ ў наборы.

2. Устаноўлены тэкст 2-х разьдзелаў твораў А. Гаруна („Матчын Дар" і вершы, якія перадрукоўваюцца з пэрыодычных выданьняў) памерам прыблізна на 12 друкаваных аркушоў і сабраны даведкі да крытычнага апарату гэтых двух разьдзелаў. Праца над тэкстам іншых разьдзелаў працягваецца і будзе скончана прыблізна ў сьнежні.

3. Праведзена першапачатковая падрыхтоўка да друку твораў Цёткі, г. зн. сабраны і перапісаны з пэрыодычнага друку яе вершы і проза, устаноўлены іх падзел на разьдзелы і хронолёгічны парадак і сабраны некаторы матар'ял

для заўваг; агульны памер матар'ялаў—прыблізна 10 друк. аркушоў.

Канчатковае зрэдагаваньне матар'ялу будзе праароблена ў другой палове бягучага акадэмічнага году.

4. Скоп'яваны творы беларускіх пісьменьнікаў:—Ядвігіна Ш., апавяданьні, якія былі зьмешчаны ў „Нашай Ніве" за 1909, 1910, 1911 і 1912 гады і ў „Беларускім Календары" за 1912 г.; Ф. Багушэвіча—вершы, якія былі зьмешчаны ў „Нашай Ніве" за 1907 г. і К. Каганца—з Беларускіх календароў за 1911 і 1912 гады.

Катэдра лічыць, што ўвогуле плян выканаты паводле ўсіх разьдзелаў, за выключэньнем працы над падрыхтоўкай да друку твораў А. Гаруна, якая спазьнілася на $1^1/_2$-2 месяцы. Тлумачыцца гэта тым, што праца па ўстанаўленьні тэксту вымагае шмат часу: Камісія на працягу году мела 44 пасяджэньні, з якіх прысьвечана ўстанаўленьню тэксту А. Гаруна—33, і магла апрацаваць усяго 2 разьдзелы. На гэтай падставе можна зрабіць вывад, што ў пляне наступнага году трэба ў некаторай ступені скараціць колькасьць матар'ялаў для апрацоўкі да акадэмічнага выданьня твораў пісьменьнікаў.

---

## КЛЯСА ГІСТОРЫІ.

(Старшыня правадзейны член А. Ясінскі, нам. старшыні праф. В. Дружчыц, сакратар З. Даўгяла).

На пасяджэньнях Клясы Гісторыі за мінулы справаздачны год былі зачытаны наступныя даклады:

Ясінскі А. М.—Некалькі крытычных заўваг на кнігу данін Казіміра (1444-1484).

Пічэта Ў. І.—Беларуска-Літоўскае баярства на пярэдадні шляхецкіх прывілеяў.

Дубінскі С. А.—Даклад аб сучасным становішчы археолёгічнага вывучэньня Аршаншчыны.

Ляўданскі А.—Даклад аб аглядзе Аршанскага замчышча—гарадзішча.

Даўгяла З.—Гістарычныя зьвесткі адносна Аршанскага замку.

Даўгяла З.—Moenia Polocensia (Нарыс і топографія Полацкіх умацаваньняў).

Дружчыц В.—Войт і яго ўлада ў беларускіх местах.

Цьвікевіч А. І.—Заходня-русізм, яго зьмест і прадстаўнікі ў 1860-х гадох.

Забела Т. І.—Места Берасьць у XVI веку (соц.-эконом. нарыс).

Громаў (палеонтолёг-супрацоўн. Акадм. Матар'яльнай Культуры СССР). Даклад аб выніках, зробленых ім пры разборцы касьцей маманта і іншае жывёлы, якія дастаўлены ў Археолёгічную Камісію з раскопак па Бердыжу Гомельскае акругі (адбыліся ў 1927 г.).

Ігнатоўскі У. Да пастаноўкі пытаньня аб паўстаньні 1863 г. на Беларусі.

Ясінскі. Васіль Паулавіч Любіч менянін, пісар В. К. Л. і яго зямельны набытак.

Даўгяла. Справаздачны даклад аб вопісах рукапісаў Усеукраінскай бібліотэкі.

Пічэта Ул. Ів. Архіўная справа ў Польшчы.

Шчакаціхін. Папяровыя вадзяныя знакі XVI-XVII ст.ст.

Сосіс. Протоколы Літоўскага Вааду і іх значэньне ў соцыяльнай гісторыі Беларусі і Літвы.

Любаўскі (зачытаны). Литва и славяне в их взаимных отношениях в XI-XIII в. в.

Цьвікевіч. Беларускі гурток б. Віленскага Ун-ту.

Ляўданскі. Археолёгічныя досьледы на водным шляху Дняпро-Катынь-Каспля.

Бурдзейка. Крытычны агляд працы Барысенка „Нацыянальны характар Літоўскага Статуту 1529 г.

Віткоўскі. „Зямля і Воля“ 1860 году і яе сувязь з паўстаньнем 1863 г. і паўстанскімі організацыямі па Віцебшчыне.

Нікольскі. Сьляды першабытных гаспадарчых формаў у Ізраільскай легендзе.

Шчакаціхін. Да пытаньня аб хронолёгіі малой падарожнай кніжцы Скарыны.

Цьвікевіч. Даклад аб працы проф. Жуковіча—„Инвентарный вопрос и начало крестьянской реформы“.

Аляксандраў.—Яўрэйскае насельніцтва ў гарадох і мястэчках Беларусі.

Цытовіч (выкладчык С.-Гас. Акадэміі). Паўстаньне 1863 г. у Гары-Горацкім павеце.

Сьцяпанаў (асьпірант). Даклад-справаздача—Закупы „Рускай Праўды“ ў гістарычнай літаратуры.

Ясінскі — Сярэднявечныя зямельныя надзелы чэскіх сялян.

### Катэдра гісторыі Беларусі.

Катэдра гісторыі Беларусі была організавана ў пачатку 1927 г. і складалася фактычна з аднаго навуковага работніка—загадчыка Катэдры проф. У. М. Ігнатоўскага і

аднаго тэхнічнага супрацоўніка сакратара Катэдры Л. А. Бабровіча.

Па прычыне малое колькасьці навуковых работнікаў,— фактычна аднаго загадчыка Катэдры, Катэдра не змагла належным чынам арганізавацца і разгарнуць сваю працу, не магла наладзіць паасобных навуковых сходаў і пасяджэньняў, а зьвязвала іх з агульнымі сходамі ўсяе Клясы Гісторыі.

Праца паасобных працаўнікоў заключалася ў наступным:

Загадчык Катэдры проф. У. М. Ігнатоўскі ў мінулым акадэмічным годзе, згодна пляну, найбольш працаваў над паўстаньнем 1863 году на Беларусі. Як вынік працы, зьявіўся рукапіс, памерам каля 12 друкаваных аркушоў, на тэму: „Падзеі паўстаньня 1863 году на Беларусі". Рукапіс да друку яшчэ ня зусім гатовы. Для здачы яго ў друк трэба будзе яшчэ працаваць некалькі месяцаў. Праца будзе закончана к новаму году, і рукапіс будзе аддаены ў друк.

На аснове вывучаных матар'ялаў 1863 году была распрацована тэма—„Да пастаноўкі пытаньня аб паўстаньні 1863 г. на Беларусі" Гэтая праца ўжо надрукавана ў часопісу „Бальшавік Беларусі" за 1928 год, № 6-7. Праца чыталася, як даклад на сходзе Гістарычнай Клясы Аддзелу Гуманітарных Навук ІБК.

У сувязі з 10-годзьдзем Кастрычнікавай рэволюцыі і згодна пляну вывучаліся матар'ялы па гісторыі Кастрычніка на Беларусі. На аснове выкарыстаных матар'ялаў быў напісаны артыкул бібліографічнага характару на тэму: „Вывучэньне Кастрычнікавай рэволюцыі на Беларусі". Артыкул быў надрукаваны ў часопісу „Наш Край" за 1927 год, № 10(25).

Таксама ў сувязі з 10-годзьдзем Кастрычніка на аснове адпаведных матар'ялаў быў напісаны артыкул на тэму— „Наша нацыянальна-культурнае будаўніцтва за 10 год". Артыкул быў надрукаваны ў часопісу „Савецкае Будаўніцтва" за 1928 год, № 1.

Апроч вышэйпаданага, прышлося шмат працаваць над адпаведнымі матар'ямі ў сувязі з пастаноўкаю пытаньня аб сыстэме народнай асьветы на Беларусі.

Некалькі разоў у Менску, а таксама ў іншых гарадох Беларусі выступаў з дакладам на тэму: „Ленін і культурная рэволюцыя". Зьяўляецца членам рэдакцыі па выданьні твораў Леніна ў беларускай мове.

Сакратар катэдры Л. А. Бабровіч вёў тэхнічную працу па організацыі Катэдры. Апрача таго, Л. А. Бабровіч вывучаў працы У. І. Леніна і рабіў выпіскі ўсяго матар'ялу, які

датычыць да Беларусі. Выпіскі на 18 друкаваных на машынцы аркушох зданы ў Архіў Клясы Гісторыі.

Апрача штатных членаў, пры Катэдры гісторыі Беларусі быў звышштатны працаўнік М. В. Мялешка, які займаўся падборам і вывучэньнем матар'ялаў да экономічнага і праўнага палажэньня сялянства на Беларусі ў XII ст. і сялянскіх рухаў.

## Камісія для вывучэньня гарадоў і краін Беларусі.

Камісія для вывучэньня гісторыі гарадоў і краін Беларусі, організаваная ў часе рэформаваньня Інбелкульту ў восень 1927 г. Мае толькі аднаго штатнага працаўніка, якім зьяўляецца старшыня Камісіі проф. В. Д. Дружчыц.

Камісія імкнулася перш за ўсё скласьці пэўны колектыў працаўнікоў як з штатных працаўнікоў Інбелкульту, так і пазаштатных, з усіх тых, хто цікавіцца гісторыяй гарадоў і паасобных краін Беларусі. Вынікам такой працы зьявілася організацыя паасобнай Камісіі, якая знайшла сваё афармленьне ў пачатку кастрычніка 1927 г.

Старшыня Камісіі В. Д. Дружыц вывучыў і надрукаваў у II-ім томе Прац Гістарычнае Клясы пытаньне на тэму: „Войты і іх улада ў гаспадарскіх местах Беларусі з Майдэборскім правам". В. Д. Дружыц яшчэ займаўся падрыхтоўкай і апрацаваньнем матар'ялаў па пытаньнях з гісторыі беларускіх мест на тэмы: а) мяшчане і іх экономічнае і праўнае палажэньне ў XV-XVI ст. і б) Магістрат і яго ўлада. Распрацоўка матар'ялу на гэтыя тэмы вялася ў Менску з друкаваных крыніц і затым улетку, у жніўні месяцы, у архіве Народнай бібліотэкі ў Кіеве і ў Архіве „Древнехранилище" ў Маскве; для выкананьня гэтай мэты Інбелкультам была дана адпаведная камандыроўка. Праца ў Кіеве вялася пераважна ў бібліотэцы і заключалася, галоўным чынам, у вывучэньні старых выданьняў, а таксама і рукапісаў тых уводаў Майдэборскага права, якія ўжываліся на Беларусі. У Маскве вялася праца па выбарцы матар'ялаў з Архіву Літоўскай Мэтрыкі, якія датычыць гарадоў Беларусі. Былі прагледжаны і адзначаны матар'ялы з кнігі запісаў, пачынаючы ад 49 да 96 уключна, некаторыя кнігі публічных спраў і некаторыя— судовыя, якія датычыліся таго-ж часу, гэта значыць канца XVI і пачатку XVII в.

Апрача таго, В. Д. Дружчыц працаваў над падрыхтоўкай працы па гісторыі Вільні XII-XVII ст. для зборніка 800-лецьця горада Вільні, які зборнік падрыхтоўвае да выпуску ў 1929 г. Камісія для вывучэньня гісторыі гарадоў і краін Беларусі.

Апрача старшыні Камісіі, у працах Камісіі актыўны ўдзел прымаў асьпірант Сьцяпанаў, які выконваў ня толькі свае асьпіранскія заданьні, але падрыхтоўваў для друку працу на тэму „Места Магілеў да дараваньня Майдэборскага права“, якая зьмешчана ў II-ім томе прац Гістарычнае Клясы.

Паводле заданьня Камісіі працавалі асьпіранты Т. І. Забела і А. М. Таўсталес.

Забела падрыхтаваў працу „Места Берасьце ў XIV і XVI ст.“, якая была зачытана ў пасяджэньні Гістарычнае Клясы. А. М. Таўсталес працавала над гісторыяй м. Пінску ў XV-XVI в. в.

Камісіяй распачата зьбіраньне і падрыхтоўка матар‘ялаў для вывучэньня гісторыі горада Менску, што будзе бліжэйшай задачай Камісіі.

## Камісія для вывучэньня гісторыі асьветы.

Мінулы 1927-28 акад. год зьявіўся для Камісіі гісторыі асьветы Беларусі першым годам яе існаваньня. Гэтым можна тлумачыць той факт, што Камісія за гэты год ня здолела выдаць у друку сваіх прац. Дзейнасьць яе зводзілася да выясьненьня тэм і мэтодаў іх апрацоўкі, да зьбіраньня адпаведных матар‘ялаў, адшуканьню крыніц і г. д. З вялізарнага багацьця прадмету яе досьледу, Каміся мусіла ўзяць гэткія конкрэтныя пытаньні, якія былі карысны і для навукі гісторыі Беларусі наогул.

Спачатку Камісія лічыла магчымым запрасіць да супрацоўніцтва ў ёй неакрэсьлены лік работнікаў, незалежна ад іх кваліфікацыі. З гэтай мэтай была выдадзена адозва (надрукавана ў час. „Наш Край“ за 1928 г.), да ўсіх працаўнікоў асьветы на Беларусі і асоб, зацікаўленых яе гісторыяй, з просьбай прыслаць матар‘ялы. Аднак, гэтая адозва не дала пажаданага эфэкту,—удзел у працах Камісіі прымаў за мінулы год невялікі лік бліжэйшых навуковых працаўнікоў, яе сяброў, якія і прарабілі пэўную працу.

Старшыня Камісіі—А. Цьвікевіч займаўся вывучэньнем культурна-асьветнага стану Беларусі ў першай чвэрці XIX ст. З гэтай мэтай была ўстаноўлена сувязь з корэспондэнтам у Ленінградзе (супрацоўнік Акадэміі Навук Б. Н. Жуковіч), гэтай-жа мэце прысьвечана была камандыроўка ў Ленінградзкі Гістарычны Архіў. Вывучаны і зроблены копіі з архіву проф. віленскага унівэрсытэту Міхайлы Баброўскага, гэты архіў знаходзіцца ў Рукапісным Аддзяленьні Акадэміі Навук, зроблены вышукі і выпіскі з „Архива Віленского Учебного Округа“, якія датычаць дзейнасьці проф. Ігната Даніло-

віча і Міх. Баброўскага (Цэнтраархіў у Ленінградзе), зроблены вышукі і выпіскі з „Архива Гос. Совета“ за часы 1828-1831 г. г. і далей, пад час працы проф. Ігн. Даніловіча пры Камісіі Сьперанскага над улажэньнем так зв. „Западного Свода Законов“. З гэтай мэтай прагледжана літаратура, якой няма ў менскіх бібліотэках і якая датычыць стану культуры і асьветы Беларусі ў гады 1815-1830—часопісы, газэты, рэдкія навуковыя выданьні, складзены матар'ялы біографічныя памянутых двох профэсароў, вывучаны статыстычныя матар'ялы аб ліку тагочасных школ у Віленскай акрузе (часы Чацкага-Чартарыйскага). Гэтая праца праводзілася ў Ленінградзкай Публічнай Бібліотэцы.

Працяг досьледаў архіўнага характару адбываўся затым у Маскве (Архив б. III отд. С. Е. В. Канцелярии), дзе дасьледваліся архіўныя даныя аб проф. Віл. У-ту Ігнаце Анацэвічы.

Уся азначаная праца праводзілася дзеля таго, каб давесьці існаваньне ў Вільні сярод тагочаснай профэсуры і моладзі асобнае мясцовае групы, якую можна з пэўным правам назваць беларускай, або „рутэнскай“. Пытаньне гэтае ў сучасны момант можна лічыць даведзеным, хоць бракуе некаторых аўтэнтычных документаў. У гэтай справе была таксама наладжана сувязь з Львовам і Варшавай (проф. Сьвенціцкі і Р. Земкевіч) з мэтай дастаць некаторыя копіі з Львоўскіх і Віленскіх архіўных сховаў. Дзеля таго, што ў літаратуры ёсьць глухія заўвагі аб сувязі памянёнай беларускай партыі з дэкабрыстамі (валынскімі братчыкамі), была ўстаноўлена перапіска з дэкабролёгамі—Оксаманам у Ленінградзе, Яворскім у Харкаве, Базілевічам—у Кіеве.

Апрача таго, завязана сувязь з супрацоўнікамі Кіеўскіх архіваў (Максімовіч) з мэтай дасьледваньня некаторых даных аб віленскай профэсуры па спадчыне б. Крэменецкага Ліцэя.

Вынікам гэтае дзейнасьці згодна пляну на 1928-29 год будзе зьяўляцца адпаведная друкаваная праца.

Апрача таго, А. Цьвікевіч займаўся ў мінулым годзе пераходнай эпохай 1861-1862 г. (да паўстаньня) з мэтай вывучэньня пытаньня аб барацьбе за асьвету на Беларусі ў гэтыя гады паміж польскай і расійскай стараной. Вынікам гэтай працы зьяўляецца падгатаваная да друку праца, заснаваная на недасьледваных пакуль што архіўных матар'ялах, якія сьведчаць, што ў гэтыя гады проектаваўся журнал на беларускай мове і была выдадзена Вил. Уч. Округом кніга для школ на беларускай мове.

Старшыня Камісіі А. Цьвікевіч за мінулы год займаўся таксама вывучэньнем „западно-руссизма“ на Беларусі, як

культурна-грамадзкай плыні. Адзначаная праца друкавалася ў часопісі „Полымя“ пад заголоўкам: „Западно-русская“ школа і яе прадстаўнікі,—у №№ 1927 г. № 8, 1928 г. №№: 1, 2, 3, 4, 5, 7, 9 і цяпер выходзіць з друку асобным выданьнем (18 друк аркушоў). Тэма працы ахапляе пэрыод часу з 60-х па 90-ыя гады, прычым пытаньне аб „западно-руссизме“, яго разьвіцьці і заняпадзе распрацавана ў рэзрэзе эканомічнай барацьбы за Беларусь паміж Расіяй і Польшчай.

У мінулым годзе Старшыня Камісіі А. Цьвікевіч прачытаў на пасяджэньнях Гістарычнае Клясы і на пасяджэньнях Камісіі гісторыі асьветы чатыры даклады на тэмы, зьвязаныя з яго працай. Апрача таго, быў зроблены даклад-справаздача аб выніках навуковай камандыроўкі ў Ленінград.

Сакратар Камісіі В. Александроўскі ў мінулым годзе распрацоўваў пытаньне аб стане пісьменнасьці Беларусі на аснове апошніх перапісаў. Вынікам гэтай працы зьявіўся адпаведны даклад на пясяджэньні Камісіі з дэмонстрацыяй шэрагу дыяграм. Азначаны даклад разам з распрацавнымі дыяграмамі і картай пісьменнасьці БССР падрыхтаваны да друку. Апрача таго, сакратар Камісіі А. Александроўскі працаваў над складаньнем бібліографіі па гісторыі асьветы Беларусі, пераважна XVIII веку.

За мінулы год у Камісіі былі заслуханы даклады т. т. Аляксандрава—Яўрэйская асьвета на Беларусі пры Мікалаі I, М. Касьпяровіча—Да пытаньнія аб навуковым вывучэньні Беларусі і Я. Сіманоўскага—аб прынцыпах складаньня бібліографіі па гісторыі культуры і асьветы на Беларусі (Апошняе пытаньне стаіць яшчэ неразьвязаным і падгатаўляецца да далейшага разгляду ў 1928-29 годзе).

Пры беспасрэдным удзеле Камісіі быў набыты Інбелкультам рукапіс проф. П. Н. Жуковіча: „Инвентарный вопрос и подготовка крестьянской реформы в Белоруссии“, які мае выдатнае значэньне, як першарадная праца па архіўных матар‘ялах для эканомічнае гісторыі Беларусі ў першай палове XVI в.

## Катэдра гісторыі беларускага права.

Штат катэдры ў мінулым акадэмічным годзе складаўся з аднаго працаўніка—загадчыка Катэдрай, правадзейнага члена У. І. Пічэты, які займаўся наступнымі пытаньнямі:

2. Распрацоўка монографіі па гісторыі беларускага права „Зямляўласьнік і земляроб у дастатутавую эпоху“. Частка гэтай працы надрукавана ў „Працах Інбелкульту“. Апроч гэтага падрыхтоўвалася праца па гісторыі літоўска-

беларускага права ў эпоху прыгоннай гаспадаркі. Паасобныя артыкулы ўжо напісаны. Урэшце, падрыхтоўвалася да друку другая частка гісторыі зямляўладаньня і сельскай гаспадаркі на Беларусі. Новая праца будзе даведзена да XVIII стагодзьдзя і будзе скончана да канца бягучага году.

2. На працягу цэлага году займаўся з асьпірантам Сьцяпанавым. За адсутнасьцю памяшканьня ў Інбелкульце, усе гэтыя заняткі вяліся на кватэры ў загадчыка Катэдрай. На працягу году з тав. Сьцяпанавым была вывучана „Русская Правда“ абедзьвюх рэдакцый, а таксама быў распрацаваны шэраг навуковых дакладаў, якія датычыліся да „Русской Правды“, яе сыстэмы і зьместу, а таксама да вывучэньня тых соцыяльных інстытутаў, якія атрымалі юрыдычнае афармленьне ў „Русской Правде“. Вынікам гэтых заняткаў з тав. Сьцяпанавым зьявілася праца апошняга пад назваю „Інстытут закупніцтва ў гістарычнай і гісторыка-юрыдычнай літаратуры“. Гэтая праца была заслухана на агульным пасяджэньні Гістарычнай Клясы 3-га кастрычніка. У спрэчках па гэтым дакладзе прымалі ўдзел сябры Інбелкульту: проф. Ясінскі, проф. Дружчыц, асьпіранты Інстытуту: Кернажыцкі, Таўсталес і Скардзіс.

3. Апроч таго, загадчык Катэдрай У. Пічэта займаўся з асьпірантамі БДУ, з звышштатнымі навуковымі супрацоўнікамі Інбелкульту: т.т. Таўсталес, Забела, Бурдзейка і Кернажыцкім. Таўсталес, Бурдзейка і Забела зрабілі адпаведныя даклады на Радзе Гістарычнай Клясы і атрымалі з боку сяброў Клясы добрую ацэнку.

На Радзе Гісторыка-Соцыяльнай сэкцыі быў зроблены даклад на тэму „Беларусь напярэдадні публікацыі шляхецкіх прывілеяў“. Гэты даклад зьяўляецца артыкулам з працы „Аб фэўдалізьме на Беларусі“.

5. Разам з проф. Дружчыцам У. І. Пічэтай быў распрацаваны плян выданьня колектыўнай працы па гісторыі фэўдалізму і гандлёвага капіталу на Беларусі.

6. У Археолёгічнай сэкцыі У. І. Пічэтай быў прачытаны даклад на тэму „Становішча архіўнай працы ў сучаснай Польшчы“.

На працягу году У. І. Пічэтай былі надрукаваныя наступныя працы:

1. Рэцэнзія на зборнік Пермскага Гісторыка-Філёлёгічнага Таварыства (Печать и Революция, 8, 27).

2. Рэцэнзія на шэраг кніг па гісторыі беларускай экономікі (Печать и Революция, № 8, 27).

3. Рэцэнзія на працу Мялешкі і Шлюбскага па гісторыі сялянскіх рухаў. (Печать и Революция, 1, 28).

4. Новае ў археолёгіі. „Полымя“ № 4. 27.

5. Краязнаўства БДУ „Наш Край“ 10. 27.

6. БДУ напярэдадні Кастрычнікавай рэволюцыі.

7. К вопросу о перенесении усадеб в Московском Губернском Комитете по крестьянскому делу (Сборник в память Рожкова).

8. Да гісторыі вышэйшай школы на Беларусі. „Праца БДУ“ № 18.

9. Белоруссия. Энциклопедический словарь Граната.

10. Сябры. Энциклопедический словарь Граната.

11. Французские дипломаты о внешней торговле Франции с Россией. „Працы БДУ“, № 20.

12. Две культуры на Белоруссии. „Савецкае Будаўніцтва“ 3-4. 28.

13. Из архивной жизни Польши. Архивное Дело. 1. 28.

14. Сераковский. Энциклопедический словарь Граната.

15. Рэцэнзія на зборнік „Інтэрпэляцыя беларускіх паслоў у польскім сойме“. Друкуецца.

16. Черногория. Энциклопедический словарь Граната.

17. Чарноцкий. Там-же.

18. Чарторийский. Там-же.

19. Польска-савецкія адносіны і Рыскі мір. „Полымя“. 1928. № 4-5-6.

20. Склад цяглага насельніцтва на гаспадарскіх землях у Заходняй Беларусі ў 2-ой палове XVI стагодзьдзя. Юбілейны Зборнік у пашану М. Грушэўскага.

21. Да гісторыі організацыі БДУ „Савецкае Будаўніцтва“ № 6.

22. Гістарычны тыдзень у Бэрліне. „Савецкая Беларусь“ № 174.

23. Міжнародны конгрэс у Осло. „Зьвязда“, № 200.

24. Юрыдычнае становішча вясковага насельніцтва на прыватна-ўласьніцкіх землях да часу выданьня Літоўскага Статуту 1529 году. Запіскі Інбелкульту па клясе гісторыі № 2.

25. Аграрные преобразования во второй половине XVI и в начале XVII века на Белоруссии. Даклад на Гістарычным Тыдні ў Бэрліне.

7. Загадчык Катэдры прымаў удзел на Гістарычным Тыдні ў Бэрліне, на якім зрабіў даклад на тэму „Аграрные преобразования во второй половине XVI и в начале XVII века на Белоруссии“. Апроч гэтага быў удзельнікам Гістарычнага конгрэсу ў Осло.

## Археографічая Камісія.

Склад Камісіі: проф. У. І. Пічэта—старшыня і доцэнт Даўгяла З. І.—навуковы сакратар.

Выконваліся наступныя працы паводле зацьверджанага пляну дзейнасьці:

I. Выданьне ў друку тому II „Беларускага Архіву“, прычым Камісіяй праводзіліся ўсе корэктуры, укладаньне паказьнікаў (географічнага, асабовага і прадметнага) і складзена прадмова. Надрукованы актавыя матар'ялы—19 друк. аркушаў. Гэты том прысьвечаны выданьню кнігі № 16 „Запісаў“ з Архіву Літоўскай Мэтрыкі, у якой зьмяшчаюцца справы Віцебскага, а затым Полацкага ваяводы Яна Глябовіча 1530—1539 г. г. Зусім новыя і каштоўныя для вывучэньня гісторыі Беларусі і яе гісторыі ў эпоху 1-га Літоўскага Статуту і Беларуска-Літоўскага Права.

II. Падрыхтованы да друку том III „Беларускага Архіву“ выключна да гісторыі Менску і Меншчыны з актаў архіўнага фонду Літоўскае Мэтрыкі і Менскага Гістарычнага Архіву XVI-XVIII ст. каля 35 друк. аркушоў.

III. Зроблена навуковае апісаньне рукапісаў Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкі (294№№), якое часткай падрыхтавана для друку.

IV. Згодна пастановы Клясы зроблена перапіска матар'ялаў у архівах:

а) Літоўскай Мэтрыкі ў Маскве (1) акты да гісторыі Менску і Меншчыны і 2) актаў каралевы Боны), у Кіеве (Хроніка Літоўская пачатку XVII ст.), у Менску (1) Інвэнтар Бабруйскага староства XVIII ст., 2) Інвэнтар Заслаўскага графства 1753 г. 3) Інвэнтар Лагойскага графства 1793 г.), у Магілеве (1) Перапіска Віленскага Унівэрсытэту з Магілеўскай дырэкцыяй народнае асьветы і Магілеўскай гімназіяй), у Ленінградзе (з Рук. Аддз. Пуб. Бібліотэкі а) Акты Менскага француска-польскага дэпартамэнту 1812 г. і б) Акты XVI-XVII ст. да гісторыі Беларусі).

V. У сувязі з росшукамі гістарычных матар'ялаў і праверкай зробленае перапіскі з орыгіналамі выкананы навуковыя камандыроўкі: а) 19-24 студзеня 1928 г. у Магілеў, б) 10-27 чэрвеня ў Маскву, в) 5-9 жніўня ў Кіеў і г) 12-27 жніўня ў Адэсу. У Магілеве, апрача праверкі перапіскі, адшуканы ў архіўнай базе фонды XVIII стал. некаторых магістратаў баларускіх гарадоў, якія і даручана Магілеўскаму Гістарху ў працягу бліжэйшага летняга сэзону апісаць. У Маскве, апрача працы ў Архіве Літоўскай Мэтрыкі па праверцы перапісак і вылучэньня актаў дзеля чарговае перапіскі, праведзена вывучэньне рукап. Хронографа ў рукап. аддзеле Маскоўскага Гістарычнага Музэю № 790 (б. Сынад. бібліот.), які падрыхтоўваецца Археографічнай Камісіяй да выданьня. У Кіеве вывучаны склад б. Шчорсаўскага Архіву Храптовічаў, які туды трапіў з Меншчыны ў часы апошняе

вайны. Урэшце, у Адэсе вывучаўся рукапісны аддзел б. Унівэрсытэцкай бібліотэкі, і зроблены сьпіс гэтаму скарбу.

VI. У працягу акадэмічнага году Даўгяла зрабіў на пасяджэньнях І істарычнае Клясы даклады:

1) 6-X-27 г. Аб навуковай камандыроўцы ўлетку 1927 г. у Маскву і Кіеў.

2) 7-XII-27 г.

3) 25-I-28 г. Аб старажытных докумэнтах, якія набыты ў ІБК.

4) 10-V-28 г. Гістарычныя зьвесткі аб гарадох Беларусі, якія маюць тую-ж самую назву ў РСФСР або УССР (Барысаў, Рэчыца, Горкі, Гарадок і інш.).

VII. У працягу 1927-28 г. надрукованы працы: 1) Сьвіслацкая воласьць у 1560 г. („Наш Край", 1927 г., № 12); 2) „Стары Менск"—Нарыс з гісторыі замку і эконом. жыцьця меєта („Наш Край", 1928 г., № 1-3); 3) Сьвіслацкае места ў 1560 г. („Наш Край", 1928 г., № 6-7); 4) Заслаўе на Меншчыне—Гістарычны экскурс (Працы Археолёгічнае Катэдры ІБК, № 1); 5) Гістарычна-топографічны нарыс полацкіх умацаваньняў (Працы Гістарычнае Клясы ІБК, т. II); 6) Бібліографія і паказьнікі да т. II прац Гістарычнае Клясы.

VIII. Згодна абраньня Клясы Гісторыі 16-XI-27 г. т. Даўгяла нёс абавязкі сакратара Клясы і таксама працу тэхнічнага рэдактара т. II „Прац Гістарычнае Клясы".

## Катэдра агульнай гісторыі.

У мінулым 1927-28 акад. годзе штат Катэдры быў прадстаўлены загадчыкам Катэдры проф., правадзейным членам, А. Н. Ясінскім.

На працягу году ім вяліся работы па вывучэньні экономічнае гісторыі Чэхіі ў сярэднія сталецьці і пачата вывучэньне крыніц беларускай гісторыі XV-XVI ст.

У зьвязку з гэтым напрамкам заняткаў:

а) былі падрыхтаваны да друку і надрукаваны артыкулы:

1) „Эмфітэўзіс і перамер палеткаў у Сярэднявечнай Чэхіі (надрукавана на рас. мове ў зборніку на пашану Д. М. Пятрушэўскага".

2) Вопыт крытычнага вывучэньня Кніг Данін вял. кн. Казіміра (надрук. на беларускай мове т. II „Прац Гістарычнае Клясы Інбелкульту" і

3) Географічны расклад чэскіх ланаў (перададзена да друку ў працах БДУ).

б) На пасяджэньнях Гістарычнае Клясы ІБК былі прачытаны два даклады, з якіх адзін вышэйвызначаны (п. 2) ужо

надрукаваны, а другі, пад назвай: „Васко Паўлавіч Любіч, пісар вял. кн. Казіміра і яго зямляўладаньне“ падрыхтаваны да друку.

г) Складзены і прадстаўлены паводзе прызначэньня адозвы аб артыкулах:

1-2. П. Багдановіча. „Чырвоная Русь“ і „Угорская Русь“.

3. Археолёга Аніхоўскага адносна раскопкі курганаў каля вёскі „Стары Дзедзін“.

д) Складзены праграмы дзеля заняткаў асьпірантаў Інбелкульту і Унівэрсытэту:

1. па гісторыі сярэднявечных гарадоў;
2. па гісторыі татар;
3. па гісторыі фэўдалізму.

е) Паводле даручэньня Мэтодычнае Камісіі Народнага Камісарыяту Асьветы падрыхтованы да выданьня ў друку артыкул: „Фэўдалізм, яго паходжаньне і фэўдальныя адносіны“.

## Археолёгічная Камісія.

З пачатку 1927-28 акад. году, згодна новаму акадэмічнаму статуту, са складу б. Гістарычна-Археолёгічнай Камісіі была вылучана, як самастойная адзінка, Археолёгічная Камісія Інстутуту Беларускае Культуры (з пачатку 1928-29 акад. году ператворна ў Катэдру Археолёгіі пры Беларускай Акадэміі Навук), пашыраны яе асабовы склад, узмоцнены яе сродкі на раскопкі і досьледы, на выданьне прац, на абсталяваньне габінэту і фотографічнай лябараторыі. Дзякуючы новым умовам, Археолёгічная Камісія пасьля падрыхтоўчага пэрыоду змагла выпусьціць свой асобны зборнік—I том „Працы“, разгарнуць плянавыя раскопкі і досьледы ў розных мясцох БССР у нябывалым дагэтуль разьмеры, а менавіта: абсьледвана каля 50 стаянак, 50 гарадзішч, з якіх грунтоўна раскапана 18, раскапана 132 курганы.

У асабовы склад Камісіі на 1 кастрычніка 1927 г. уваходзілі:

1) Ляўданскі А. М.—навуковы сакратар Камісіі, які за адсутнасьцю старшыні выконваў яго абавязкі, 2) Дубінскі С. А.—навуковы супрацоўнік на акладзе асьпіранта і 3) Палікарповіч К. М.—навуковы супрацоўнік на акладзе асьпіранта.

У працах Камісіі прымалі ўдзел: 1) Даўгяла З. І.—навуковы сакратар Гістарычнае Клясы, 2) Дружчыц В. Д., 3) Пічэта У. І., 4) Сербаў І. А. і дабраахвотныя практыканты—студэнты БДУ Каваленя А. З., Шутаў С. С.

У працягу справаздачнага пэрыоду адбылося 13 пасяджэньняў Камісіі, на якіх заслухоўваліся навуковыя даклады і інформацыі, абмяркоўваліся розныя справы ў сувязі з а) выкананьнем пляну працы, б) выданьнем у друку навуковых прац, в) наладжваньнем сувязі з беларускімі і з саюзнымі ўстановамі і працаўнікамі і з замежнымі інстытуцыямі.

Важнейшымі з навуковых дакладаў былі наступныя:

С. А. Дубінскі. Аршаншчына ў археолёгічным асьвятленьні.

А. М. Ляўданскі. Аршанскае гарадзішча.

З. І. Даўгяла. Нарысы з гісторыі аршанскага замку.

А. М. Ляўданскі. Археолёгічныя помнікі Смаленску да XII ст.

І. А. Сербаў. Раскопкі Нова-Быхаўскага поля пахавальных урнаў.

І. А. Сербаў. Ухлясцкае гарадішча па досьледах 1926-27 г. г.

А. Аніхоўскі. Археолёгічныя досьледы каля в. Ст. Дзедзін, б. Калінінскае акр., у 1926 г.

К. Палікарповіч. Раскопкі палеолітычнай стаянкі каля в. Бердыжа.

А. М. Ляўданскі. Археолёгічныя досьледы на водным шляху Дняпро—Катынь—Каспля.

Экспэдыцыі ў 1928 г. адбыліся ў наступных мясцох:

У Аршанскай акрузе абсьледвана і раскапана 3 гарадзішчы (Ворша, Германы, Чаркасава) і 32 курганы.

У Бабруйскай акрузе ў ваколіцах Рагачэва абсьледвана 5 стаянак, 3 гарадзішчы і раскопан 1 курган.

У Віцебскай акрузе дасьледваны стаянкі пад Віцебскам на р. Зах. Дзьвіне і Лучэсе, гарадзішча ў Віцебску, каля Заронава, раскопана гарадзішча каля Стар. Сяла і 4 курганы.

У Гомельскай акрузе зроблены далейшыя раскопкі палеолітычнай стаянкі каля в. Бердыжа, раскопана 46 кв. мэтраў, сабраны багаты остэолёгічны матар'ял і шэраг крамнёвых прылад, абсьледваны 5 нэолітычных стаянак і 10 гарадзішч у Лоеўскім і Рэчыцкім раёнах, раскопаны стаянкі па Сажы каля Чачэрску і в. Сябровіч. У Чачэрскім раёне раскопана селішча каля в. Сябровіч, 2 гарадзішчы (Чачэрск, Шапатовічы) і 11 курганоў.

У Магілеўскай акрузе абсьледвана каля 30 нэолітычных стаянак на Сажы вышэй Чачэрску да Гайшына і на Бесядзі, дзе раскопана 2 стаянкі (Гайшын, Ст. Каменка), абсьледваны стаянкі на Дняпры ў раёне Ст. Быхава. Рас-

капана гарадзішча ў Магілеве і абсьледваны 5 гарадзішч паміж Магілевам і Ст. Быхавам.

У Менскай акрузе абсьледвана 2 селішчы і 4 гарадзішчы, раскопана 8 гарадзішч (Банцараўшчына, Барысаў, Каменка, Койданава, Лабэншчына, Навасады, Смалявічы) і ў 7 мясцох 48 курганоў.

У Полацкай акрузе абсьледваны стаянкі на р. Ушачы. У Полацку абсьледваны месцы старага гораду („Софія, Запалоцьце, Спас і Бельчыцы"), раскопана 3 гарадзішчы (Полацак, Усьце, Гаравыя) і 37 курганоў.

Навуковая сувязь і абмен выданьнямі. Праз адпаведныя органы Інбелкульту Камісія ўстанавіла сувязь і абмен выданьнямі з археолёгічнымі інстытуцыямі Захаду: Польшчай (Grano Polskie), Літвой, Латвіяй, Фінляндыяй (Музэй у Гельсінфорсе) і з проф. Тальгрэнам.

З інстытуцыямі СССР: Інстытутам Прыкладной Ботанікі і Новых Культур у Ленінградзе (адасланы зёрны з Банцараўскага гарадзішча для спэцыяльнага дасьледваньня), Акадэміяй Гісторыі Матар'яльнай Культуры (высьвятленьне нумізматычных матар'ялаў і археолёгічных пытаньняў), Зоолёгічным Музэем Акадэміі Навук (остэолёгічныя матар'ялы з раскопак), Музэем Ц. П. О. у Маскве, Антраполёгічным Інстытутам імя Анучына пры І-м Маскоўскім Дзяржаўным Унівэрсытэце, Гістарычным Музэем у Маскве, Смаленскім Краёвым Музэем, Рослаўскім Краязняўчым Музэем і інш.

Трэба адзначыць прыезды ў Менск для вывучэньня на месцы сабранага з раскопак археолёгічнага матар'ялу члена Акадэміі Матар'яльнай Культуры проф. А. А. Сьпіцына (у восень 1927 г.) і навуковага супрацоўніка Зоолёгічнага Музэю В. І. Громава.

У выніку працы Громава над остэолёгічным матар'ялам Камісіяй, для азнаямленьня шырокіх колаў грамадзтва былі зроблены публічныя пасяджэньні з дакладамі аб знойдзенай палеолітычнай стаянцы і адчынена трохтыднёвая выстаўка палеолітычнага матар'ялу (6-26 лютага 1928 г.) у галоўнай залі ІБК.

Камісія ўвесь час падтрымлівала шчыльную сувязь з Беларускім Дзяржаўным Музэем, Гомельскім, Віцебскім і Магілеўскім Дзяржаўнымі Музэямі, з краязнаўчымі музэямі БССР, з Цэнтральным Бюро Краязнаўства БССР, а ў часе экспэдыцый—з краязнаўчымі організацыямі на мясцох (Чачэрску, Гомлі, Магілеве, Полацку, Віцебску і інш.). Беларускі Дзяржаўны Музэй, Магілеўскі Музэй і Аршанскае Краязнаўчае Таварыства адпусьцілі нават сродкі на археолёгічныя досьледы і раскопкі.

Бягучая праца Камісіі і яе членаў. Праца складалася, галоўным чынам, з апрацоўкі матар'ялаў да друку, рэгістрацыі помнікаў і пісаньня картак для каталёгу археолёгічнай карты і інш.

Адбыліся 2 навуковыя камандыроўкі—А. М. Ляўданскага ў Маскву і К. М. Палікарповіча—у Кіеў.

Паасобная праца штатных супрацоўнікаў Камісіі. А. М. Ляўданскім —навуковым сакратаром Археолёгічнай Камісі, акрамя штодзённае бягучае працы па Камісіі, у 1927-28 акад. годзе праароблена наступная праца:

1. Падрыхтавана праца да друку „Археолёгічныя раскопкі ў м. Заслаўі і зьмешчана ў т. I „Прац Катэдры Археолёгіі“ (1-96 стр. укл. з 12 плянамі, 36 малюнкамі і 18 таблiцамі).

2. Падрыхтаваны для выданьня пляны і фотографіі з археолёгічных раскопак у 1926-27 г. у Смаленскай губ.

3. Зроблены для выданьня фотографічныя здымкі археолёгічных рэчаў з раскопак К. М. Палікарповіча стаянак па р. Сажу.

4. Зроблены раскопкі ўлетку 1928 г.

а) 82 курганаў: у Заслаўі—3, Койданаве—2, Каменцах і Навасадах, Койданаўскага р.—4, Бердыжы, Іванаўцы, Чачэрскага р.—5, Чаркасаве, Аршанскае акр.—13, Воршы—3, Грaзіўцы пад Воршай—4, Бельчыцах пад Полацкам—5, Рудні, Полацкай акр.—8, Гаравых, Полацкага р.—6, Старым Сяле Віцебскай акр.—4, Зарэччы пад Менскам—13, Барысаве—8, Тачылішчы, Барысаўскага р.—4, 4 гарадзішчы—Барысаве, Воршы, Каменцы і Навасадах, Койданаўскага р.; 2 селішчы—Навасадах і Каменцы, Койданаўскага р. 11 гарадзішч сумесна з С. А. Дубінскім—каля Лабэншчыны, Заслаўскага р., Смалявіч (2), Койданава, Шапатовіч і Чачэрску, Магілева, Полацку, Гаравых пад Полацкам, Віцебску і Ст. Сяла, Віцебскае акр.; 3 селішчы сумесна з С. А. Дубінскім каля Сябровіч,Чачэрскага р. і Полацку. Акрамя гэтага,удзельнічаў у экспэдыцыі па раскопцы палеолітычнай стаянкі каля Бердыжа, Чачэрскага раёну.

5. Зроблены даклады: а) у Гістарычнай Клясе ІБК— „Аршанскае гарадзішча“, б) „Археолёгічныя помнікі Смаленску да XII ст.“, в) „Археолёгічныя досьледы на водным шляху—Дняпро-Катынь-Касцля“, г) у Цэнтральным Бюро Краязнаўства на конфэрэнцыі і Пленуме ЦБК: „Аб увязцы археолёгічнай працы з краязнаўчымі організацыямі“ і „Сувязь Археолёгічнай Камісіі з краязнаўчымі організацыямі“, д) у БДУнівэрсытэце студэнтам „Важнасьць вывучэньня археолёгічных помнікаў і ахова іх“, е) у Камісіі па ахове помнікаў пры Галоўнавуцы БССР—„Задачы аховы помнікаў

археолёгіі“, ж) у Маскоўскай Сэкцыі Акадэміі Гісторыі Матар‘яльнай Культуры „Што зроблена для вывуэньня археолёгічных помнікаў Беларусіі за час існаваньня БССР“ і „Археолёгічныя досьледы ў Смаленскай губ. за 1926, 1928 г.г.“.

С. А. Дубінскім—Навуковым Супрацоўнікам Археолегічнае Камісіі праároблена ў 1927-28 г. наступнае:

1. Распрацоўваўся матар‘ял з раскопак Банцараўскага гарадзішча ў 1927 г.

2. Падрыхтоўваўся матар‘ял да выданьня бібліографіі па археолёгіі Беларусі, які знаходзіцца цяпер у друку. Праца гэта складаецца з шэрагу аддзелаў і ахоплівае звыш 2.700 асобных картак, разьмяркована на 6 друк. аркушох.

3. Зрабіў самастойныя раскопкі ўлетку 1928 г. з гарадзішч: каля Чаркасава, каля Германоў, Аршанскае акр. і каля Банцараўшчыны пад Менскам (3-ці год раскопак), 37 курганоў: 5—у м. Заслаўі, 1—каля Койданава, 4—Рылаўшчыны, 1—Бердыжу, 2—Іванаўкі, 1—Вострава, 8 у Чаркасаве, 2—Грaзіўцы пад Воршай, 3—пад Полацкам, у Бельчыцах, 6—каля Рудні, Полацкае акр., 2—в. Гаравыя пад Полацкам, 2—Зарэччы пад Менскам і сумесна з А. М. Ляўданскім—раскопкі 11 гарадзішч: каля Лабэншчыны, Смалявіч (2), Койданава, Шапатовіч, Чачэрску, Магілева, у Полацку, Гаравых, Віцебску, Старым Сяле; сумесна з К. М. Палікарповічам—селішча ў Вострaве, стаянкі ў Няшыне каля Чачэрску, сумесна з А. М. Ляўданскім—2 селішчы каля Сяброві і ў Полацку; удзельнічаў у экспэдыцыі па раскопцы палеолітычнай стаянкі в. Бердыжа, Гомельскай акр.

4. Зроблены даклад „Аршаншчына ў археолёгічным асьвятленьні“.

5. Надрукавана: а) „Раскопкі Банцараўскага гарадзішча каля Менску ў 1926 г.“ у Гіст.-Арх. Зборніку, стар. 360-363, б) „Дадатковыя раскопкі ў Заслаўі“ у Працах Катэдры Археолёгіі ІБК, т. І, 1928 г., стар. 254-256.

К. М. Палікарповічам—навуковым супрацоўнікам—1927-28 акад. годзе праároблена наступнае:

1. Распрацоўваўся матар‘ял досьледаў 1927 г.

2. Падрхтаваны артыкулы: а) „Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжнага Сажа“ (надрукаваны ў І-м томе „Прац Катэдры Археолёгіі“, 1928 г.) і б) „Досьледы культур каменнага і бронзавага пэрыоду ў паўднёвай і ўсходняй Беларусі“ (рукапіс у архіве Археолёгічнае Камісіі).

3. Працягнуты досьледы дагістарычных культур па сярэднім Сажу. Дасьледвана частка плыні Сажа на працягу 45 клм. паміж г. Чачэрскам і м. Гайшынам. Выяўлена каля 96 месцазнахаджэньняў з рэшткамі керамікі і craменнымі

прыладамі эпохі нэоліту і бронзы, у тым ліку каля 30 азначальных стаянак.

4. Зроблена дасьледваньне левага берагу Дняпра паміж р. Ст. Быхавым і с. Шапчыцамі на працягу 38 клм. і правага берагу каля Ст. Быхава на працягу 3 клм. Вынікі зьявіліся нязначнымі: знойдзена некалькі стаянак (пераважна эпохі бронзы). Выяўлена параўнаўчая беднасьць Дняпра старажытнымі культурамі.

5. Праведзена дасьледваньне выведачнага (рэкогносцыровачнага) характару на Дняпры паміж г. Рэчыцай і в. Цяснамі Лоеўскага р. (82 клм.). Зарэгістравана 4 нэолітычныя стаянкі, да дзесятка гарадзішчаў і некалькі курганных груп. Старэйшых культур ня выяўлена.

6. Прымаў удзел у раскопках Бердыскай палеолітычнай стаянкі з 27-VI—18-VII-1928 г.

7. Рабіў на Сажы раскопкі стаянак каля а) м. Гайшына (вур. Пукаверня, 1 дзень); б) в. Ст. Каменкі, Прапойскага р. (вур. Сасновая Грыва, 1 дзень); в) м. Чачэрску (ур. Няшын, 1 дзень) сумесна з С. А. Дубінскім; г) в. Сябровіч, Чачэрскага р. (вур. Ліпавы Брод, 1 дзень) сумесна з А. З. Каваленяй.

8. Зроблены паездкі для агляду месц знаходак касьцей выкапняў жывёл для выяўленьня магчымай сувязі з палеолітам у: а) саўгас Лошыцу пад Менскам (чэрап аўцабыка); б) в. Пазухі, Горацкага р. (зубы насарога); в) с. Воўчас, Чэрыкаўскага р. (зубы дагістарычнага каня); г) Канічы, Бялыніцкага р. (косьці маманта і інш. чацьвяртычных жывёл); д) с. Лявонцьева, веткаўскага р. (косьці маманта); е) с. Н. Бабовічы, Новазыбкаўскага павету (знаходкі касьцей маманта Г. Э. Гітэрманам у 1927 г.). Знаходкі гэтыя агледжаны ў Новазыбкаўскім Краязнаўчым Музэі.

9. Наведаўся для збору новых матар'ялаў у вядомыя ўжо мэзолітычныя стаянкі ў вур. Латках, Веткаўскага р. і вур. Кароміцы, Рагачэўскага р.; хутар Зыкава, Астрашыцка-Гарадзецкага р. у мэтах праверкі старых зьвестак аб знаходцы тутака каменнай кісты.

10. Зробены даклад „Раскопкі палеолітычнай стаянкі каля в. Бердыжа“.

Праца іншых членаў і супрацоўнікаў Камісіі. І. А. Сербаў у восень 1927 г. абсьледваў нэолітычную стаянку на беразе Шчучэйскага возера б. Парэцкага пав. Смаленшчыны, сабраў каменныя прылады ў Магілеўшчыне на р. Ухлясьці; там-жа зрабіў раскопкі гарадзішча, селішча і 8 курганаў каля в. Дабужа і 6 курганаў каля в. Кульшчычы. Улетку 1928 г. у Вушацкім раёне раскапаў 7 курганаў, сабраў колекцыю каменных прылад, абсьледваў у Дубро-

венскім раёне 10 гарадзішч, раскапаў 1 курган каля хутара Дабрынева на р. Вярхіцы таго-ж раёну.

Ім складзена і падрыхтавана да друку карта знаходак (да 80) касьцей дагістарычных жывёл ледавіковага пэрыоду на БССР, падрыхтаваны да друку артыкулы аб раскопках гарадзішча і курганоў па Ухлясцкім раёне, досьледаў поля пахавальных урнаў каля Н.-Быхава, аб якіх і былі ім зроблены 2 даклады ў Камісіі.

Я. Г. Вяржбіцкі абсьледваў у Амсьціслаўшчыне 7 гарадзішч: у Амсьціслаўі, каля в. Гарадок, Залачова, Гарадзец, Краснае, Навасёлкі, Татарск.

А. З. Каваленяй ў часе студэнцкай экспэдыцыі 1927 г. у Тараўскі раён, сумесна з І. Р. Калодкіным і С. С. Шутавым, абсьледвана 8 стаянак, 3 гарадзішчы, поле пахавальных урнаў (ускрыта 2 пахаваньні і раскопана 3 курганы).

У 1928 г. прымаў удзел у раскопках палеоліту вечнай стаянкі каля Бердыжа і ў раскопках каля Чачэрску, Воршы і Магілева. Па даручэньні Археолёгічнае Камісіі ў раёне Магілеў—Рагачэў на правым беразе Дняпра, абсьледваў шэраг гарадзішчаў (8) і некалькі курганных груп. У ваколіцах Рагачэва дасьледваў 5 стаянак. У ваколіцах Менску дасьледваў 4 гарадзішчы: каля Міханавіч, в. Гарадзішча па Пцічы, каля в. Лысай Гары і каля Астрашыцкага Гарадка.

І. Р. Калодкін у 1927 г. адкрыў звыш 15 стаянак каля Мазыра, сабраў шэраг краменных прылад, а ў 1928 г. зьбіраў кераміку з гарадзішч каля Віцебску; дасьледваў некалькі стаянак на р. Лучосе каля Віцебску і гарадзішча каля в. Гарадзішча, Віцебскай акр.

К. І. Кернажыцкі прадставіў у Камісію свае зборы керамікі і крамнёвых прылад са стаянак на р. Бесядзі ў Калініншчыне. С. С. Шутаў прымаў удзел у раскопках палеолітычнай стаянкі каля Бердыжа ў 1927 г. і 1928 г., зьбіраў кераміку і крамнёвыя прылады ў ваколіцах Новага-Быхава, удзельнічаў у археолёгічных досьледах студэнцкай экспэдыцыі ў Тураўскі раён і ў Лепельшчыну, дзе прымаў удзел у раскопках курганоў і зьбіраньні матар'ялу са стаянак.

І. Х. Юшчанка прымаў удзел у раскопках палеолітычнай стаянкі каля в. Бердыжа ў 1927 і 1928 г. г., абсьледваў некалькі нэолітычных стаянак у Камарынскім раёне, Гомельскай акр., удзельнічаў у раскопках курганоў у аколіцах Бердыжа.

### Катэдра этнографіі.

Катэдра этнографіі організавана ў пачатку 1927-28 акад. году з нахілам падзелу Катэдры на дзьве камісіі:

1) Камісію вывучэньня фольклёру Беларусі і
2) Камісію вывучэньня матар'яльнай культуры Беларусі.

У склад Катэдры ўваходзілі: В. Ластоўскі кіраўнік, сакратар .. Сербаў і супрацоўнікі: А. Шлюбскі і Касьпяровіч.

Праца Катэдры адбывалася ў двух напрамках: зьбіральніцкім і дасьледчым.

Зьбіраньне матар'ялаў праводзілася пры дапамозе мясцовых краязнаўчых організацый і паасобных працаўнікоў, паводле програм і спэцыяльных паказаньняў Катэдры; з гэтымі мэтамі ўложаны програмы: 1) аб зьбіраньні вуснай народнай творчасьці, 2) аб апісаньні „пісанак“ і 3) аб вывучэньні набойкі, якія і былі разасланы.

Організацыя зьбіраньня матар'ялаў ішла ў двух наступных кірунках: зьбіраньнем фольклёрнага матар'ялу кіраваў А. Шлюбскі. Вынікі гэтае працы выражаюцца, паводле прыблізнага падліку, у 14.000 тэкстаў розных відаў народнай творчасьці; зьбіраньне даных матар'яльнай культуры і соцыяльнага быту было ўзложана на І. Сербава. Аднак організаваць сеткі корэспондэнтаў у справаздачным акадэмічным годзе не ўдалося, і зьбіральніцкая праца ў гэтай галіне вылілася ў зьбіраньні матар'ялаў.

Побач з гэтым кіраўнік Катэдры В. Ластоўскі зьбіраў матар'ялы і вёў дасьледчую працу для наступных монографій: „Яда і піта беларуса“ і „Вянок—дзявочы галаўны ўбор“.

Член Катэдры М. Касьпяровіч зьбіраў: 1) матар'ялы для вывучэньня даных аб волатах і валатоўках; з гэтай мэтай ім была зложана спэцыяльная анкета і разаслана ў 10.000 паасобніках; атрыманыя паведамленьні былі праверваны на мясцох. 2) Матар'ялы для апісаньня жаночай вопаткі Магілеўшчыны.

Катэдрай былі організаваны экспэдыцыі, у якіх прынялі ўдзел:

1) В. Ластоўскі—адбыў 2 экспэдыцыі з мэтамі вывучэньня народнага мастацтва і матар'яльнай культуры. Першая экспэдыцы выяжджала па маршруту Слуцак—Асташкавічы (каля Мазыра) і другая экспэдыцыя па маршруту Лепель— Полацак.

Азначаныя экспэдыцыі Інстытуту Беларускае Культуры пад кіраўніцтвам В. Ластоўскага былі аб'яднаны з экспэдыцыямі Дзяржаўнага Музэю, пры ўдзеле мастака-фотографа Гальмаджана. У выніках сабрана 600 экспонатаў з народнага мастацтва і матар'яльнай культуры, сярод якіх ёсьць экзэмпляры зьнікаючых тыпаў беларускай народнай вопраткі; зроблена звыш 400 фотографічных здымкаў, сабраны фольклёрны матар'ял і праведзены энтографічныя нагляданьні.

2) І. Сербаў—з мэтамі вывучэньня матар'яльнай культуры: адбыў экспэдыцыю ў Ушацкі раён Полацкай акругі і другую экспэдыцыю ў Дубровенскі раён Аршанскай акругі.

Першая экспэдыцыя І. Сербава адбылася на сродкі Навуковага Таварыства Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, а другая—на сродкі Цэнтральнага Бюро Краязнаўства. У выніках экспэдыцыі зроблена звыш 400 фотографічных здымкаў і сабраны даныя да матар'яльнай культуры і соцыяльнага быту.

3) А. Шлюбскі—з мэтамі вывучэньня прычын зьнішчэньня фольклёру; адбыў экспэдыцыю па маршруту Слуцак — Таль. У выніках зроблена каля 500 запісаў народных тэкстаў і праведзены шэраг фольклёрных нагляданьняў.

На сходах Катэдры заслухана і абгаворана шэраг навуковых дакладаў, часткай надрукаваных у выданьнях Катэдры. Усе яны пералічаны ніжэй пры разглядзе навуковай дзейнасьці членаў Катэдры. Апрача навуковых дакладаў на 18 пасяджэньнях Катэдры вырашана 56 бягучых пытаньняў.

Дасьледчая праца членаў Катэдры ў справаздачным акадэмічным годзе выявілася ў наступным:

1) В. Ластоўскі надрукаваў:

а) „Прочкі і разлучыны“ ў Працах Катэдры Этнографіі. (Артыкул зачытаны на сходзе Катэдры 14-XII-1927 г.).

б) „Духоўныя вершы 1702 г.“; надр. там-жа.

в) і некалькі артыкулаў у час. „Наш Край“.

Падрыхатоўваў да друку:

а) Альбом беларускага народнага орнамэнту,

б) Альбом беларускіх ткацкіх узораў Віцебшчыны А. Астрэйкі,

в) Альбом беларускіх народных паясоў,

г) Монографію аб беларускім драўляным будаўніцтве,

д) Рэдагаваў зборнік „Працы Катэдры Энтографіі“.

2) І. Сербаў надрукаваў:

„Вічынскія паляне“, мат. культура, ч. I у „Зборніку артыкулаў“, 1928 г.

Падрыхтаваў да друку:

а) Прычоскі і галаўныя ўборы беларускага народу старажытнага часу.

б) Этнографічны нарыс паўночнай часткі Смаленшчыны,

в) Этнографічны нарыс паўночнай Віцебшчыны (зачытаны на сходзе Катэдры 4-IV-1928 г.).

г) Програму для зьбіраньня даных матар'яльнай культуры (зачытана на сходзе Катэдры 15-III-1928 г.).

3) А. Шлюбскі надрукаваў:

а) „Матар'ялы да вывучэньня фольклёру і мовы Віцебшчыны“, ч. I, 1927 г.

б) „Этнографічная дзейнасьць Раманава“. У „Працах Клясы Філёлёгіі“. Том I, 1928 г. (зачытана на сходзе Клясы Філёлёгіі).

в) „Этнографічная дзейнасьць Дабравольскага“ ў „Працах Катэдры Этнографіі“, (зачытана на сходзе Катэд. 11-IV-1928 г.).

г) „Аб беларускай набойцы“, там сама.

д) „Другі год зьбіраньня фольклёрнага матар‘ялу“ ў „Нашым Краі“, 1928 г., № 3.

е) „Адносіны расійскага ўраду да беларускае мовы ў XIX ст.“ (зачытана на сходзе Клясы Філёлёгіі).

ж) „Програма для зьбіраньня помнікаў вуснай народнай творчасьці“ ў „Нашым Краі“, 1928 г., № 4.

з) „Вывучэньне друкаваньня тканіны“ ў „Нашым Краі“, 1927 г., № 8-9.

і) Шэраг рэцэнзій на этнографічныя выданьні ў часопісах „Полымя“, „Наш Край“ і „Працах Катэдры Этнографіі“.

к) Шэраг гістарычных артыкулаў у часопісах „Полымя“ і „Маладняк“.

Падрыхтаваў да друку:

а) Матар‘ялы да вывучэньня фольклёру і мовы Віцебшчыны, ч. II.

Апрача таго, працаваў над зьбіраньнем матар‘ялаў для першай кнігі „Гісторыі беларускае этнографіі“, з гэтымі мэтамі выяжджаў у Ленінград, дзе працаваў паўтара месяца у: 1) Рукапісным Аддзяленьні Акадэміі Навук СССР, 2) Рукапісным Аддзяленьні Рускага Географічнага Таварыства, 3) у Рукапісным і іншых аддзяленьнях Дзяржаўнай Публічнай Бібліотэкі і 4) у картотэцы проф. Вэнгерава Інстытуту Кнігазнаўства.

## Дасьледчы Інстытут для вывучэньня мастацтва.

За 1927-28 акад. год Інстытут Мастацтва складаўся з трох камісій: а) Камісіі гісторыі тэатру, б) Камісіі народнай музыкі і в) Камісіі гісторыі мастацтва. Свае працы Інстытут, апроч Камісіі гісторыі мастацтва, вёў фактычна сіламі свайго штатнага складу, бо спроба дабору пазаштатных дабрахвотных працаўнікоў у Камісіі, на якія падзяляўся Інстытут, не рэалізавалася з-за адсутнасьці ў гэтых галінах працаўнікоў адпаведнае навуковае кваліфікацыі. З гэтай прычыны быў абраны іншы шлях—шлях організацыі таварыства для вывучэньня і пашырэньня „беларускага мастацтва“, як дапаможнае організацыі з тым, каб члены яго тым самым дапамаглі-б сваёю працаю Інстытуту. Аднак канчатковае афармленьне таварыства ў мінулым годзе не праведзена.

Штат Інстытуту складаўся з наступных асоб: дырэктара Інстытуту Я. Дылы (ён-жа старшыня Камісіі гісторыі тэатру), навуковага супрацоўніка Камісіі народнай песьні А. Грыневіча і старшыні Камісіі гісторыі мастацтва М. Шчакаціхіна.

## Камісія гісторыі тэатру.

1) Кіраўніком Камісіі Я. Л. Дылай разглядалася сумесна з М. Красінскім і М. Міцкевічам тэатральная тэрмінолёгія, зложаная М. Паповым і М. Ільінскім (у ліку 1.000 слоў).

2) Вывучалася ў „Библиотеке русской драмы“ (Ленінград) пытаньне адносна цэнзуры беларускіх драматычных твораў. У Архіве былое „Галоўнае Управы па справах друку“ ўдалося вывучыць матр'ял аб 19 беларускіх драматычных творах. Адшуканы орыгінал забароненае царскаю цанзураю драмы ў 3 дз. Мікулы Грымота пад назваю „Блудністі“, на якім дата пісьменьніка „Вільня. 1912 году“. Вывучана драматургічная творчасьць Міколы Янчука (9 яго твораў, з якіх 4 забаронены былі цэнзураю).

3) Вывучаны зборы Дзяржаўнага Тэатральнага Музэю (Ленінград), што да гісторыі беларускага тэатру (каштоўныя матар'ялы, сабраныя перад сусьветнаю вайною ў б. Ігуменскім павеце вядомым расійскім тэатраведам Еўрэінавым).

4) Папаўняліся шляхам дабраахвотных дараваньняў зборы Тэатральнага Музэю Інстытуту Мастацтва.

5) Вывучалася друкаваная літаратура, пераважна на расійскай мове, для адшуканьня ў ёй матар'ялаў да гісторыі беларускага тэатру (прагледжана да 2.000 тамоў, з якіх у 700 тамох (з лішкам) адзначаны розны матар'ял, патрэбны для пастаўленае мэты. Так складзена бібліографія гісторыі беларускага тэатру і

6) Укладаліся два зборнікі:

а) па гісторыі беларускага тэатру,

б) беларуская бэтлейка.

Апрача таго, як дырэктар Інстытуту, Я. Дыла вёў усю работу, якая на ім ляжала, як кіраўніку і прадстаўніку Інстытуту.

## Камісія народнае музыкі.

Праца, якая праароблена за мінулы акад. год, складаецца галоўным чынам з апрацоўкі: 1) Этнографічнага зборніку песень, сабраных у Мазыршыне і 2) зборніка народных песень для школы. Абодвы гэтыя зборнікі заканчваюцца перапіскай на чыста і будуць гатовы да друку к канцу месяца.

Зборнік народных песень для школы (дзьве часткі) хоць не прызначаецца для навуковага выданьня, але рукапіс яго будзе здадзены ў ІБК. У гэтым зборніку зьмешчаны адборныя беларускія песьні з заходняй і ўсходняй частак Беларусі з матар'ялаў Грыневіча, часткай і другіх, а таксама і 40 народных гульняў напалавіну з орыгінальнымі прыпеўкамі. Усё гэта зьяўляецца каштоўным матар'ялам як для школы, так і для композытараў, драматургаў і навуковых дасьледчыкаў.

У бягучым годзе для збору матар'ялаў у галіне беларускай народнай песьні былі наладжаны дзьве экспэдыцыі: адна ў Полаччыну (Грыневіч і Ігнатоўскі), а другая ў Бабруйшчыну (Ягораў А.).

Камісія гісторыі мастацтва.

У справаздачным годзе Кямісія працавала ў паменшаным да 5 асоб складзе: старшыні М. Шакаціхіна і супрацоўнікаў: В. Красьнянскага ў Віцебску, П. Красавіцкага ў Маскве, І. Хозерава ў Смаленску і Г. Ржавускай у Менску.

У цягу году В. Красьнянскі займаўся вывучэньнем старадаўняе беларускае архітэктуры і помнікаў ужытковага мастацтва, на падставе актаў XVI-XVII ст. Г. Ржавуская праводзіла далей распачатую ёй у мінулым годзе працу па вывучэньні Магілеўскае школы малярства ў XVII-XVIII ст. І. Хозераў вывучаў помнікі Смаленскае архітэктуры XII і XVI-XVII ст.

Старшыня Камісіі М. Шчакаціхін як і раней займаўся вывучэньнем гравюр у беларускіх старадруках XVI-XVII ст., падбіраў матар'ялы да другога тому „Нарысаў з гісторыі беларускага мастацтва", вывучаў вадзяныя знакі на паперы беларускіх докумэнтаў і старадрукаў XVI-XVII ст. і складаў проект навуковае тэрмінолёгіі выяўленчага мастацтва. У цягу году ім былі адбыты дзьве навуковыя камандыроўкі ў Ленінград, з якіх адна за кошт ІБК.

Улетку 1928 году Камісія наладзіла экспэдыцыйную выправу да Полацку, у складзе М. Шчакаціхіна і І. Хозерава. Экспэдыцыя дэтальна дасьледвала руіны Барысаглебскага манастыра на Белынцы XI-XII ст., зрабіўшы раскопкі фундамэнтаў, раскрыцьце шэрагу архітэктурных дэталяй і калькаваньне фрэскавых росьпісаў.

За справаздачны год навуковыя зборы Камісіі папоўніліся значным лікам (да 200) фотографічных здымкаў, рысункаў і чарцяжоў з шэрагу помнікаў старога беларускага мастацтва.

Выпушчаны з друку наступныя выданьні Камісіі:

1) М. Шчакаціхін. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва, т. I.

2) Працы Камісіі гісторыі мастацтва, т. I, сшытак I.

### Катэдра гісторыі Літвы.

Склад Катэдры гісторыі Літвы ў 1927-28 акад. годзе быў прадстаўлены загадчыкам Катэдры, правадзейным членам Інбелкульту, С. Ю. Матулайцісам.

Заняткі загадчыка Катэдры былі накіраваны на распрацоўку двух пытаньняў з літоўскай гісторыі ў сувязі з гісторыяй Беларусі:

1) з гісторыі старажытнай—пытаньне аб зьяўленьні на Літве і разьвіцьці, пад уплывам гуманістычных ідэй, рэформацыі.

У працягу справаздачнага часу скарыстаны матар'ял і работы па гэтым пытаньні, падыходзячы да яго з марксыцкім асьвятленьнем, складзены плян і пачата напісаньне працы.

Напісаны разьдзелы:

I. Гандаль і прамысловасьць у Эўропе і Літве XIV-XVI ст., у якім на першым пляне пастаўлены гандаль хлебны.

II. Узаемаадносіны паміж галоўнымі літоўскімі цэнтрамі—Вільня, Коўна з аднаго боку і Данцыгам і Кенігсбэргам—з другога і стан іх прамысловы.

III. Соцыяльны і экономічны стан розных слаёў насельніцтва ў Літве (сялян, шляхты, папоў і інш.) у XVI ст.

2) Другое пытаньне, па якім працаваў загадчык Катэдры,—было ўзята з гісторыі Літвы ў XIX ст. і ў прыватнасьці аб паўстаньні 1863 г. у б. Ковенскай і Сувалскай губ.

Дзеля падрыхтоўкі адпаведнага матар'ялу былі выкананы дзьве навуковыя камандыроўкі: а) у Ленінград і б) у Маскву. У Ленінградзе праведзена праца ў архіве б. III аддзяленьня б. царскай канцэлярыі і ў Публічнай Бібліотэцы імя Леніна (між іншымі тутака былі праштуд'яваны Naude. Getreide handels politik Europeischen staaten Hirsch. Danzig Handel und Geverbe geschichte і інш.). У Маскве праведзены росшукі матар'ялаў у архіве рэволюцыі (б. Мін. Унутраных Спраў), дзе знойдзены значны матар'ял аб рэволюцыйным руху ў 1861-1862 г. і аб ходзе паўстаньня 1863 г. і прычынах масавага захапленьня гэтым рухам сялян-літоўцаў Ковенскай губ.

---

## АДДЗЕЛ ПРЫРОДЫ І ГАСПАДАРКІ.

Аддзел Прыроды і Гаспадаркі яднае ў сабе работу Інстытуту Беларускае Культуры ў галінах прыродазнаўчых навук, тэхнікі і прыкладной экономікі. На працягу 1927-8 году Аддзел складаўся з 14 установаў, якія падзяляліся на 2 клясы—клясу прыроды і клясу народнае гаспадаркі. Па клясе прыроды ў гэтым годзе існавалі наступныя самастойныя ўстановы: 1) Беларускі Геолёгічны Інстытут, 2) Катэдра глебазнаўства, 3) Катэдра ботанікі, 4) Катэдра географіі, 5) Катэдра антрополёгіі, Золёгічны Музэй ІБК, 7) Цэнтральная Хэмічная Лябораторыя ІБК, 8) Лябораторыя экспэрымэнтальнае біолёгіі, 9) Вяліка-Летчанскі Ботанічны Сад і 10) Цэнтральная Фэнолёгічная Камісія. Па клясе народнае гаспадаркі—1) Камісія для вывучэньня прамысловасьці, 2) Камісія хатніх рамёстваў, 3)

Камісія для вывучэньня коопэрацыі і 4) Навуковае Таварыства для вывучэньня Беларусі ў Горы-Горках.

Аддзел Прыроды і Гаспадаркі пачаў існаваць з лета 1928 г., калі Прэзыдыум Інстытуту Беларускае Культуры даручыў яго організацыю свайму члену А. А. Смолічу. К пачатку опэрацыйнага 1927-8 году Аддзел быў сформаваны і пачаў працу. Да часу організацыі Аддзелу ў складзе Інстытуту Беларускае Культуры існавала ў гэтай галіне ведаў некалькі паасобных устаноў, як-та: Прыродазнаўчая Сэкцыя з Зоомузэем і Хэмічнай лябораторыяй, Камісія прыродных вытворчых сіл, Вяліка-Летчанскі Ботанічны Сад, Географічная камісія, Антрополёгічная камісія, Навуковае Т-ва для вывучэньня Беларусі ў Горках, Мэдычная і Сельска-гаспадарчая сэкцыі і Навуковае Бюро па сельска-гаспадарчай дасьледчай справе. Апошнія тры інстытуцыі пры рэорганізацыі Інстытуту адышлі ад яго, а першыя шэсьць ляглі ў аснову Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі. Трэба адзначыць, што ўсе гэтыя ўстановы карысталіся пераважна экспэдыцыйнымі мэтодамі работы, установы-ж стацыянарнага характару або толькі што распачалі працу, як Хэмічная лябораторыя, або знаходзіліся яшчэ ў стадыі організацыі (Зоомузэй) і першапачатковага аднаўленьня (В.-Летчанскі Сад). Найбольш паважную дасьледчую працу організоўвала вакола сябе Камісія прыродных вытворчых сіл, пры якой працавалі экспэдыцыі геолёгічныя, глебавыя, геоботанічныя, геомагнэсавыя, для вывучэньня курортных мясьцін і інш. Але апрацоўка матар'ялаў гэтых экспэдыцый адбывалася амаль ня выключна часовым штатам і ў чужых лябораторыях, што не давала гарантый ні тэрміновасьці, ні дакладнасьці выкананьня. Зразумела, што вінікі ўсяе работы гэтых устаноў не маглі быць значнымі. Стала відавочным, што без організацыі сыстэмы ўласных стацыянарных устаноў з сталым штатам, далейшая работа экспэдыцый Інбелкульту па зьбіраньні матар'ялаў, апрацоўка якіх не забясьпечана, будзе немэтазгоднай. Выходзячы з гэтых меркаваньняў, была распрацавана новая сыстэма сталых устаноў па прыродазнаўчых і прыкладных навуках (інстытутаў, катэдраў і сталых камісій), у якую і былі рэформаваны пералічаныя вышэй даўнейшыя камісіі і сэкцыі Інбелкульту.

Такім чынам, на падставе геолёгічных экспэдыцый Камісіі вытворчых сіл, быў утвораны Беларускі Геолёгічны Інстытут, на падставе глебавых досьледаў—Катэдра глебазнаўства, на падставе геоботанічных дасьледаў і ботанічнае падсэкцыі Прыродазнаўчае Сэкцыі—Катэдра ботанкі, на падставе Географічнае і Антрополёгічнае камісіі—катэдры па адпаведных навуках, Зоомузэй, Хэмічная лябораторыя, Камісія хатніх рамёстваў і новаўтворная Лябораторыя экспэ-

рымэнтальнае біолёгіі, Камісія прамысловасьці і Камісія коопэрацыі—былі зроблены самастойнымі ўстановамі на правох катэдраў. Сама Камісія прыродных вытворчых сіл у сувязі з організацыяй Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі была рэорганізавана на падставе новага статуту.

Усе гэтыя ўстановы, апроч наймалодшай установы—Камісіі коопэрацыі—атрымалі пастаянны штат. З вялікімі труднасьцямі ўдалося для ўсіх гэтых устаноў знайсьці і пэўныя памяшканьні, хаця, на жаль, раскіданыя ў розных канцох гораду. Былі адпушчаны мінімальна патрэбныя сродкі на набыцьцё абсталяваньня, якое папаўнялася на працягу ўсяго году шляхам выпіскі з-за межаў і з цэнтраў Саюзу. Такім чынам, ужо ў пачатку 1927-8 году стала больш ці менш магчымай праца ўва ўсіх новаўтвораных дасьледчых установах, і Аддзел Прыроды і Гаспадаркі пачаў функцыянаваць.

Навуковы штат Аддзелу складаўся з 21 штатнай адзінкі, якімі аплачвалася 28 навуковых працаўнікоў, у тым ліку правадзейных членаў 3, дырэктароў устаноў 6, навуковых спэцыялістых 3, навуковых супрацоўнікаў 12, асьпірантаў 4 і, апроч таго, тэхнічных працаўнікоў 11 (з якіх 7 рабочых Вяліка-Летчанскага Саду). Аддзел атрымаў сродкаў па Дзяржаўным каштарысе ўсяго 143.343 руб., у тым ліку на абсталяваньне 27.500, на аплату працы 46.383, на навуковыя экспэдыцыі 43.100, на навукова-опэрацыйныя выдаткі 5.700, на навуковыя камандыроўкі 1.660, на выдавецтва 18.000 руб.

Недахват навуковых працаўнікоў належнае кваліфікацыі прымушаў Аддзел асаблівую ўвагу зьвярнуць на падрыхтоўку асьпірантаў. Аднак колькасьць іх,—далёка нездавальняючая (4 асьпіранты), толькі ў вельмі малой меры абяцала забясьпечыць патрэбы Аддзелу. Таксама і павольны тэмп абсталяваньня і недахват опэрацыйных сродкаў, асабліва недахват памяшканьня, затрымоўвалі належнае разьвіцьцё Аддзелу.

Кіраўніцтва Аддзелу, згодна Статуту ІБК, зьдзяйсьняла Рада Аддзелу, у якую ўваходзілі прадстаўнікі ўсіх катэдраў і іншых самостойных устаноў Аддзелу. Старшынёй Аддзелу быў прав. член, проф. А. А. Смоліч, намесьнікам старшыні—Дырэктар біолёгічнае лябораторыі П. В. Трамповіч, сакратаром Аддзелу—Я. Я. Кіпель.

Рада Аддзелу на працягу году зьбіралася 33 разы—у кожны чацьвер, апроч летніх месяцаў, калі члены яе знаходзіліся ў экспэдыцыях і ў адпачынку. На гэтых паседжаньнях было разгледжана 151 пытаньне, сярод якіх пераважнае месца займалі пытаньні організацыйнага зьместу—пляны працы ўстаноў і справаздачы аб іх дзейнасьці; віднае месца

займалі таксама і навуковыя даклады, рэцэнзіі аб працах, прызначаных для друку, пытаньні падрыхтоўкі асьпірантаў і г. д.

Прэзыдыум Аддзелу, апроч кіраваньня выдавецтвам аддзелу, фінансавай справай, выпіскай абсталяваньня і інш., выконваў значную плянава-організацыйную працу. На працягу году былі зложаны Адделам пэрспэкцыйныя пляны на 5 год (1928—33 г.), опэрацыйныя пляны на 1927—8 год, каштарысы на 1927—28 і 1928—9 гады, справаздачы за мінулы год і шэраг проектаў, палажэньняў аб паасобных установах Аддзелу. Старшынёй Аддзелу проф. А. А Смолічам быў зроблены 6 красавіка 1928 г. даклад Савету Народных Камісараў аб выніках дасьледчай працы па вывучэньні прыроды і гаспадаркі Беларусі; судаклад аб выніках працы Геолёгічнага Інстытуту зрабіў дырэктар яго проф. М. Т. Блюдухо. Па гэтым дакладзе Саветам Народных Камісараў быў вынесены шэраг прынцыповых пастаноў, якія датычаць паляпшэньня ўмоў працы установў Аддзелу, разгортваньня іх працы, забясьпечаньня іх навуковым пэрсоналам, абсталяваньнем і сродкамі. Пастановы гэтыя, зьяўляючыся пераломным момантам у жыцьці Аддзелу, пачалі рэалізавацца фактычна ўжо ў 1928—29 годзе.

Вялікія задачы, якія стаяць перад Аддзелам, могуць быць зьдзейсьнены пры наяўнасьці пэўных умоў, стварыць якія на працягу году амаль немагчыма. Затым у першым годзе існаваньня Аддзелу, калі організацыйныя пытаньні адыймалі шмат увагі як у Кіраўніцтва Аддзелу, так і ў працаўнікоў паасобных установў і калі ўмовы працы ўсё яшчэ былі далёка неадпаведнымі тым вымаганьням, якія ставяць ім дакладныя навукі,—навукова-дасьледчая праца установў Аддзелу не магла быць асабліва багатай на вынікі. Тым ня менш у справаздачным годзе падрыхтаваны да друку, адрэдагаваны і здадзены ў набор тры тамы прац Аддзелу, з якіх друкаваньне двох закончана. Выданьні Аддзелу наогул падзяляюцца на спэцыяльныя сэрыі—як-та: „Матар'ялы да геолёгічнага і глебазнаўчага вывучэньня Беларусі", „Матар'ялы да вывучэньня флёры і фаўны Беларусі", Матар'ялы да географіі і статыстыкі Беларусі". У гэтых сэрыях друкуюцца вынікі значнейшых дасьледчых прац і паасобныя монографіі. Для публікаваньня рэшты прац Аддзелу, асьвятленьня мэтодычных пытаньняў і бягучай працы выдаюцца „Запіскі Аддзелу". У 1927—28 годзе надрукованы I том „Запісак" і II т. „Матар'ялаў да вывучэньня флёры і фаўны", а I том „Матар'ялаў да географіі і статыстыкі" надрукаваны напалавіну. Апроч таго, 6 прац Катэдры антрополёгіі зьмешчаны ў агульным зборніку Інбелкульту.

---

## БЕЛАРУСКІ ГЕОЛЁГІЧНЫ ІНСТЫТУТ.

Паводле пастановы СНК БССР з 1 кастрычніка 1927 г. быў адчынены пры Інстытуце Беларускае Культуры Геолёгічны Інстытут у складзе аднэй сэкцыі рэгіянальнае геолёгіі. Да організацыі другое сэкцыі—прыкладной геолёгіі прыступлена ўжо толькі ў 1928 г. На падставе асобнага палажэньня, зацьверджанага Прэзыдыумам ІБК, была разгорнута даволі шырокая праца ня толькі па організацыі Геолёгічнага Інстытуту, яго паасобных лябораторый і габінэтаў і набыцьці неабходнага абсталяваньня, але таксама і па вывучэньні геолёгічнае будовы тэрыторыі Беларусі і яе карысных выкапняў.

Дырэктарам Інстытуту быў М. Т. Блюдухо. Праца вялася пераважна з дапамогаю часовых пазаштатных супрацоўнікаў.

З пачатку году да вывучэньня адкладаў, якія былі дасьледваны III горна-дасьледчай партыяй ВСНГБ, былі накіраваны супрацоўнікі Геолёгічнага Інстытуту ў Клімавічы з мэтай вывучэньня адкладаў у гаі каля гораду, а затым работы іх былі перанесены ў ваколіцы гораду Амсьціслаўлю, у раёны вёскі Парадзіна і ўрочышча „Скала“ каля вёскі Гразь; ва ўсіх гэтых раёнах галоўным чынам вывучаліся фасфарыты, пяскі, флёрыдынёвыя гліны, адклады якіх былі часткай вядомы раней, часткай былі вызначаны работамі проф. М. Т. Блюдухо ў мінулыя гады. Узімку праводзілася камэральная апрацоўка часткі гэтых матар'ялаў. Атрымаць канчатковыя вынікі досьледаў не зьявілася магчымым, бо палёвая праца яшчэ ня скончана і зацягнулася да сучаснага моманту.

Раўналежна з гэтым узімку праводзілася апрацоўка палёвых геолёгічных матар'ялаў, якія былі сабраны проф. М. Т. Блюдухо ў 1924—26 г. г. на Магілеўшчыне, прычым было праведзена папярэдняе дасьледваньне радыоактыўнасьці некаторых старажытных адкладаў проф. Е. Е. Сіроціным. Праца па вывучэньні розных адкладаў, якія на Беларусі магчыма было-б скарыстаць, як мінэральныя ўгнаеньні, праводзілася на працягу году так, як і раней; галоўным чынам-жа вывучаліся адклады: фосфарытаў, К-трымаючых парод і розных вапнякоў. Матар'ялы для вывучэньня сапрапэляў, земнага апалу і наогул кажучы органічных масаў, якія сустракаюцца ў нетрах зямлі на тэрыторыі Беларусі, сыстэматызаваліся і часткай толькі падрыхтоўваліся да апрацоўкі ў будучым; праведзена было толькі проф. А. С. Шчапоцьцевым вывучэньне сучаснага плянктону некаторых вада-

ёмаў у розных акругах з мэтамі падыходу да вывучэньня палеопляпктону.

На падставе набытых вынікаў апрацоўкі палёвых матар'ялаў, а таксама паводле літаратурных крыніц была складзена проф. М. Т. Блюдухо першая схэматычная геолёгічная мапа Беларусі ў этнографічных межах маштабам 10-вёрст у цалі.

Мапа карысных выкапняў БССР, зложаная ў папярэднія гады, была папоўнена тымі новымі матар'яламі, якія былі набыты за апошні год.

Прымаючы пад увагу, што геолёгічныя досьледы на Беларусі праводзяцца ў сучасны момант living рознымі навуковымі і дзяржаўнымі ўстановамі, плян палёвай геолёгічнай працы Інстытуту быў складзены так, каб скарыстаць усе гэтыя працы і набываць патрэбныя матар'ялы да вывучэньня тэктонікі і стратыграфіі тэрыторыі Рэспублікі.

У 1927-8 годзе былі праведзены наступныя палёвыя досьледы: проф. М. Т. Блюдухо вывучаліся сэрыі адкладаў фасфарытаў у ваколіцах вёскі Гразь па-за межамі Рэспублікі (у Смаленскай губ.) з мэтамі ўяўленьня характару гэтых адкладаў і іх пашырэньня ў бок тэрыторыі БССР. Затым былі вывучаны вадазборы р. Асьлейкі і Вехры і знойзены першапачатковыя адклады фосфарытаў у гэтых раёнах; вывучана частка вадазбору р. Сажа, раён вёскі Парадзіна і частка вадазбору р. Астра ад мяжы БССР і вёскі Іванаўшычна да вёскі Каралішкі, ніжэй якой вадазбор Астра вывучаўся яшчэ ў 1926 г.

Асьпірант Інстытуту П. А. Валковіч правёў досьледы вадазбору р. Белае і Чорнае Натоп. У паўднёвай частцы Полацкае акругі досьледы праводзіў супрацоўнік Інстытуту А. Я. Сьцепаненка, захапіўшы прасторы ўздоўж чыгункі Ворша-Лепель, па р. Вуле і ў ваколіцах Вушачу, дзе выходзяць мінэральныя крыніцы.

На поўначы БССР у межах Полаччыны праводзілі досьледы супрацоўнікі Інстытуту П. Н. Майсейчык па рэчках Дрысе і Палаце і ў ваколіцах шклянога заводу і станцыі Дрэтунь, а асыстэнт Беларускае Сельска-Гаспадарчае Акадэміі па Катэдры геолёгіі М. Е. Кавалёў вывучаў абгаленьні на р. Заходняй Дзьвіне па абодвых яе берагох у Полацкай акрузе.

Вывучэньне пляпктону стаячых вадаёмаў у сучасным годзе праводзіў проф. А. С. Шчапоцьцеў у ваколіцах Асінбуду (Аршанчына) і на поўначы Полаччыны ў некалькіх групах вазёр.

Супрацоўнік Інстытуту асьпірант Катэдры геолёгіі БДУ С. С. Малярэвіч зьбіраў матар'ялы ў раёне галоўнага вуча-

стку чыгункі „Росмосдор“ ад Асіпавіч да Магілева і дасьледваў сумежныя часткі вадазбору р. р. Бярозы, Друці і правага ўзьбярэжжа ракі Дняпра. Матар'ялы да вывучэньня адкладаў даліны р. Сажа пры кесонных работах на гэтай рэчцы каля вёскі Варанёва зьбіраў супрацоўнік Інстытуту У. Н. Кавалёў.

Паколькі на працягу году рознымі дзяржаўнымі ўстановамі былі праведзены глыбокія сьвідравальныя шчыліны, якія зьяўляюцца ва ўмовах Беларусі абсолютна неабходнымі да вывучэньня тэктонікі і гідролёгіі тэрыторыі, Інстытут выдзеліў некалькі супрацоўнікаў, якія зьбіралі неабходныя матар'ялы непасрэдна пры паглыбленьні шчылін.

Каштоўныя матар'ялы былі атрыманы ў гэтым напрамку ад Водбюро НКЗему БССР, з якім устаноўлены належны контакт у далейшай працы.

Таксама былі атрыманы матар'ялы ад Водбюро ВСНГ СССР па шчылінах у Менску і яго ваколіцах.

## Катэдра глебазнаўства.

У склад Катэдры за справаздачны год уваходзілі наступныя асобы: 1) загадчык Катэдры проф. Афанасьеў Я. М., 2) Вучоны спэцыялісты—Рагавы П. П., 3) Асьпірант Кучынскі П. А. і шэраг часовых супрацоўнікаў.

Як і ў мінулыя гады дзейнасьць Катэдры складался з трох асноўных момантаў: 1) апрацоўкі глебавых матар'ялаў, сабраных у мінулыя сэзоны, 2) новых экспэдыцыйных дасьледаў і 3) дасьледчых прац на спэцыяльныя тэмы:

Акрамя гэтага, згодна пэрспэкцыйнага пляну, у мінулым 1927-28 годзе, Катэдрай распачата новага тыпу праца: 4) па вывучэньні вытворчых сіл асноўных глебавых тыпаў Беларусі лізомэтрычным і вэгетацыйным мэтодам і адначасова вывучэньне дынамікі гэтых глеб.

Конкрэтна праца праводзілася наступным парадкам:

1. Апрацоўка глебавых матар'ялаў. 1. Прагляд і сыстэматызацыя глебавых проб Мазырскае акругі (П. Рагавым і часткова Я. Афанасьевым).

2. Складаньне папярэдняе глебавае карты 3-хвёрснага маштабу Мазырскае акругі (П. Рагавым пад рэд. Я. Афанасьева).

3. Аналітычная апрацоўка глеб Аршанскае, Менскае, Барысаўскае і Мазырскае акруг (сэзоннымі і часовымі працаўнікамі: Шавялёвым, Міхайлавым, Паўлавым, Рэзанавым, Іскровым, Яноўскім, Лахтуравай, Чарнышэвіч, Янушэвічам, Каратковым, Івановым і Ліцягай пад бліжэйшым кіраўніц-

твам і ўдзелам Кучынскага, а за час трохмесячнай замежнай камандыроўкі Кучынскага Шавялёвым, пад агульным кіраўніцтвам Я. Афанасьева).

4) Камэральныя работы па падрыхтоўцы канчатковых нарысаў і карт па Аршанскай акрузе (Я. Афанасьевым), па Менскай акрузе (П. Рагавым) і па Барысаўскай акрузе (П. Кучынскім).

II. Экспэдыцыйныя досьледы. Дасьледваны астатнія $^3/_4$ б. Слуцкае акругі (у старых межах) і заходняя частка Бабруйскае акругі да ракі Бярэзіны. Дасьледваньне Слуцкай акругі зроблена П. Рагавым з часовымі супрацоўнікамі: Капусьціным, Кавальчуком і Мяцельскім. Дасьледваньні ў Бабруйскай акрузе зроблены Медзьвядзёвым з часовымі супрацоўнікамі: Булгакавым, Дзергачовым і Парахневічам.

Усе палявыя дасьледваньні па Слуцкай і Бабруйскай акругах выкананы пад агульным кіраўніцтвам Я. Афанасьева.

6. Дадаткова дасьледвана Аршанская акруга (Я. Афанасьеў), Медзьвядзёў і мастак Кадрэвіч).

7. Дадаткова дасьледвана Менская акруга (П. Рагавы і часткова Я. Афанасьеў).

III. Дасьледчыя работы на спэцыяльныя тэмы: 8. Вывучэньне кісьліннасьці глеб (pH) у прыродных абставінах у розных тыпаў глеб Беларусі і ў лябараторных абставінах у сувязі са зьменай вільготнасьці, тэмпэратуры і працяжнасьці захаваньня (П. Кучынскі і Я. Афанасьеў).

9. Карта кісьліннасьці (pH) глеб Стэбутаўскага дасьледчага поля (Я. Афанасьеў, П. Кучынскій, П. Рагавы, Медзьвядзёў, Пашын).

10. Нагляданьні над дынамікай закіснага жалеза ў падзолаў, тарфяна-падзолістых і тарфяна-балотных глеб Беларусі (Я. Афанасьеў, Яноўскі).

11. Вывучэньне пытаньня аб утварэньні ортштэйнаў і ортзандаў у падзолістых глеб, падзолаў, тарфяна-падзолістых на тэрыторыі балотна-пяшчаных субстратаў (Я. Афанасьеў, Медзьвядзёў).

12. Буфэрныя ўласьцівасьці глеб (П. Кучынскі).

13. Сучасны стан хэмічнай апрацоўкі глеб (тэорыя і мэтодыка дасьледваньняў—у ўмовах замежнай камандыроўкі (П. Кучынскі).

14. Глебавыя дасьледваньні саўгасаў Сьлепня і Сьляпянка, складаньне глебавай карты і карты Кісьліннасьці (pH) (П. Рагавы).

15. Экскурсыйная навуковая паездка для азнаямленьня з ледавіком гары Казбеку, з глебамі Каўказу і Туркестану (П. Рагавы).

IV. Вывучэньне вытворчасьці тыповых глеб Аршанскае акругі, — лізімэтрычным і вэгетацыйным мэтодамі. 16. Дасьледваны 12 асноўных тыпаў глеб Аршанскае акругі, якія былі ўзяты з непарушаным складам і структурай з-пад лесу ў лізімэтры да 70 см. глыбінёй і на якіх быў пасеяны авёс (Досьлед пастаўлены Медзьвядзёвым пры сталым супрацоўніцтве Рэзанава пад агульным кіраўніцтвам Я. Афанасьева).

Апроч усяго гэтага, Катэдра прымала актыўны ўдзел у організацыях і нарадах па скліканьні Міжнароднага Глебавага Конгрэсу ў СССР у 1930 г. Я. Афанасьеў увайшоў у склад Цэнтральнай Організацыйнай Камісіі для скліканьня Конгрэсу.

## Катэдра батанікі.

З пачатку восені 1927 году праводзілася організацыйная праца Катэдры, высьвятляліся мажлівасьці далейшае працы, якая падзялілася на два напрамкі: падрыхтоўка матар'ялу для абсталяваньня самой Катэдры, батанічнага габінэту і разам навуковая і тэхнічная апрацоўка ўсіх матар'ялаў, якія ўжо былі пры Катэдры і габінэце. У працягу гэтае працы была ўтворана зноў Батанічная камісія з некалькіх былых сяброў батанічнай падсэкцыі ІБК і маладых беларускіх батанікаў, як з тэорытычным, таксама і з прыкладным ухілам. Другі напрамак: праца Катэдры ў дасьледчай галіне; менавіта заканчвалася праца і ўпарадкоўваліся даныя па складаньні агульнай гео-батанічнай мапы, для чаго запрашаліся працаўнікі з Ленінграду, якія рабілі гэтую працу, заслухоўваліся іх даклады і інформацыі, пад кіраўніцтвам Аддзелу гэтая праца была скончана.

Некаторыя паасобныя досьледы, якія рабілі супрацоўнікі Батанічнай камісіі: Сырых Т. М., Савіч Н. М., Рыжкоў В. Л., Прахін М. І., Палянская В. С., Новікаў А. Л., Міхайлоўская В. А., Зьверава В. А., Зьбіткоўскі М. А., проф. Гайдукоў разам з В. Д. Акімавай і У. У. Адамаў, датыкаліся пераважна агульнага вывучэньня флёры Беларусі, збору матар'ялу і навуковых даных і апроч таго базаваліся на досьледах адпаведна паасобным спэцыяльнасьцям гэтых супрацоўнікаў. Так У. У. Адамаў, апроч агульнага вывучэньня флёры займаўся гео-батанічнымі дасьледваньнямі, флёрыстычнымі назіраньнямі і дэндролёгічным вывучэньнем экзотычных дрэў, а разам з тым некаторымі біолё-

гічнымі досьледамі з альбінуючымі (стракаталісьцевымі) расьлінамі, якія ім праводзяцца ў сувязі з Ботонічным Аддзелам Балотнай Станцыі (Дасьледчага Інстытуту). У апошняй працы прымалі ўдзел асьпірант Інстытуту А. А. Поллан і прыехаўшы спэцыяльна для таго з Харкаву проф. В. Л. Рыжкоў. В. Д. Акімава, пад агульным кіраўніцтвам проф. Гайдукова з групай студэнтаў Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, займалася вывучэньнем і дасьледваньнем мікрафлёры р. Сьвіслачы. У студзені месяцы 1928 году Катэдра ў поўным сваім складзе прысутнічала на III Усесаюзным Зьезьдзе ботанікаў і прымала ўдзел у працах Зьезду ў якасьці сяброў. Некаторымі сябрамі Ботанічнае камісіі Катэдры былі прадстаўлены і прачытаны даклады, менавіта: проф. Гайдуковым на пленарных пасяджэньнях (3 дакл.), проф. Рыжковым (3 дакл.), Полланам А. А. (Сэкцыя Прыклад. ботанікі), Сусскім Е. П. (Сэкц. фізіол.), Балкавец Л. М. і г. д.

Апроч таго, Катэдрай праводзілася організацыйная праца ў Вяліка-Летчанскім Ботанічным Садзе. Аддзелам быў абвешчаны конкурс на пасаду намесьніка дырэктара гэтага саду; ім быў выбраны Чацьвярыкоў, які знаёміўся з працай і атрымаў належныя інструкцыі.

У Вяліка-Летчанскі Ботанічны Сад быў запрошаны проф. Рыжкоў, які перад тым зрабіў у Радзе Аддзелу даклад аб зьмесьце сваёй працы, практычным і тэорытычным значэньні альбінуючых расьлін і апошніх дасягненьнях у гэтым напрамку ў сусьветнай навуцы. У працягу двух месяцаў проф. Рыжкоў працаваў у Вяліка-Летчанскім Ботанічным Садзе і ў сучасны момант падрыхтоўвае вынікі сваіх назіраньняў, якія будуць прадстаўлены ў Інбелкульт. Ім складзены даклад аб працы і напісаны артыкулы для Віцебскіх газэт, а таксама і ў цэнтральную прэсу Саюзу.

Сярод дасьледчых прац займаюць галоўнае месца экспэдыцыйныя досьледы па геоботанічным і флёрыстычным вывучэньні ваколіц Менску, якія мелі яшчэ і пабочныя мэты: 1) Прадставіць дакладны нарыс флёры, які мог-бы быць дапамогай для школьных і краязнаўчых экскурсій у бліжэйшых ваколіцах Менску. 2) Высьветліць пытаньне аб месцы для Беларускага Цэнтральнага Ботанічнага Саду. 3) Вывучаць паркавыя дрэўныя пароды для высьвятленьня пытаньня аб магчымасьці натуралізацыі экзотычных дрэў.

Гэтыя дэталёвыя дасьледваньні ахапілі паўночны сэктар ваколіц Менску прыблізна на 15—20 клм. на поўнач ад г. Менску. Таксама за час працы экспэдыцыя зрабіла маршрут і ў паўднёвы сэктар—у плямгас імя Калініна (парк Ігнацічы), дзе вельмі падрабязгова быў дасьледваны парк, вельмі цікавы па сваім featured рознастайным складзе чужаземных

дрэўных парод і хмызьнякоў. У складзе экспэдыцыі былі наступныя асобы: на чале загадч. Катэдры Ў. У. Адамаў і разам з ім асыстэнт Горацкай Акадэміі А. Л. Новікаў—батанік-лесазнаўца, глебавед Т. М. Сырых, асьпірант Катэдры В. Міхайлоўская і два тэхнічныя працаўнікі. За тэрмін працы экспэдыцыяй былі дасьледваны наступныя пункты:

У паўночным сэктары: 1) Фольв. Казіміраўка,
2) В. Сямкова,
3) Саўг. Банцараўшчына,
4) Саўг. В. Сьляпянка,
5) Саўг. Дараўкі.
6) Ф. Цна.

У паўднёвым сэктары 7) Плямгас імя Калініна (Ігнацічы).

Такім чынам, плян працы Катэдры быў цалкам выкананы, за выключэньнем працы па каталёгізацыі флёры, якая меркавалася Катэдрай і была даручана часткова М. А. Зьбіткоўскаму; гэтая праца праводзіцца ў сучаны момант, але ў большым памеры, пад назваю „Агульнага конспэкту Беларускае флёры“ па прыкладу вядомай вялікай працы Ліпскага аб флёры Каўказу. Гэтай працай кіраваў проф. М. М. Гайдукоў.

## Зоолёгічны музэй ІБК.

Пачаткам заснаваньня Зоолёгічнага Музэю трэба лічыць 1 красавіка 1927 году, але афіцыйнае адчыненьне выставачнага аддзелу З. М. было прыстасавана да 10-годзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі 7-XI-1927 году.

Штат Музэю ў справаздачным годзе складаўся з наступных супрацоўнікаў: проф. А. У. Фядзюшына—дырэктара, М. У. Дабратворскага—навуковага супрацоўніка і тэхнічных супрацоўнікаў: чучальніка і прыбіральшчыцы. Апроч таго ў працы прымалі ўдзел няштатныя супрацоўнікі І. Т. Аўчыньнікаў, С. Нэрышаў і Н. Вінафобава.

І. Навуковая праца музэю за пэрыод 1927-1928 ак. г. Проф. А. У. Фядзюшын працягваў вывучэньне фаўны хрыбетных БССР і ў першую чаргу орнітофаўны і фаўны сысуноў.

Вывучэньне апошніх толькі пачалося.

За мінулы акадэмічны год было выканана некалькі прац на розныя тэмы. Напісаны і надрукаваны наступныя артукулы: 1) Да біолёгіі і распаўсюджанасьці бабра ў БССР—Матар‘ялы да вывучэньня фаўны і флёры т. II, 1928 г. 2) Справаздача аб экспэдыцыі для вывучэньня фаўны ўсх. часткі БССР улетку 1925 г.—Матар‘ялы да вывучэньня флёры і фаўны БССР т. II. 3) Справаздача аб фаўністычных дась-

ледваньнях на р. Прыпяці і воз. Князь улетку 1926 г. „Матар'ялы" т. II, 1928. 4) Увагі аб летняй орнітофаўне воз. Князь—Запіскі Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі т. I. 5) Материалы к изучению птиц восточной Белоруссии. Працы Бел. Дзярж. У-ту 1928, № 17-18. 6) Динамика и географическое распространение охотничьей фаўны (резюме доклада). 7) Охотничья фауна Белоруссии (здана ў друк)—(6 печат. лист., 14 карт и 15 диограмм). 8) Паляўніцтва і ахова прыроды ў БССР „Плуг" № 12 (стар. 21—28) сьнежань 1927. 9) Нарыс фаўны Асіпавіцкага раёну—Асіпавіцкі раён в. I, 1928. 10) Конспект лекций по фауне Белоруссии, Выд. Акадэм. сэкцыі Прафкому БДУ. 11) Рецензия на книгу С. А. Бутурлина: „Дневные хищные птицы СССР, их виды и подвиды etc" 1928. Паляўнічы Беларусі.

Падрыхтованы да друку: О географических расах Parus atricapillus (L) с точки зрения климатического ортогенеза (карта и ряд рисунков).

М. У. Дабратворскі працуе па вывучэньні фаўны Hymenoptera. За 1927-28 г. апрацаваў Psithyridae Беларусі. Сабраў матар'ялы па энтомафаўне Гомельшчыны, апрацаваны шэраг груп Hymenoptera (aculeata) Беларусі. У працягу лета праводзіліся працы па вывучэньні запылкавальнікаў чырвонай канюшыны і вывучалася біолёгія чмялёў а таксама некаторых вос і пчол.

Надрукаваў наступныя працы: 1) Матар'ялы да пазнаньня фаўны чмялёў Беларусі—Матар'ялы да вывуч. фаўны і флёры Беларусі т. II. 1928. 2) Чмялі-зязюлі „Наш Край" № 4, 1928 г. 3) Матар'ялы да вывучэньня сельска-гаспадарчага значэньня чмялёў—Працы Станцыі барацьбы са шкоднікамі пры Нав. Дасьл. Ін-це Сел. і Лясн. Гасп. імя У. І. Леніна т. III, 1927. 4) Нашы чмялі (з табліцамі для азначэньня, здадзена ў рэд. „Наш Край").

II. Навуковыя працы няштатных супрацоўнікаў Зоомузэю. С. Кірыкаў зьбіраў і вывучаў фаўну птушак Мазырскага Палесься. Надрукаваў працу: Ardeola ralloides Scop. у Смаленскай губ. „Матар'ялы да вывуч. флёры і фаўны Беларусі" т. II. 1928. Падрыхтаваў да друку: Справаздачу аб паездцы ў Мазырскае Палесьсе.

Н. Вінаградава праводзіла зборы сысуноў і гадаў у межах Гомельскай акругі. Прадставіла справаздачу аб паездцы.

І. Аўчыньнікаў зьбіраў і вывучаў мяккуноў БССР. Надрукаваў: 1) Прэснаводныя малюскі Асіпавіцкага раёну—Асіпавіцкі раён, в. I, Прырода 1928. 2) Матар'ялы да па-

знаньня малякофаўны Мазырскай акр.—Матар'ялы да вывучэньня флёры і фаўны т. II.

III. Навуковыя командыроўкі: А. У. Фядзюшын прымаў удзел у працах 3-га Ўсерасійскага Зьезду Зоолёгаў у Ленінградзе з 17 да 21 сьнежня 1927 г. З 5 да 12 чэрвеня быў камандыраваны ў межы Мазырскай акругі з мэтай вывучэньня пашырэньня дрохвы і паляніка (Otistarda, Oedicnemus oedicnemus). М. У. Дабратворскі—быў камандыраваны ў Зоолёгічны Музэй Акадэміі Навук СССР для апрацоўкі некаторых сямейств Hymenoptera, а таксама прымаў удзел у 3-м Усерасійскім Зьезьдзе Зоолёгаў з 17 да 24 сьнежня. З 29 да 6/IV быў камандыраваны ў Ленінградзкі Ін-т Дасьледнай Аграноміі для ўзгадненьня плянаў прац па вывучэньні запылкавальнікаў чырвонай канюшыны і біолёгіі чмялёў. З 4 да 17 чэрвеня быў камандыраваны ў межы Гомельскай акругі з мэтай вывучэньня энтомофаўны.

Няштат. супрац. І. Аўчыньнікаў прымаў удзел у паездцы з проф. А. Фядзюшыным у Мазырскую акругу ў якасьці колектара.

Няшт. супр. С. Кірыкаў знаходзіўся ў камандыроўцы з 25 сакавіка да 10 чэрвеня ў Петрыкаўскім раёне Мазырскай акругі.

Няшт. супрац. Н. Вінаградава знаходзілася ў камандыроўцы ў Гомельскай акрузе (Веткаўскі р.) з 6 да 30 жніўня.

IV. Папаўненьне Зоомузэю. А) Сабрана ў часе экспэдыцый: а) А. Фядзюшыным: Скура дзіка, чучалы драпы, пеганкі і турпана (набыта ў Мазырск. саюзе Паляўнічых), б) С. Кірыкавым сабрана скурак птушак 265, сысуноў 2 шт. гадаў 12 шт., амфібій 8 шт., пухаедаў 24 спробаўкі, глістоў 4 спр., в) паступіла ад М. У. Дабратворскага 2000 шасьціножак, сабраных у Гомельшчыне, г) Паступіла ад Н. Вінаградавай: 108 сысуноў, 20 гадаў, жаб і рапух.

Б) Сабрана колектарам В. Сьлесарэвічам па даручэньні Зоолёгічнага Музэю ў вак. Прылук Менскай акр. сысуноў 220 шт.

В) Набыта шляхам пакупкі ад розных асоб і ўстаноў: сысуноў 52 экзэмп., птушак 28 экз.

Г) Атрымана ў выглядзе падарунку ад: 1) Віцебскага Саюзу Паляўнічых: 2 скуркі белкі-ляцягі (Sciuropterus), 2) Ленінградзкага Эрмітажа—чучала зубра, 3) Бел. Дзярж. Музэю: 2 чучалы мядзьведзя, 3 галавы дзікаў, 1 галава лася, 3 пары рагоў, 4) ад Цэнтральн. Праўл. Саюзу паляўнічых 5 птушак, 5) Полацкага Саюзу Паляўнічых 1 скурка птушкі,

6) гр. Сокалава 1 птушка, 7) гр. Алісевіча 30 скурак птушак і 5 жывых птушак, 8) гр. Сяржаніна 1 птушка дразда арэхавіка і гнёзды з кладкамі, 9) К. Дабратворскай—каля $2^1/_2$ тысяч шасьціножак, 10) А. Фядзюшына: каля 400 шасьціножак, сысуноў 8 шт., 1 птушка, 11) М. Дабратворскага: каля 10 тысяч шасьціножак (зборы 1923—26 г.) і каля 5 тысяч збору 1928 г., сысуноў 5 шт.

V. Выставачны аддзел музэю складаецца з сыстэматычных колекцый сысуноў і птушак (шэраг шаф) і 27 біолёгічных вітрын.

VI. Наведваньне музэю. За час з 27/XI-27 г. выставачны аддзел быў адчынены ў працягу 43 дзён, за гэты час яго наведалі 4936 чалавек.

## Катэдра географіі.

На працягу ўсяго 1927-28 г. штат Катэдры складаўся з загадчыка яе, прав. члена ІБК А. Смоліча і асьпіранта М. Азбукіна, прычым апошні для заканчэньня сваёй падрыхтоўкі быў прыкамандыраваны да Географічнага Факультэту Ленінградзкага Унівэрсытэту. Загадчык Катэдры, зьяўляючыся адначасова старшынёй Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі і членам Прэзыдыуму ІБК, большую частку свайго часу павінен быў аддаваць працы па кіраўніцтву Аддзелам. Аднак-жа праца Катэдры ішла згодна вызначанага пляну, прычым для тэхнічнае працы (статыстычнае, картографічнае і інш.) запрашаліся няштатныя супрацоўнікі, пераважна студэнты Унівэрсытэту.

Пасьля зацьверджаньня опэрацыйных плянаў у пачатку зімы 1927-28 г. Катэдра распачала зьбіраньне матар'ялаў да асноўнае географічнае картатэкі, якая мае быць асноўным сыстэматычным зборам усіх матар'ялаў аб паасобных географічных аб'ектах Беларусі, што дасьць магчымасьць з часам апрацаваць поўную географічную энцыклёпэдыю Беларусі, а ў бліжайшыя часы—поўнае географічнае апісаньне Беларусі і зьяўляецца неабходным наогул пры ўсякай географічнай працы. Для сыстэматызацыі матар'ялаў па кожным об'екту была роспрацована спэцыяльная програма-картка, на якой усе весткі аб даным об'екце разьмяшчаліся па 12 групах.

На працягу году былі выбраны і сыстэматызаваны матар'ялы аб 2438 географічных об'ектах Беларусі, чым на гэты год прышлося і абмежавацца дзеля няхвату опэрацыйных сродкаў. Праз ЦБК устаноўлена сувязь з краязнаўчымі організацыямі, якія зьбіраюць на мясцох матар'ялы для географічнага слоўніка.

Для картотэкі выбіраліся таксама накаторыя статыстычныя матар'ялы дробнараённага маштабу, а таксама картографічныя і фотографічныя колекцыі. У склад апошніх паступіла да 150 фотоздымкаў Мазыршчыны, зробленых экспэдыцыяй для вывучэньня Палескае гаспадаркі, 15 фотографій з ільняных раёнаў і звыш 300 фотоздымкаў з сёлетняй экспэдыцыі ў Аршаншчыну і Віцебшчыну.

Картографічныя колекцыі ўзбагаціліся набытымі комплектамі топографічных карт 2-х, 3-х і 10-вёрснага маштабу, картай гандлёва-прамысловых раёнаў Эўропейскай Расіі, зложанай проф. В. Сямёнавым-Цян-Шанскім. Картографічны Інстытут у Ленінградзе ласкава адступіў з сваіх запасаў гіпсомэтрычную карту Эўр. Расіі Тилло 40-вёрснага маштабу і глебавую карту, выданую Дэпартамэнтам Земляробства. Апроч таго, Катэдра атрымала ў падарунак ад Загадчыка АПА ЦК КПБ тав. Абрамчука комплект топографічнай карты Польшчы і сумежных беларускіх раёнаў, выданае ў 1839 годзе.

Дасьледчыя працы Катэдры ішлі пераважна ў кірунку вывучэньня географіі шчыльнасьці насяленьня і мэтодыкі яе картаграфаваньня, а таксама дробнага экономічнага раёнаваньня. Па першым пытаньні рыхтаваліся дызэмэтрычная карта Беларускай ССР 10-вёрснага маштабу і такая-ж карта Заходняй Беларусі. Карты выконваюцца адносным геомэтрычным мэтодам з выкарыстаньнем найдрабнейшых адміністрацыйных дзяленьняў тэрыторыі. Такімі дзяленьнямі для БССР прыняты—сельсаветы, для Заходняй Беларусі—гміны. Колькасьць першых—звыш 1200 (бяз Гомельшчыны) дазваляе пабудаваць карту ізодаз значнае дакладнасьці, якая дае магчымасьці ўстанаўленьня сувязяй разьмяшчэньня насяленьня з рознымі географічнымі фактарамі. Да падобнае працы па Заходняй Беларусі было прыступлена ў вясну 1928 году, прычым, карыстаючыся топографічнымі картамі і навейшымі сьпісамі паселішчаў, устаноўлены граніцы і вымерана плянімэтрам плошча ўсіх гмін Заходняй Беларусі.

Дробнае экономічнае раёнаваньне БССР, з прычыны адсутнасьці сродкаў у ІБК на гэтую мэту, праводзілася сумесна з Беларускім Навукова-Дасьледчым Інстытутам Сельскае і Лясное Гаспадаркі і за яго кошт. Супрацоўнікі Катэдры выконвалі асноўную навуковую працу па кіраўніцтву дробным сельска-гаспадарчым раёнаваньнем на падставе матар'ялаў перапісаў 1916 і 1917 г., выбарачнага перапісу 1927 г. а таксама бюджэтных матар'ялаў і літаратурных даных. Праца гэтая зьяўляецца падставай далейшых прац па экономічным раёнаваньні тэрыторыі, якое зьяўляецца адным з асноўных заданьняў Катэдры.

У ліпні 1928 году Катэдрай згодна пляну была арганізавана невялікая экспэдыцыя для вывучэньня Днепра-Дзьвінскага вадападзелу ў ваколіцах Асінбуду. Тое значэньне, якое электрыфікацыя будзе граць у бліжэйшай будучыні ў гаспадарцы Беларусі і тыя зьмены, якія яна бязумоўна ўнясе ў тып гаспадаркі і характар яго эволюцыі, у самы характар краявіду затрымалі ўвагу Катэдры іменна на гэтым раёне і прымусілі адмовіцца ад проектаванага раней маршруту па Вялікалуцкай акрузе. Для дасьледчыка даны об'ект дае магчымасьць высьветліць дынаміку раёнаўтварэньня ў раёне, тэмп разьвіцьця якога ў сувязі з працай Асінбуду павінен быць найбольшы. Экспэдыцыя грунтоўна вывучала перад усім г. Воршу, якая асабліва цікава дзеля выгоднасьці свайго географічнага палажэньня. З Воршы экспэдыцыя накіравалася на Лёзна, перасекшы і вывучыўшы інтэнсыўныя густазасялёныя раёны пад Воршай, лясныя і балотныя абшары Аршанскае „Палесіцы“, сярод якое будуецца Асінбуд, вазёрныя групы разьмешчаныя ў даліне Вярхіты ля м. Бабынавіч і ўрэшце Лязьнянскі льняны раён. Другі маршрут экспэдыцыі пачаўся ад ст. Краснае і далей ішоў уздоўж „Палесіцы“, пачынаючы ад яе найбольш глухіх усходніх раёнаў (Чарнаруцкі с.-с.), праз Асінабуд, Дзевінскі с.-с. да Багушэўскае вазёрнае групы, якою фактычна „Палесіца“ канчаецца. Далей маршрут быў прадоўжаны яшчэ на захад у межы Сеньненскага раёну з мэтай азнаёміцца з тыпам паўночна-беларускае чыстае папарнае трохпалёўкі, які паводле пляну Катэдры таксама меўся быць об'ектам яе асобнага экспэдыцыйнага вывучэньня. Аднак цяперашні кароткатэрміновы заезд экспэдыцыі ў Сеньненшчыну трэба лічыць толькі папярэдняй рэкогносцыроўкай, неабходнай для пабудовы пляну далейшых досьледаў у гатым раёне.

Экспэдыцыяй сабраны наогул багаты матар'ял аб Днепра-Дзьвінскім вадападзеле, які складаецца з дзеньнікаў, у якім запісваліся ўсе нагляданьні ўдзельнікаў экспэдыцыі, апісаньняў паселішчаў і паасобных тэрыторый; з 30 бюджэтных апісаньняў сялянскіх гаспадарак, зробленых у 6 гнёздах, з некалькіх сот падворных статыстычных картак, значнай колькасьці выкапіровак з мясцовага статыстычнага матар'ялу (асабліва з падатковай статыстыкі гарадзкога і вясковага насельніцтва), значных фотографічных колекцый (звыш 300 фотоздымкаў) і матар'ялаў для ўкладаньня экономічных карт.

Катэдра географіі распачала падрыхтоўчаю працу на некалькіх новых навуковых прадпрыемствах. Так ёю складзены проект вялікага экономгеографічнага Атлясу Беларусі, які мае быць апрацаваны і выданы ў бліжэйшыя гады. Вя-

лісяя перамовы аб складаньні новае гіпсомэтрычнае карты этнографічнай Беларусі і складзены адпаведны проект.

Апроч вышэйазначанага супрацоўнікі Катэдры выконвалі наступную дасьледчую працу. А. А. Смоліч скончыў распрацоўку матар'ялаў экспэдыцыі для вывучэньня Палескае гаспадаркі, якая адбылася ў 1927 годзе, і здаў у друк працу пад назвай: „Нарыс сыстэмы ральніцтва Мазырскага Палесься“ (5 др. арк.). У справаздачным годзе надрукованы яшчэ дзьве яго працы аб Заходняй Беларусі: „Географический и топографический очерк Западной Белоруссии“ і „Население Западной Белоруссии“, а таксама рэцэнзія на кнігу B. Zaborski. O kształtach wsi w Polsce. М. В. Азбукін здаў у друк працы: „Географічны нарыс Мазырскае акругі“ („Наш Край“), „Паселішчы гарадзкога тыпу ў БССР“, „Палесьсе і Мяшчора“ і рэцэнзію на кнігу Богораза-Тана „Распространение культуры на земле“.

Пры Катэдры географіі працавала няштатная географічная камісія, у якую, апроч супрацоўнікаў Катэдры, уваходзілі Г. Гарэцкі М. Грамыка, Г. Аляксандраў, М. Касьпяровіч. Член географічнае камісіі Г. І. Гарэцкі закончыў і здаў у друк працу: „Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы“ і працягваў свае працы па экономіцы географіі Заходняе Беларусі. Г. Аляксандраў напісаў працу „м. Лапічы, Асіпавіцкага раёну“ (2 арк.) і „Яўрэйскае насельніцтва гарадоў і мястэчак Беларусі“ (6 арк.). М. Касьпяровіч вёў працу па беларускай тапоніміі.

З мэтай публікацыі вынікаў працы Катэдры географіі і сумежных з ёю галін запроектавана выданьне пастаяннае сэрыі пад назваю „Матар'ялы да географіі і статыстыкі Беларусі“. І-ы том матар'ялаў сабраны і адрэдагаваны на працягу справаздачнага году, зданы ў друк і ў значнай меры надрукаваны. Ён зьмяшчае ў сабе: капітальны досьлед члена географічнае камісіі Г. Гарэцкага „Межы Заходняе Беларусі ў Польшчы“, працу М. Азбукіна: „Паселішчы гарадзкога тыпу ў БССР“, і некаторыя іншыя працы. Падрыхтаваны да друку матар'ял для II тому гэтай-жа сэрыі.

## Катэдра антрополёгіі.

1) У пачатку 1927—28 г. Катэдра антрополёгіі выпрацавала і надрукавала поўную програму антрополёгічных дасьледваньняў, паводле якой іх і праводзіла. Програма складаецца: а) з дэмографічнай часткі, б) антропомэтрычнай (апошняя складаецца з памерных і апісальных адзнак), в) рэфлексолёгічнай, г) фізіолёгічнай, д) гемотолёгічнай і е) эўгенічнай.

2) З мэтай выяўленьня тыпу беларускага маладняка організавалася антраполёгічнае дасьледваньне студэнцтва БДУ і слухачоў Пэдтэхнікуму. Пачалі працу ў студзені месяцы г. г. Дасьледваньні праводзіліся па апрацаванай раней, памянёнай у п. I, поўнай програме.

З прычыны падрабязнага дасьледваньня, для ўдзелу ў працы былі запрошаны супрацоўнікі-спэцыялісты ў колькасьці 6 асоб. Дасьледвана 350 асоб студэнтаў. У маі месяцы праца часова спынена з прычыны пачатку канікулярнага тэрміну.

3) У чэрвені і верасьні мес. былі праведзены дзьве антраполёгічныя экспэдыцыі. Першая экспэдыцыя адбылася ў Магілеўскай акрузе, у раёне р. Ухлясьці і Проні; дасьледвана па падрабязнай програме з працамі па дасьледваньні нэрвовай дзейнасьці і ізааглютынацыі крыві—360 асоб беларусаў мужчынскага полу.

Другая экспэдыцыя была ў Аршанскай акр., у Копыскім раёне па р. Дняпры і дасьледвана 300 асоб мужчын.

Апрача гэтага, набыты матар'ял у Менскай акрузе, Пухавіцкім раёне, па ізааглютынацыі крыві і індэксах чэрапоў сялян, у ліку 250 асоб мужчын і жанчын. Усяго з паказаных месц ёсьць матар'ял на 1260 асоб.

4) Праца па вывучэньні вышэйшай нэрвовай дзейнасьці (па мэтоду сьлінаадлучальных умоўных рэфлексаў І. П. Паўлава) на нормальным чалавеку, праводзілася над 10 асобамі сыстэматычна. Ня гледзячы на тое, што Катэдра антраполёгіі не карысталася неабходным асобным пакоем—кабінкай, усё-ж з сабранага матар'ялу некаторыя вынікі аб складаньні умоўных рэфлексаў у чалавека набыты.

Амаль што ўсе законы, устаноўленыя вопытамі над сабакамі ў лябораторыі І. П. Паўлава, былі правераны на чалавеку і атрыманы новыя даныя, спэцыяльна характарныя для чалавека.

Апрача таго, сконструяваны прыбор „рэфлексомэтр“ для вымярэньня рухавых умоўных рэфлексаў, дасьледваньне праводзіцца па мэтоду „дзеяньняў па сыгналу“.

Праца пры дапамозе гэтага прыбору ўвайшла ў праграму антраполёгічных дасьледваньняў студэнцтва БДУ, а таксама і антраполёгічнага дасьледваньня сялян-беларусаў у час экспэдыцый. Вынікі гэтых дасьледваньняў у сучасны момант апрацоўваюцца і падрыхтоўваюцца да друку.

5) У студзені м-цы 1928 г. была выканана камандыроўка ў Ленінград у лябораторыю акад. І. Паўлава для дэмонстрацыі мэтодыкі сьлінаадлучальных умоўных рэфлексаў ў прыстасаваньні да чалавека. У камандыроўцы

прымалі ўдзел: проф. А. К. Ленц, д-р А. А. Сьмірноў і д-р Р. І. Раскіна.

Памянёная мэтодыка была цалкам ухвалена акад. І. П. Паўлавым, які пажадаў, каб былі забясьпечаны адпаведныя вонкавыя ўмовы для разьвіцьця гэтых значных прац. Гэтая мэтодыка дэманстравалася і ў Маскве на Ўсесаюзным Зьезьдзе нэўропатолёгаў і псыхіятраў, дзе таксама выклікала ўхваленьне з боку ўдзельнікаў зьезду (гл. водзыў у навуковым часопісе „Прырода“ № 4 за 1928 г.). Артыкул з апісаньнем гэтай мэтодыкі зьмешчаны ў „Зборніку артыкулаў ІБК“ 1928 г. і ў Маскаўскім „Медико-биологическом журнале“ Гос. изд. 1927 г., вып. IV.

6) Па організацыі музэю выпрацаваны плян і сьпіс неабходных экспонатаў. Зроблена ўмова аб загатоўцы на заказ і выпісцы адпаведных макетаў чарапоў, частак костак і г. д. для характарыстыкі пэрыоду эволюцыі ад малпы да чалавека. У сучаснасьці ёсьць сэрыя чарапоў курганнага пэрыоду, набыты два шкілеты—мужчынскі і жаночы нормальнага чалавека; у невялікай колькасьці ёсьць зарысоўкі тыпаў беларусаў Магілеўскага раёну, фотографічныя здымкі Мазырскага, Слуцкага і Аршанскага раёну, а таксама і дыяграмы, якія характарызуюць беларуса на падставе праведзеных Катэдрай вымераў і вылічэньняў.

7) У маі месяцы пасьля спыненьня антрополёгічнага дасьледваньня студэнтаў БДУ, а іменна, 31 мая, была організавана і праведзена Ўсебеларуская антрополёгічная конфэрэнцыя, на якой прысутнічалі дактары-антрополёгі з Полацку, Мозыра, Магілева, Бабруйску, Воршы, Менску. Мэтай гэтай конфэрэнцыі зьяўлялася:

а) інформацыя аб Катэдры антрополёгіі ІБК,

б) азнаямленьне з прынцыпамі працы,

в) азнаямленьне з плянам працы на наступны тэрмін,

г) організацыя сувязі Катэдры антрополёгіі з працаўнікамі раёну на мясцох.

У выніку ўстаноўлен плян і уніфікацыя сумесных антрополёгічных прац усіх акруг Беларусі, прычым Катэдра антрополёгіі ўзяла на сябе зьбіраньне матар'ялу і апублікаваньне прац, зробленых на мясцох, а акругі абавязаліся прадставіць адпаведныя матар'ялы для надрукаваньня (па пляне, выпрацаваным конфэрэнцыяй).

8) Па меры намнажэньня матар'ялаў вядзецца распрацоўка яго і падрыхтоўка да друку.

Надрукаваны наступныя працы:

1) Проф. А. К. Ленц. „Матар'ялы да організацыі антрополёгічных дасьледваньняў на Беларусі“.

2) Д-р А. А. Сьмірноў. „Антраполёгічная характарыстыка групы беларусоў Менскай акр.“.

3) Д-р А. А. Сьмірноў і д-р Баграад Ф. А. „Табліцы чарапных і тварных індэксаў“.

4) Д-р Д. Л. Эйнгорн. „Матар‘ялы да антраполёгічнага вывучэньня беларусоў і яўрэяў г. Менску ва ўзросьце 6—14 г.“.

5) Д-р Л. М. Моносзон-Любіна. „Аб фізычным стане вучняў працоўных школ Гомеля“.

6) праф. А. К. Ленц і д-р А. А. Сьмірноў. „Методика условных слюноотделительных рефлексов в применении к взрослым людям“.

Памянёныя працы зьмешчаны ў „Зборніку артыкулаў ІБК.“ 1928 г.

7) Праф. А. К. Ленц. „Рецэнзія на артыкул Талько-Грынцэвіча“. (Запіскі Аддзелу Прыр. і Госп. І.).

8) Д-р А. А. Сьмірноў. „О черепах курганного периода“.

9) Д-р А. А. Сьмірноў. „Условные рефлексы у эпилептиков в сравнении с нормальным человеком“. Над. ў журн. „Современная психоневрология“ 1928 г.

Прыгатаваны да друку:

10) Проф. А. К. Ленц. „Вытварэньне сьледавых умоўных рэфлексаў у дарослага чалавека“.

11) Д-р А. А. Сьмірноў і д-р Баграад Ф. А. „Матар‘ялы, сабраныя экспэдыцыяй на Князь-возера“.

Ва ўсёй праробленай працы апроч штатных працаўнікоў прымалі ўдзел наступныя асобы:

Д-р Ф. Б. Баграад, д-р Н. Е. Макуева, д-р П. Г. Вішнеўскі, д-р В. Н. Каўцэвіч, д-р Ржавускі і В. І Стражэўскі.

## Ляборатория экспэрымэнтальнай біолёгіі.

Усю дзейнасьць ляборатории можна падзяліць на тры часткі: організацыйную, навукова-дасьледчую і экспэдыцыйную.

Ляборатория ня мела штату і праца яе праводзілася ў парадку дадатковае нагрузкі без аплаты. Дырэктарам ляборатории быў П. В. Трамповіч, які і вёў усю навукова-дасьледчую і організацыйную працу.

Організацыйная праца па абсталяваньні ляборатории адняла шмат часу і энэргіі. Наш рынак надта слаба забясьпечаны неабходнымі рэактывамі і фарбамі, складаньне запасу матар‘ялаў зьвязана з настойлівай працай і выкарыстаньнем усіх выпадковых магчымасьцяй. Затое ляборатория забясь-

печана самымі неабходмымі рэактывамі і фарбамі прынамсі на год.

Ляборатория забясьпечана мікраскопам, праўда ня вышэйшае якасьці, але такім, які дае магчымасьць весьці чарговую працу. Здабыты мікратом, награваючыя прылады і аўтаклаў. Абсталявана неабходная мэбля, якая ўжо паступае ў ляборатарыю.

Навукова-дасьледчая праца ляборатарыі пачалася з моманту атрыманьня замежнага абсталяваньня, неабходнага для анатомічнага аддзелу ляборатарыі, г. зн. з 22 ліпня 1928 г.

Ляборатория ня меля опэрацыйнага пакою і экспэрымэнтальная праца праводзілася ў опэрацыйным пакоі топографічнае анатоміі Б. Д. У.

Праведзена дасьледваньне адносна асяродзьдзя мязгавых органаў і здадзена ў друк праца: П. В. Трамповіч. Да пытаньня аб асяродзьдзі мязгавых органаў сабакі ў норме і паталёгіі.

Другой працай, якая закончана начарна, зьяўляецца экспэрымэнтальная частка працы па высьвятленьні шляхоў спалучэньня забрухавіньніцы з органамі брушнае поласьці ў сабакі. Зараз зьбіраецца літаратурны матар'ял і мяркуецца гэтую працу падрыхтаваць да друку ў другім томе Запісак Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі ІБК.

Экспэдыцыйная праца праводзілася па дасьледваньні мясцовасьцяй, якія маюць курортнае значэньне. Пройдзена маршрутам паўночная частка Полацкае і заходняя частка Віцебскае акруг. Да друку рыхтуецца справаздача па гэтай экспэдыцыі.

### Хэмічная ляборатория.

Пэрсонал ляборатыі ў мінулым годзе складалі:

Старшы хэмік—В. Я. Вяршук, Хэмікі аналітыкі—А. З. Лабановіч і П. С. Трус—(да 16 сьнежня 1927 г.).

Ляборанткі—З. С. Шапеткіна, Г. А. Абрамовіч (з 16 студзеня 1928 г.).

Практыканты — М. Е. Абрамчук з 12 лютага 1928 г. Н. Я. Кнып з 1 сакавіка 1928 г. і часовы працаўнік інж. Л. Я. Данцоў з 16 ліпня 1928 г.

В. Вяршук выконвае абавязкі загадчыка ляборатарыі. Ляборатория мела толькі 2 штатныя адзінкі, з якіх аплачвала працаўнікоў. Рэшта-ж працавала пазаштатам.

У сувязі з пераходам Хэм. ляборатарыі ў памяшканьне па Шырокай вул. і выкліканым гэтым пераходам пераабсталяваньнем, якое было прыблізна скончана каля 5-6 сьнежня

1927 г., лябораторыя пачала плянавую працу толькі ў сьнежні 1928 г. Але доўгі час не магла наладзіцца праца як патрэбна. І толькі пасьля таго, як лябораторыя атрымала асобны пакой і абсталяваньне яго, што адбылося ў пачатку красавіка, супрацоўнікі былі пастаўлены ў больш-менш адпаведныя ўмовы працы, толькі з гэтага моманту і можна лічыць пачатак нормальнай працы лябораторыі.

За мінулы год лябораторыя набыла значную колькасьць апаратаў: печ для элемэнтарнага аналізу, печ В. Мейера, рэфрактомэтр, прылада Орса, прылада для азначэньня азоту, полярызацыйны апарат, паветраны рухавік і інш.; набыла шмат рэактываў і пасуды, набыла шмат плятынавае пасуды: 2 міскі, 7 тыгляў, шчыпцы, шпатэлі, трыкутнікі, набыла 4 хэм. сталы і інш.

Згодна часовай інструкцыі і пляну працы лябораторыі на 1927-28 акад. год, праца лябораторыі складаецца з навукова-дасьледчай працы і хэмічных аналізаў.

Навукова-дасьледчую працу павінен весьці старшы хэмік В. Я. Вяршук. З трох тэм, увайшоўшых у плян—тэма „Прыродныя фарбы Беларусі"—у першай частцы скончана і здана ў друк. Другая тэма—„Утляненьне а і в нафтыльамінаў" у экспэрымэнтальнай частцы скончана. Трэцяя тэма—„Скарыстаньне натравых выварак"—апрацоўваецца.

Апрача таго, старшы хэмік Вяршук дасьледваў, па заданьні Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі, узор малочнага соку і гумападобнай масы, здабытых у Беларусі.

Б. Хэмічныя аналізы павінны рабіць супрацоўнікі лябораторыі.

У справаздачным годзе паступіла:

аналізаў . . . —56 або азначэньняў—813
зроблена аналізаў . —48 „ з —756, або 93 проц.

Аналізы рабіліся для:

1. Экспэдыцыі па вывучэньні курортных мясцовасьцяй —4 аналізы вады—або 50 азнач.

2. Камісіі па вывучэньні хатніх рамёстваў 7 аналізаў гліны—усяго 88 азнач.

3. Геолёгічнага Інстытуту:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 12 | аналізаў | крэйды . . . | 184 азнач. |
| 11 | „ | вапняку . . . | 151 „ |
| 5 | „ | гліны . . . . | 56 „ |
| 2 | „ | фосфарыт. . . | 28 „ |
| 1 | „ | буры жаляз. . | 13 „ |
| і 13 | розных парод . . . . . | | 166 „ |

4. Краўніцтва Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі 1 досьлед гумападобнай масы—20 азнач. Усяго 756 азнач.

## Камісія для вывучэньня прамыславасьці.

Камісія заснавана 19 кастрычніка 1927 г. з мэтай сыстэматычнага ўсебаковага вывучэньня прамысловасьці, яе суадносін з іншымі галінамі народнае гаспадаркі і навуковае дасьледваньне базы для яе далейшага разьвіцьця.

Для кіраваньня працай быў абраны Прэзыдыум Камісіі, які склаўся з наступных асоб: Старшыня—т. Стракоўскі У. К., Нам. Старшыні—тав. Галавінскі А. К., Сакратар—тав. Ярмашэвіч І. М.

Камісія аб'яднала навакол сябе працаўнікоў навукова-дасьледчых і гаспадарчых установ, якія займаюцца вывучэньнем прамысловасьці Беларусі. У склад Камісіі ўваходзілі: Пятровіч І., інж. Станкевіч К., Вяршук В. Я., проф. Розанаў Л. П., проф. Каплан Г. А., інж. Хржаноўскі Д. П., Розанблят У., Рыўкін, Розін, Шульман, Макрыцкі, Руткоўскі Е. С., Пыліла В. К., Бяшкоў М., Карповіч У., Андрэеў А., Арцем'еў В., інж. Каранеўскі В., Рак Р.

Дзейнасьць Камісіі. Праца Камісіі вялялся па распрацаванай Прэзыдыумам програме. На мінулы год было вызначана тэм—дакладаў: па экономіцы прамыславасьці—10, па энэргетыцы—3, па хэмічнай тэхнолёгіі—4, організацыя музэю прамысловасьці, падрыхтоўка да правядзеньня экспэдыцыі; устанаўленьне сувязі з навукова-дасьледчымі і гаспадарчымі ўстановамі і падрыхтоўка да організацыі Інстытуту Прамысловасьці.

За справаздачны час адбылося 18 паседжаньняў Прэзыдыуму і Пленуму Камісіі, на якіх было прысутных у сярэднім 12—16 чалавек. Апрача сяброў Камісіі на сходах прысутнічалі і госьці.

На паседжаньнях Камісіі разгледжана 57 пытаньяў, як організацыйных (аб асабовым складзе, пляне працы, экспэдыцыях, каштарысе і г. д.), так і дасьледчага характару. Былі заслуханы наступныя даклады і справаздачы:

1. І. Пятровіч — Аб фінансаваньні капітальных страт у прамысловасьці і электрыфікацыі.
2. проф. Л. П. Розанаў—Біолёгія дражджавое прамысловасьці.
3. У. Розанблят—Аб казэінавай вытворчасьці ў Беларусі.
4. Е. Е. Руткоўскі—Водна-чыгуначныя шляхі, як фактары разьвіцьця прамысловасьці.
5. т. Шульман—Прамысловасьць мястэчак БССР.
6. інж. Галавінскі—Фабрыка штучнага шоўку, як крок да хэмізацыі БССР.
7. проф. Прыляжаеў—Справаздача аб замежнай камандыроўцы.

8. І. М. Ярмашэвіч—Справаздача аб камандыроўцы ў Маскву з мэтаю азнаямленьня з пастаноўкаю працы ў Музэі і набыцьця дапаможнікаў.

9. І. М. Ярмашэвіч — Пэрспэкцыйны 5-цігадовы плян працы Камісіі.

Даклады выклікалі заўсёды абмен думак і ў спрэчках прымаў удзел значны лік таварышоў. Частка дакладаў рыхтуецца да друку.

На працягу году Камісіяй вялася праца па высьвятленьні сыравіннае базы паасобных галін прамысловасьці і падрыхтоўка да яе дасьледваньня. У гэтым-жа кірунку сёлета праведзены дзьве экспэдыцыі:

1. Дасьледваньне браварнае прамысловасьці і ўплыву яе на вакольную гаспадарку.

Экспэдыцыя ў складзе т. Бандарчыка і Ярмашэвіча па спэцыяльна ўкладзенай програме дасьледвала наступныя бровары: Янаўскі (Багушэўскі раён), Абольскі (Сеньненскі раён), Ленінскі (Горацкі р.), Задабрасьцянскі (Крычаўскі р.), Бялынкавіцкі (Касьцюковіцкі р.), Салтанаўскі (Рэчыцкі р.), Чалюшчавіцкі (Капаткевіцкі р.), Камаровіцкі (Петрык. р.).

Поруч з гэтым у раёне кожнага бровару экспэдыцыяй дасьледвана да 36 сялянскіх гаспадарак.

2. Дасьледваньне смалярна-шпігінарнае прамысловасьці ў Палесьсі (Гомельшчына і Мазыршчына).

Экспэдыцыю праводзіў навук. прац Я. Троська, па програме, укладзенай сумесна з доцэнтам Каратковым і проф. Шкацелавым (БСГА).

Ня гледзячы на галоўную перашкоду,—адсутнасьць памяшканьня,—Камісіяй у мінулым годзе зроблены пачатак організацыі Муэю Прамысловасьці. Сабраны экспонаты па ільнянай, дрэваапрацоўчай і хэмічнай прамысловасьці, а таксама аб Віцебскай акулярнай і трыкатажнай фабрыцы.

На адбыўшыхся пры камісіі нарадах абгаворвалася пытаньне аб утварэньні Камітэту па вывучэньні бульбы і яе перапрацоўкі і аб заснаваньні Інстытуту прыкладных навук.

Урэшце трэба адзначыць, што ў канцы году са складу Камісіі выдзелілася Катэдра хэмічнай тэхнолёгіі, самая камісія перайменавана ў камісію для вывучэньня экономікі прамысловасьці.

## Камісія для вывучэньня хатніх рамёстваў.

1927-28 справаздачны год для Камісіі прайшоў пад сьцягам аб'яднаньня навокал яе распыленых па розных установах паасобных працаўнікоў, якія наогул цікавяцца вывучэньнем хатняй прамысловасьці, або непасрэдна вядуць

працу ў кірунку яе адраджэньня ці рэгуляваньня разьвіцьця. Наогул трэба зазначыць, што БССР не асабліва багата такімі працаўнікамі, але ўсё-ж удалося згрупаваць пэўны кадр маладых мясцовых працаўнікоў, якія ахвотна аддаюць свае сілы і веды для дасьледваньня гэтай галіны, і ў нашых умовах досыць паважанай галіны, народнай гаспадаркі. У працы Камісіі прымалі ўдзел прадстаўнікі Дзяржпляну, ВСНГБ, Цэнтральнае Статыстычнае Ўправы, Акрстатбюро, Белкустпрамсаюзу, Белсельбанку, Усекабанку і Аб'яднаньня працколектываў. У якасьці консультантаў прыцягваліся да працы проф. Рыбнікаў А. А. (Масква), проф. Арцымовіч А. М. (Менск, Бел. Дзярж. Унівэрсытэт) і шэраг працаўнікоў Інбелкульту. Камісія аб'яднала 15 асоб—у гэтым ліку Прэзыдыум з 3-х асоб—старшыня камісіі А. Г. Трахімаў, нам. старшыні Хэйфец Л. Е. і сакратар Рак Г. П. Дзякуючы вялікай нагрузцы па аснаўной працы, частка сяброў Камісіі, зразумела, не магла прымаць актыўнага ўдзелу (пісаць і зачытваць свае труды) у працы Камісіі. Але ўсё-ж мы павінны адзначыць, што і гэтая група працаўнікоў, прысутнічаючы на пасяджэньнях камісіі, значна дапамагала ўстанаўленьню правільных поглядаў на тую ці іншую зьяву ў галіне хатняй прамысловасьці.

Пасяджэньні Камісіі былі адчыненымі і ў іх прымалі ўдзел і не сябры Камісіі. За справаздачны тэрмін адбылося 12 пасяджэньняў, дзе разгледжана 35 розных пытаньняў. З дакладаў, якія былі заслуханы на гэтых пасяджэньнях, трэба адзначыць наступныя: 1. Шляхі саматужнага ткацтва ў БССР—Руткоўскі Е. С. 2. Тэхніка народнага ткацтва Бабруйскай акругі—Рак Г. П. 3. Экономіка народнага ткацтва Бабруйскай акругі—Рак Г. П. 4. Апрацоўка рогу ў БССР—Ластоўскі В. Ю. 5. Ганчарства ў паселішчы Бабынавічы Віцебскай акругі—т. Сяргеенка. 6. Програма для вывучэньня народнага ткацтва ў БССР—Рак Г. П. 7. Прынцыпы картаграфаваньня кустарна-рамесьніцкай прамысловасьці—Рак Г. П. 8. Пэрспэкцыйны пяцігадовы плян працы. — Рак Г. П. 9. Рэфэрат кніжкі Яніны Орынжынай Przemysł ludowy w województwach Wilenskiem, Nowogradzkiem, Poleskiem, Wolynskiem, Рак Г. П.

Апроч адзначанага, Камісія выканала яшчэ наступныя працы: 1. Напісана інструкцыя для вывучэньня базараў 2. Скончана статыстычная апрацоўка ўсіх матар'ялаў, якія патрэбны для картаграфаваньня промыслаў і рамёстваў БССР 3. Зложаны карты пашырэньня ганчарства, рамёства наогул ільнярскіх раёнаў. 4. З мэтай вывучэньня ўдзелу экспанатаў хатняй прамысловасьці на раённых выстаўках распрацаваны, разасланы і на 40% ужо сабраны анкеты. 5. Камі-

сіяй было ўзьнята пытаньне аб організацыі рамесьніцкай выстаўкі. Гэтае жаданьне зьдзейсьніць не ўдалося, але замест выстаўкі ўдалося залажыць краму для рэалізацыі кустарна-рамесьніцкіх вырабаў пры Белкустпрамсаюзе і ў апараце апошняга—мастацкі аддзел. Камісіяй-жа апрацавана і ўстава для крамы і мастацкага аддзелу. Па ініцыятыве Камісіі пры Белкустпрамсаюзе організаваны Камітэт дапамогі разьвіцьцю кустарна-рамесьніцкіх мастацкіх вырабаў, старшынёй якога зьяўляецца старшыня камісіі А. Г. Трахімаў. 6. Організавана экспэдыцыя для дасьледваньня народнага ткацтва Аршанскае акругі. Экспэдыцыя працавала ў Талачынскім, Аршанскім, Дубровенскім, Горацкім і Мсьціслаўскім раёнах. За час працы экспэдыцыяй запоўнена 73 формуляры, якія ўсебакова характарызуюць экономіку народнага ткацтва; запоўнена 30 анкет тэхнічнага зьместу, зроблена 30 фото-здымкаў розных процэсаў народнага ткацтва і прадзіва, а таксама зроблена 80 зарысовак розных узораў тканін і прылад, якія ўжываюцца ў процэсах прадзіва і ткацтва. Для Музэю набыты 63 экспонаты розных тканін Аршаншчыны—у гэтым ліку 18 узораў народных паясоў. 7. Скарыстана камандыроўка ў Маскву з мэтаю азнаямленьня з навейшай мэтодолёгіяй у галіне дасьледваньня кустарна-рамесьніцкай прамысловасьці. Там-жа набыты шэраг патрэбных у працах камісіі дапаможнікаў.

Працы камісіі складаюць звыш дзесяці аркушоў. З іх 2 аркушы надрукаваны, пяць друкуюцца і тры падрыхтаваны да друку.

Гаспадарчыя органы ўжо ў даны момант карыстаюцца ці выказваюць жаданьне скарыстаць вынікі працы Камісіі. Так Белкустпромсаюз на падставе досьледаў Камісіі організуе шэраг арцеляй для ткацтва мастацкіх узорных тканін і для ткацтва паясоў.

## Камісія для вывучэньня коопэрацыі.

Не зважаючы на тую надзвычайна вялікую ролю, якую мае коопэрацыя і колектывізацыя ў сыстэме савецкага будаўніцтва, да апошняга году ў Беларусі ня было навуковай установы, якая-б стала займалася іх вывучэньнем. Гэты недахоп і быў крыху папоўнены ўтварэньнем пры Аддзеле Прыроды і Гаспадаркі ІБК Камісіі для вывучэньня коопэрацыі.

Прэзыдыумам ІБК Прэзыдум Коопэрацыйнай Камісіі быў зацьверджаны ў складзе 3 асоб: М. М. Наўлянскага—старшыня Прэзыдыуму Камісіі, А. Г. Трахімава—нам. старшыні Камісіі і А. Л. Ярашчука—сакратара Камісіі. У такім

складзе Камісія існуе і па гэты час. Штатных адзінак яна ня мела і ня мае, а працуе на дабраахвотных пачатках.

Першай і асноўнай задачай Прэзыдыуму было: аб'яднаньне ў Камісіі лепшых беларускіх навуковых працаўнікоў, якія, разам з сваёй бягучай працай у розных установах, вядуць навукова-дасьледчую працу па кoопэрацыі і колгасах. Другой задачай было: організацыя сталага вывучэньня кoопэрацыйнага руху на Беларусі.

Праца Камісіі пачалася фактычна з лютага месяца 1928 году. З гэтага, прыблізна, часу каля яе аб'яdналіся навуковыя працаўнікі-коопэратары розных устаноў і коопэрацыйных цэнтраў Беларусі. З іх адзначым галоўнейшых, якія прымалі больш-менш сталы ўдзел у працы Камісіі: С. Пэўзьнер—доцэнт БДУ, Расін—асьпірант БДУ і консультант Дзяржпляну, П. Хоцкі--навуковы сакратар Земпляну НК Земляробства, А. Рыбакоў—Кіраўнік Плянава-Экономічнага Аддзелу Бéлсельсаюзу, Каплан—Кіраўнік Коопэрацыйнай Сэкцыі ЦСУ і найбольш выдатныя працаўнікі розных коопэрацыйных цэнтраў Беларусі.

Першы год працы Камісіі для вывучэньня коопэрацыі насіў пераважна навукова-організацыйны характар, што знайшло належны адбітак у тых дакладах, якія былі зроблены на пашыраным паседжаньні Камісіі. Так, на працягу 6—7 месяцаў былі зроблены наступныя даклады:

1) Аб мэтах і задачах працы Камісіі—дакл. А. Г. Трахімаў.

2) Аб пляне працы Камісіі на 1928 г. і на бліжэйшае 5-годзьдзе—дакл. А. Л. Ярашчук.

3) Аб мэтодолёгіі картаграфаваньня колгасаў і коопэрацыйных організацый Беларусі (праца рыхтуецца да друку) — дакл. А. Л. Ярашчук.

4) Аб коопэрацыйнай прамысловасьці БССР (праца падрыхтавана да друку)—дакл. Каплан.

5) Аб навукова-дасьледчай працы па коопэрацыі і колгасах у буйнейшых цэнтрах Саюзу: Маскве, Ленінградзе, Кіеве і Харкаве (справаздачны даклад у зьвязку з камандыроўкай у Маскву і Ленінград)—дакл. А. Л. Ярашчук.

6) Програма і мэтод досьледу: 1) Уплыву коопэрацыі на організацыю рыначнай малочнай гаспадаркі і 2) Вывучэньню накладных выдаткаў у малочнай коопэрацыі—дакл. А. Л. Ярашчук і З. Г. Белавусаў.

У чэрвені працу сваю Камісія спыніла ў зьвязку з выхадам большасьці яе саброў у адпачынак, у сувязі з чым былі аднесены на восень ужо падрыхтаваныя тры даклады на наступныя тэмы:

1) Колгасы БССР і пэрспэктывы іх разьвіцьця (часткай гэты даклад ужо надрукованы ў час. „Сельская і лясная гаспадарка“ за жнівень-верасень 1928 г.)—дакл. Л. Агееў.

2) Рацыянальныя формы спажывецкай коопэрацыі (таксама часткай гэты даклад ужо надрукованы ў час. „Савецкае Будаўніцтва“—дакл. М. М. Наўлянскага.

3) Асноўныя прынцыпы організацыі спэцыяльных відаў сельска-гаспадарчай коопэрацыі Беларусі—дакл. А. А. Рыбакова.

Наколькі важны распрацованыя Камісіяй даклады, відаць з таго, што галоўныя прынцыпы апошняга дакладу (А. А. Рыбакова) атрымалі апробацыю коопэрацыйнай камісіі ЦКП(б)Б і Сэсіі Савету Белсельсаюзу і ляглі ў аснову проекту пабудовы сыстэмы сельска-гаспадарчай коопэрацыі Беларусі, які (проект) падаецца на зацьвержаньне Ураду БССР.

Апрача таго, Камісіяй распрацоўваецца і рэшта тэм, якія прадугледжаны плянам на 1928 г., зацьверджаным Прэзыдыумам ІБК. Так па картографаваньні коопэрацыйных організацый Беларусі (матар'ял да проблемы географічнага разьмяшчэньня ў БССР розных тыпаў коопэрацыйных першапачатковых організацый і колгасаў)—тэма распрацоўваецца А. Л. Ярашчуком,—ужо сабраны ўвесь матар'ял, апрача таго, атрымана звыш 500 анкет па коопэрацыі. Меркавалася к 20 X-28 г. скласьці альбом карт коопэрацыі і колгасаў БССР. Але з прычыны адсутнасьці сродкаў на аплату Картографа,—праца ня скончана.

У зьвязку з складанасьцю тэмы: „Рацыянальныя формы пабудовы коопэрацыі на Беларусі“, утворана для яе распрацоўкі спэцыяльная група ў 7 чалавек на чале з М. М. Наўлянскім. Часткай (па сельска-гаспадарчай коопэрацыі) гэта тэма ўжо распрацована. Група павінна скончыць гэтую працу і падрыхтаваць матар'ял да друку не пазьней 20—25 сьнежня 1928 г.

Таксама для вывучэньня гісторыі спажывецкай коопэрацыі ўтворана група з 5 асоб на чале з Л. Г. Трахімавым. Па гэтай тэме пакуль што зьбіраецца матар'ял. Распрацоўка даволі багатага матар'ялу яшчэ не пачата з прычыны адсутнасьці сродакаў.

Тэма: „Коопэрацыя Беларусі ў параўнаньні з коопэрацыяй сумежных краін“ распрацоўваецца Пэўзьнерам і Расіным.

Па вывучэньні накладных выдаткаў у коопэрацыі праведзена членам Камісіі З. Г. Белавусавым пад кіраўніцтвам А. Л. Ярашчука невялічкая экспэдыцыя па вывучэньні накладных выдаткаў у малочнай коопэрацыі. Гэтай экспэдыцыяй ахоплена 5 молочных арцеляй самых буйных у Бела-

русі. Матар'ял экспэдыцыі ўжо апрацаваны і праца рыхтуецца да друку. Замест экпэдыцыі па вывучэньні накладных і арганізацыйна-гандлёвых выдаткаў у спажывецкай коопэрацыі была, па пастанове Камісіі, арганізавана праца па вывучэньні ўплыву коопэрацыі на арганізацыю рыначнай малочнай гаспадаркі. Па гэтай тэме праведзены пад кіраўніцтвам А. Л. Ярашчука па програме, ім-жа распрацованай, экспэдыцыйны досьлед, якім ахоплена 5 малочных арцеляй і каля 4000 гаспадарак. Экспэдыцыяй сабраны багаты матар'ял, які дазваляе ня толькі высьветліць пытаньне аб уплыве коопэрацыі на арганізацыю рыначнай малочнай гаспадаркі, але і вывучыць шэраг балючых проблем, зьвязаных з продукцыяй малака, з яго перапрацоўкай і збытам малочных продуктаў. Мяркуецца матар'ял гэтай экспэдыцыі распрацаваць і выдаць на працягу 1928-29 г.

Такім чынам, Камісіяй разгорнута праца нават шырэй, чым меркавалася плянам на 1928 г. Але, дзякуючы тым умовам, у якіх яна знаходзілася і знаходзіцца, праца яе ня толькі ня можа быць пашырана, але прэзыдыум Камісіі ня мае ўпэўненасьці ў тым, што нават пачатая праца будзе даведзена да канца.

У мінулым годзе Камісія працавала па-за штатам. Ёй з каштарысу Аддзелу было вызначана 700 руб. з опэрацыйных і экпэдыцыйных грошай. У бягучым годзе Камісія зноў апынулася па-за штатам. Вопыт мінулага году паказаў, што праводзіць навукова-дасьледчую працу, апіраючыся на дармовыя сілы, задача надзвычайна цяжкая, а падчас зусім немагчымая.

У сувязі з гэтым, а таксама прымаючы пад увагу заданьні, якія стаяць перад ІБК у справе вывучэньня коопэрацыі, прэзыдыум Камісіі падняў пытаньне аб тым, каб Камісію рэорганізаваць у навукова-дасьледчую Катэдру коопэрацыі і колектывізацыі, з такім разрахункам, каб на працягу бліжэйшага 5-годзьдзя ў гэтай Катэдры былі ўтвораны наступныя сэкцыі (ці камісіі):

1) гісторыі і тэорыі коопэрацыі,
2) колектывізацыі,
3) экономікі гандлю і
4) фінансаў і крэдыту.

## Горы-Горацкае Навуковае Таварыства для вывучэньня Беларусі.

Праца Горы-Горацкага Навуковага Таварыства за гэты справаздачны год падзяляецца на дзьве аснаўных часткі: 1) арганізацыйная праца і 2) навукова-дасьледчая праца.

## 1. Арганізацыйная праца.

За паказаны справаздачны год Горы-Горацкаму Навуковаму Таварыству прышлося прарабіць вялікую працу арганізацыйнага характару--гэта рэарганізацыя ўсяго Таварыства на падставе новага Акадэмічнага статуту ІБК. Гэтая праца, даручаная часоваму Прэзыдыуму Таварыства ў другой палове лістапада 1927 году была праведзена і закончана к чэрвеню месяцу 1928-га году. Быў апрацаваны новы статут Т-ва ў адпаведнасьці з статутам ІБК па якім, Т-ва з дабрахвотнай арганізацыі прыняло формы паўдабрахвотнай у сувязі з прыраўнаньнем праў Т-ва да праў самастойных інстытуцый ІБК з пераходам на частковае матар'яльнае забясьпечаньне ІБК. У зьвязку з зацьверджаньнем новага статут пераорганізаванае Навуковае Т-ва было занова ўкамплектавана асабовым складам у колькасьці 37 асоб (сьпіс членаў Т-ва надрукаваны у 5 томе працы Т-ва), а межы дзейнасьці Т-ва набылі выразныя формы праз увязку працы Т-ва з аддзелам прыроды і гаспадаркі ІБК, як яго падначальнай адзінкі.

3-га чэрвеня ўся праца па пераорганізацыі была закончана, адбыўся першы арганізацыйны сход пераорганізаванага таварыства, на якім быў абраны сталы Прэзыдыум Таварыства (І. Кісьлякоў і Ганчарык, М. Бурштэйн, проф. О. Кедраў-Зіхман, Ф. Лунзгерсгаўзен).

Гэтак-жа, за справаздачны час Т-вам праведзена вялікая праца па арганізацыі кнігаабмену з Навуковымі і Навукова-дасьледчымі ўстанавамі, як СССР, так і замежнымі. Абмен з навуковымі ўстановамі СССР наладжаны непасрэдна Т-вам і к гэтаму часу такі абмен вядзецца па Саюзу з 220-ю ўстановамі. З замежнымі ўстановамі абмен вядзецца праз „Усесаюзнае Т-ва культурнай сувязі з-замежамі", прычым замежная рассылка ахватвае да 300 навуковых і навукова-дасьледчых устаноў амаль усіх краін сьвету. У сучасны момант Т-ва ўжо атрымлівае абменны матар'ял з па-замеж (Амэрыка, Нямеччыны, Польшча, Японія, Швэцыя, Фінляндыя і інш.).

За справаздачны час Т-вам выдадзены чарговы V том прац Т-ва. Поўная адсутнасьць сродкаў на выдавецтва ў справаздачным годзе (у печатку году ўсе сродкі па выдавецтву пайшлі на аплату задоўжанасьці ранейшага году) не дазволіла распачаць выданьне 6-га тому. Выданьне апошняга распачынаецца ў бліжэйшыя часы пасьля асыгнаваньня сродкаў на бягучы опэрацыйны год.

Апрача гэтага Т-ва садзейнічала і дапамагала правядзеньню тэрмінолёгічнай працы ў Акадэміі, падрыхтаваўшы на гэты час да здачы ў Інстытут Навуковае Мовы ІБК праекты тэрмінолёгіі па расьлінагадоўлі і лесагадоўлі.

## 2. Навукова-дасьледчая праца.

Навукова-дасьледчая праца Т-ва вялася згодна пляну, уложанаму Прэзыдыумам Т-ва і зацьверджанаму Аддзелам Прыроды і Гаспадаркі ІБК, грунтуючыся на матар'яльных мажлівасьцях бюджэтных асыгнаваньняў ІБК. Усяго было вызначана 21 тэмавае заданьне, з якіх закончана выкананьнем ці знаходзіцца ў стадыі заканчэньня наступныя:

1) Міколёгічнае дасьледваньне Беларусі (проф. М. М. Медзіш).

2) Распаўсюджаньне відаў лясной расьліннасьці на Беларусі (проф. С. П. Мельнік).

3) Фіксацыя ўдала разьведзеных экзотаў на Беларусі (А. Л. Новікаў).

4) Вывучэньне сплаву ў вадазборы ракі Проні (М. Г. Сільніцкі).

5) Вывучэньне смалістасьці Беларускай хвоі (У. В. Шкатэлаў).

6. Вывучэньне ўдзелу мэліорацыі ў зямляўпарадчым процэсе на Беларусі (І. В. Зубрыцкі).

7) Вывучэньне велічыні забалачваемасьці Чапялінскім балотам (Х. А. Пісаркоў).

8) Буферная дзейнасьць глеб Горацкага раёну (Р. Г. Страж).

9) Уплыў лясной гаспадаркі Аршаншчаны на скарыстаньне лішніх рук у сельскай гаспадарцы (Б. Я. Ліпкін).

10) Вывучэньне сарніннай расьліннасьці ў Случчыне (Дзянісаў З. Н.).

11) Вывучэньне розных мэтодаў проектаваньня пры зямляўпарадкаваньні на Беларусі (М. Л. Лейвікаў).

12) Вывучэньне зямельных адносін на Аршаншчыне па докумэнтах 18-19 стагодзьдзя (Н. П. Геніўш).

13) Вывучэньне шкоднікаў хвоі і елкі ў лясох Беларусі (Несьцярчук).

Рэшта тэмавых заданьняў, зьмешчаных у пляне (у ліку 8), ня былі выкананы па розных прычынах (ад'езд навуковых працаўнікоў у замежныя камандыроўкі, няхватка часу і інш.) і замест іх былі выкананы новыя тэмавыя заданьні пасьля ўзгадненьня іх з аддзелам прыроды і гаспадаркі ІБК. Такіх прац было выканана 4, а менавіта:

1) Вывучэньне глін Горацкага раёну (К. М. Кораткаў і І. Т. Іваноў).

2) Вывучэньне беларускіх смол (К. М. Кораткаў і Я. Троська).

3) Вызначэньне апылкавальнікаў пладовых дрэў лябараторным шляхам (М. М. Ганчарык).

4) Уплыў Горацкай малочнай арцелі на жывёлагадоўлю ў Горацкім раёне (Студэнцкі аграномічны гурток пад кіраўніцтвам члена Т-ва Хв. А. Плятнера).

А гэтак-жа без грашовай дапамогі з боку Т-ва былі выканаы наступныя працы:

1) Аб распаўсюджанасьці Bellis parennis L. у Горы-Горках (Сьвірскі).

2) Да пытаньня аб чаканым эфэкце зямляўпарадкаваньня ва ўмовах Беларусі (Камінскі).

3) Да пытаньня аб вывучэньні апылкавальнікаў пладовых дрэў лябораторным шляхам (М. М. Ганчарык).

З гэтых тэмавых заданьняў большасьць ужо закончаны выкананьнем поўнасьцю і частка надрукавана ў Працах Таварыства т. 5, частка падрыхтавана к 6-му тому, а частка заканчваецца апрацоўкай сабранага матар'ялу альбо літаратурнай зводкай. Апрача паказанай навукова-дасьледчай працы, якая вялася непасрэдна ад Навуковага Т-ва, 2 члены Навуковага Т-ва Новікаў А. Л. і Кавалёў М. Е. прымалі ўдзел у экспэдыцыйных працах, організаваных непасрэдна Аддзелам прыроды і гаспадаркі. Першы па геоботанічным абсьледьваньні і другі па геолёгічным абсьледваньні Беларусі. Гэтак-жа сябры Т-ва Афанасьеў Я. М., Рагавы П. П. і Медзьвядзёў праводзілі працу ад ІБК па глебазнаўчым дасьледваньні Беларусі.

За справаздачны год на экспэдыцыйную навукова-дасьледчую працу Т-ва атрымала ад ІБК асыгнаваных у пачатку году на экспэдыцыйныя выдаткі—900 руб. і даасыгнаваных у канцы году на гэтую-ж патрэбу—440 руб. Усяго 1340 руб. і на навукова-опэрацыйныя выдаткі—1279 руб. З гэтых сум экспэдыцыйныя выдаткі ў ліку 1340 руб. усе патрачаны па сваім непасрэдным прызначэньні; з 1279 руб. на навукова-опэрацыйныя выдаткі ля 300 руб. было патрачана на бягучыя опэрацыйныя выдаткі, рэшта—на опэрацыйныя выдаткі па навукова-дасьледчай працы.

## Вяліка-Летчанскі Ботанічны Сад.

Вяліка-Летчанскі Ботанічны Сад да 1928 г. знаходзіўся ў вельмі запушчаным выглядзе: шмат вельмі каштоўных расьлін былі раскіданы па ўсім садзе, ня было пэўнага пляну далейшага разьвіцьця Саду, некаторыя расьліны ня мелі азначэньняў. Сад ня меў належнага абсталяваньня, штату і сродкаў на абсталяваньне лябораторыі, набыцьцё літаратуры і г. д.

Вельмі цяжкія матар'яльныя ўмовы, у якіх знаходзіўся Ботанічны Сад, прымусілі Кіраўніцтва яго зьвярнуць галоў-

ную ўвагу на стварэньне пэўнай эканомічнай базы, якая дала магчымасьць разгортваць у далейшым навукова-дасьледчую працу ў Садзе. З гэтай мэтай закладзены пладовы рассаднік, арганізаваны пчэльнік (21 сям'я), дэкарацыйнае квятнярства (разьвядзеньне руж, якія маюць добры збыт), зроблена пяць сажалак для разьвядзеньня карпаў. Запасны фонд зямлі паступова будзе выкарыстоўвацца для пашырэньня засеву садовых расьлін. Гаспадарка Саду моцная і дае магчымасьць разгортваць працу і ўтрымоўваць пэрсонал пры вельмі слабым бюджэце.

Упарадкаваньне батанічнай часткі Саду выявілася ў наступным: 1) зроблена 1200 батанічных градак для перасадкі расьлін з старых батанічных градак, парослых пустазельлем, 2) перасаджана і заэтыкетавана каля 500 відаў розных расьлін і 163 стракаталісных расьлін, знойдзеных у гэтым годзе на тэрыторыі Батанічнага Саду, 3) павялічан у 2 разы рассаднік садовых дрэў, 4) сабрана больш за 1000 відаў расьлін для гэрбарыя, 5) дабудавана цяпліца і г. д.

Апрача таго, пасаджана 20 гатункаў суніц, закладзены помалёгічны пладовы сад (96 дрэў), прышчэплена каля 150 парод розных пладовых дрэў, у пладовы выхавальнік пасаджана да 10 тыс. дзічкаў і інш. Разам з гэтым праведзены шэраг мерапрыемстваў гаспадарчага парадку для палепшаньня становішча Саду.

Батанічны Сад вядзе і грамадзка-карысную працу сярод акольнага насельніцтва. Так, напр., сіламі Батанічнага Саду ў вясну былі праведзены двухтыднёвыя сельска-гаспадарчыя курсы, якія ахапілі 30 слухачоў-сялян, Сад даваў для насельніцтва рассаду палепшаных гатункаў капусты, караньплодаў і інш.

Супрацоўнікамі Батанічнага Саду падрыхтоўваюцца некаторыя працы для друку.

---

## НАЦСЭКТАРЫ.

### Яўрэйскі сэктар.

У мінулым 1927-28 акадэмічным годзе ў складзе Яўрэйскага сэктару працавалі наступныя камісіі: 1) Гістарычная, 2) Соцыяльна-Эканомічная, 3) Лінгвістычная, 4) Літаратурная і 5) Фальклёрная.

З прац Яўсэктару гэтага году трэба адзначыць:

а) „Цайтшрыфт". Т. 2-3. „Цайтшрыфт", які пачаўся друкаваньнем у папярэднім акадэмічным годзе, быў скон-

чаны ў першай палове справаздачнага году. Памер гэтага тому дасягнуў 90 друк. арк.

б) II Усесаюзны зьезд яўрэйскіх культурных працаўнікоў. Да гэтага зьезду, на якім упяршыню працавала акадэмічная сэкцыя, Яўсэктар ІБК актыўна рыхтаваўся. Быў распрацаваны шэраг плянаў і праграм для розных дысцыплін; гэтыя праграмы былі прыняты ў аснову пастаноў зьезду.

в) Экспэдыцыі. Летам 1928 году Яўсэктар арганізаваў 2 экспэдыцыі ў г. Дуброўну і на Мазыршчыну. У экспэдыцыі ў г. Дуброўну прымалі ўдзел прадстаўнікі Лінгвістычнай, Соцыяльна-Экономічнай і Фольклёрнай Камісій. Імі сабраны: матар'ялы для апісаньня мясцовага дыялекту, матар'ялы для гісторыі ткацтва ў Дуброўне, для гісторыі фабрыкі „Днепровская мануфактура“ і аб яе цяперашнім становішчы, колекцыя розных фольклёрных і этнографічных матар'ялаў.

У экспэдыцыі на Мазыршчыну прымалі ўдзел 2 асобы, якія наведалі: Юрэвічы, Нароўлю, Ельск і Калінкавічы. Імі сабраны значны фольклёрны матар'ял: песьні, мэлёдыі, казкі, народныя драмы, анэкдоты і г. д.

Праца Камісій: I. Гістарычная Камісія працягвала працу зьбіраньня соц.-гістарычных матар'ялаў з рабінскай літаратуры (рэспонсы і інш.). За год сабрана да 20 друк. аркушоў.

Пачата сыстэматычная праца ў Менскім Архіве: закончана рэгістрацыя на карткі матар'ялаў менскага кагалу; распрацоўваецца матар'ял „ревизских сказок“.

Праароблена праца бібліографаваньня гістар. матар'ялаў з старажытнай яўрэйскай прэсы.

Былі прачытаны даклады ў Гістарычнай Камісіі Яўсэктару і на пасяджэньні Клясы гісторыі ІБК на наступныя тэмы:

Тав. Сосіс—„З соцыяльнай гісторыі яўрэяў Беларусі ў 17-18 ст.“, 2) Да разьвіцьця яўрэйскай гісторыографіі; 3) Аб протоколах літоўскага Ваада;

Тав. Аляксандраў—1) Рух яўрэйскага насельніцтва на Беларусі; 2) Да гісторыі асьветы яўрэяў пры Мікалаі I.

У томе 2-3 „Цайтшрыфт“ надрукаваны працы:

1. Сосіса—Яўрэйскі сойм у Літве і Беларусі ў яго заканадаўчай дзейнасьці (1623—1761) паводле яго протоколаў.

2. Вішніцэра—Структура яўр. цэхаў у Польшчы, Літве і Беларусі ў 17-18 ст.

3. Гінзбурга—Узьнікненьне яўр. рэкрутчыны.

4-5. Два артыкулы (Баравога і Бужэвіча) да гісторыі яўр. земляробнай колёнізацыі ў першай палове 19 ст.

6. Кона—Аб адчыненьні яўр. школ у Магілеўскай і Віцебскай губ. у 1808 годзе.

Пры Гістарычнай Камісіі ў справаздачным годзе лічыліся 3 асьпіранты—1 штатны і 2 няштатных, працай якіх кіраваў старшыня Камісіі.

II. Соц. Эконом. Камісія сабрала значныя статыстычныя матар'ялы да статыкі і дынамікі яўрэяў членаў профсаюзаў, статыстычныя даныя аб яўр. саматужніках, аб яўр. землеробах, (калгасы), агульныя статыстыч. даныя аб яўр. насельніцтве на Беларусі. У портфэлі Камісіі маецца гатовая монографія „Бюджэт яўр. сялянскай гаспадаркі". Падрыхтаваны да друку статыстычны зборнік-справачнік. Пачалі апрацоўваць пытаньні аб яўрэях налогаплатніках.

За гэты час у Камісіі былі прачытаны 3 даклады „Аб бюджэце яўр. сялянскай гаспадаркі".

У томе 2-3 „Цайтшрыфт" надрукованы працы:

1-2. Два артыкулы (Угорскага і Каза)—аб яўр. земляробстве на Беларусі.

3. Аляксандрава—Яўрэйскае насельніцтва ў гарадох і м-ках Беларусі.

4. Д-р Эйнгорн—Яўр. рабочая моладзь на Беларусі.

III. Лінгвістычная Камісія. Галоўныя працы Камісіі засталіся тыя-ж, што і раней: яўр. акадэмічны слоўнік, дыялектолёгічны атляс, складаньне тэрмінолёгіі. Для акад. слоўніка за 1927-28 акад. год выпісана 36.500 картак. Для дыялектолёгічнага атлясу разаслана 14.000 анкет, атрымана звыш 5000 адказаў. Лік пунктаў, з якімі падтрымліваецца сувязь, к канцу году дасягнуў 613, лік корэспондэнтаў—1500. З тэрмінолёгій—хэмічная заканчваецца друкаваньнем, земляробная—гатова да друку.

У „Цайтшрыфт" 2-3 надрукованы працы:

1. Вэйнгера—Аб яўр. дыялектах.

2. Вэйнгера—Лінгвістычн. картографія і яўр. дыялект. атляс.

3. Вайнрайха—Аб нямецкім элемэнце ў яўр. мове.

4. Вайнрайха—Яўрэйскае моваведаньне ў XVII ст.

5. Раўрэбэ—Вокалізацыя „Аина" ў сэмітычн. мовах і старажытным „идыш".

6. Кагарова—Да пытаньня аб яўр. этымол. слоў.

IV. Літаратурная Камісія распрацавала плян акадэмічных выданьняў Абрамовіча. Падрыхтавала програму пяцігодзьдзя для ўтварэньня гісторыі яўр. літаратуры з другой паловы XVIII ст. да нашых дзён. У т. 2-3 „Цайтшрыфт" надрукаваны наступныя працы:

1. Дабрушына—Драматургія Шолом-Алэйхема.

2. Нусінава—Да гісторыі варыянтаў „Мэндэлэ".

3. Бурштэйна—Падлік дасьледваньняў „Мэндэлэ".
4. М. Эрыка—Інвэнтар яўрэйскай „шпильман-поэзии".

Пры Камісії ў справаздачным годзе лічыўся 1 асьпірант.

V. Фольклёрная Камісія за мінулы год сабрала: народных песень звыш 1000, прыказак і прысловак звыш 8000, анэкдотаў каля 1000, казак—50, народных драм—15, дзіцячых гульняў звыш 100. Зроблены першыя спробы запісваць народныя мэлёдыі, якіх ужо маецца больш 60. Сабраны таксама загадкі, забабоны і г. д.

У 2-3 т. „Цайтшрыфт" надрукаваны

1. Праца Гольдбэрга — Аб макаронізмах у яўр. нар. песьні.

2. Цэлы шэраг фольклёрных матар'ялаў.

VI. Праца інструктара краязнаўства выявілася галоўным чынам у ЦБК і складалася ў рэдактаваньні розных матар'ялаў для журналу „Наш Край", у падгатаваньні інструкцый і анкет, у працы па лініі Наркамасьветы (падрыхтоўка праграм па краязнаўству для тэхнікумаў і ВУЗ'аў, мэтодычныя лісты „краязнаўства ў школе" і г. д.), надрукавана асобнай брошурай праграма для дасьледваньня мястэчка, падрыхтаваны да друку матар'ял для дасьледваньня м-ка Лапічы.

## Польскі сэктар.

Польскі сэктар у мінулым 1927-28 ак. годзе складаўся з Рады сэктару, 3-х сталых камісій: гістарычнай, мовы і літаратуры і этнографічнай і 3-х падкамісій: слоўнікавай, лінгвістычнай і літаратурнай.

Кіраўнікам Сэктару і старшынёю рады быў т. С. Гэльтман, нам. кіраўніка і старшыня гістарычнае камісіі — тав. Я. Віткоўскі, старшыня Камісіі Мовы і Літаратуры і Слоўнікавае Камісіі—т. Я. Гэльтман, старшынёй этнографічнае камісіі — т. У. Ляндзбэрг, старшынёй лінгвістычнае п/камісіі—т. Ч. Дамброўскі і старшынёй літаратурнае п/камісіі—т. А. Друскоўскі.

Протокольных паседжаньняў у Сэктары было 18, на якіх, між іншым, былі зачытаны даклады, якія ўвойдуць у № 1 штогодніка Польсэктару.

Гістарычная Камісія выканала наступную працу:

а) Вывучыла дакладна Віцебскі гістарычны архіў што да паўстаньня 1863 г. „Зямлі і Волі" і рэволюцыйных гурткоў 70 г. г.; перапісала там матар'ялы да выданьняў, каля 100 арк. друку.

б) Перапісала ў цэнтральных Ленінградзкіх архівах матар'ялы, якія датычаць паўстаньня 1863 г. на Беларусі, 1812 у б. Менскім дэпартамэнце і да рэволюцыйнага руху ў мінулым стагодзьдзі.

в) Апрацавала і здала ў друк матар'ялы да паўстаньня 1863 г. у Віцебшчыне (каля 70 друк. арк.).

г) Здала ў друк монографічную працу: „Рэволюцыйныя гурткі 70 г. г. на Беларусі" і падрыхтавала „Зямля і Воля" ў сувязі з паўстаньнем 1863 г. ў Віцебшчыне (Я. Віткоўскага) і „Ўдзел палякаў у Кастрычнікавай рэволюцыі (С. Гэльтман. Красны, Борскі).

д) Падрыхтавала да друку матар'ялы цэнтральных фондаў да паўстаньня 1863 г. ў Магілеўшчыне.

е) Апрача таго, вывучала розныя пытаньні, якія войдуць у выдавецтва гэтага і наступнага году.

Камісія мовы і літаратуры (ва ўсіх падкамісіях).

а) Падрыхтавала да друку польска-беларускую частку слоўніка (60.000 слоў) і апрацоўвала белоруска-польскую.

б) Здала ў друк працы: „Аб мове філёматаў (К. Даўкшы) і бібліографію польскіх выданьняў у СССР за 1917-27 г. г. (Краснага і Борскага).

в) Апрацоўвала слоўнік польскіх провінцыялізмаў на Беларусі і іншыя працы, якія будуць друкавацца ў гэтым або наступным годзе.

г) Вывучала матар'ялы Ленінградзкіх бібліотэк да сваіх бягучых прац.

Этнографічная камісія.

а) Падрыхтавала і здала ў друк матар'ялы Асіпавіцкае экспэдыцыі 1927 г.

б) Апрацоўвала шэраг монографічных прац, якія войдуць у выдавецкі плян гэтага або наступнага году, у сувязі з чым вывучала этнограф. матар'ялы Ленінградзкіх і Кіеўскіх бібліотэк, апрача мясцовых.

в) Наладзіла этнографічна-краязнаўчую стацыянарную экспэдыцыю ў польскі сельсавет Рудня-Шлягінская, якая там працавала каля $1^1/_2$ мес.

Апрача таго, усе Камісіі Польсэктару прымалі актыўны ўдзел у агульнай працы ІБК, у яго Аддзелах, Клясах і Камісіях.

Польсэктар ў мін. годзе здаў у друк № 1 свайго штогодніка (20 др. арк.), наладзіў сувязь з замежнымі навуковымі ўстановамі і ўстановамі СССР, а таксама з корэспондэнтамі ў БССР.

---

ЗЬМЕСТ.

